*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 1 мая 1987 г. № 18 (3376) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# СА СВЯТАМ МІРУ, ПРАЦЫ І ВЯСНЫ!

## *МАЙ*

Ясны ранак сон Радзімы будзіць—
Па зямлі вясна ідзе-гудзе.
З Першым маем, дарагія людзі!
Добры дзень,
Вясновы светлы дзень!

Павявай над бацькаўшчынай мілай,
Свежы ветрык з цёплай стараны!
Сонцам нас сягоння акрыліла
Свята міру, дружбы і вясны.

Ліся, ліся ў вуліцы і плошчы,
Мора чалавечых галасоў!
Маладыя крочце сцяганосцы
Пад прызыўным шэлестам сцягоў!

Да вышынь ляці, як водгук славы,
Гром аркестраў, песенны прыбой!
Наша маці родная, дзяржава,
Мы адной сям'ёй ідзём з табой!

Да любой работы мы гатовы
Пад зямлёй, у небе, на зямлі —
Толькі ты скажы, Радзіма, слова,
Толькі, Партыя, народ пакліч!

Шчодра, сонца, над прасторай роднай
Цеплыні струмень гарачы лі!
Да вясны і шчасця кроч, народ мой —
Пакарыцель неба і зямлі!

Алесь ЗВОНАК.



У рытмах народнага танца. Народны ансамбль песні і танца «Раніца» Гродзенскага гарадскога Дома культуры.
Фота А. ШАБЛЮКА.

# УЗНАГАРОДЫ — ЛЕПШЫМ



Іван Новікаў прымае пераходны кубак Міністэрства абароны СССР, якім узнагароджаны Саюз пісьменнікаў рэспублікі.

**40 тысяч культурна-шэфскіх мерапрыемстваў правялі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі рэспублікі ў 1986 годзе перад асабовым складам Узброеных Сіл СССР, органамі ўнутраных спраў і моладдзю прызыўнога ўзросту. Прачытана 20 тысяч лекцый, адбылося 2 тысячы творчых справаздач, 3 тысячы экскурсій.**

**Гэтыя лічбы назвала старшыня Беларускай рэспубліканскай камісіі па шэфстве работнікаў культуры і мастацтва над асабовым складам Узброеных Сіл СССР, органаў унутраных спраў і моладдзю прызыўнога ўзросту народная артыстка рэспублікі Л. Давідовіч на вечары, прысвечаным падвядзенню вынікаў шэфскай работы, які адбыўся напярэдадні свята ў тэатральнай зале мінскага Дома афіцэраў.**

**Вечар адкрыў старшыня рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры Л. Сушкевіч.**

**Першы намеснік начальніка Палітычнага Упраўлення ЧБВА генерал-маёр Б. Аляксандраў уручыў пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства абароны СССР Беларускаму рэспубліканскаму камітэту прафсаюзаў работнікаў культуры, які прыняў старшыня гэтага камітэта Л. Сушкевіч, народная артыстка БССР Л. Давідовіч і адказны сакратар Рэспубліканскай шэфскай камісіі М. Гаўрылаў.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі ўзнагароджаны пераходным кубкам Міністэрства абароны СССР, Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага — пераходным Чырвоным сцягам Ваеннага Савета ЧБВА, тэатр оперы і балета і Саюз мастакоў рэспублікі — пераходнымі кубкамі Ваеннага Савета ЧБВА. Сярод адзначаных таксама Акадэмія навук БССР, Мінскі дзяржаўны цырк, калектыў мемарыяла «Брэсцкая крэпасць-герой», Беларуская дзяржаўная філармонія.**

**Ад імя майстроў мастацтваў рэспублікі слова ўдзячнасці за высокую ацэнку шэфскай работы выказала актрыса купалаўскага тэатра З. Белахвосцік.**

**У заключэнне адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел ансамбль песні і танца ЧБВА і вакальна-інструментальны ансамбль «Праспект» Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**
Фота Ул. КРУКА.

# ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ — ЛЕАНІДУ ДРОБАВУ

**Прэзідыум Акадэміі мастацтваў СССР, разгледзеўшы прапановы творчых і грамадскіх арганізацый і ўстаноў культуры, прыняў рашэнне аб прысуджэнні штогадовых узнагарод за лепшыя творы выяўленчага мастацтва, мастацтвазнаўства і архітэктуры. Сярод адзначаных залатым медалём мастацтвазнавец Л. Дробаў — за ўдзел у стварэнні «Гісторыі мастацтва народаў СССР».**

# «ВЕЧАР» НА ЭКРАНЕ

**Кінематаграфічнае жыццё набыла вядомая п'еса лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР А. Дударава «Вечар». На кінастудыі «Беларусьфільм» па гэтым творы І. Дабралюбаў паставіў фільм «Восеньскія сны». У Доме літаратара з удзелам А. Дударава, І. Дабралюбава, аператара Р. Масальскага, мастака Я. Ганкіна адбыўся грамадскі прагляд стужкі і яе абмеркаванне.**

**Свае думкі пра фільм выказалі пісьменнікі А. Вольскі, С. Грахоўскі, П. Макаль, І. Чыгрынаў, навукоўцы Л. Чарнышова, М. Місюк і іншыя.**

## ПЕРАКЛАДЫ

**Марцін Наг, нарвежскі славіст і літаратуразнаўца, перакладчык і паэт, упершыню пазнаёміўся з нашай рэспублікай у 1979 годзе. Тады ён наведаў Мінск, трагічную Хатынь, Саюз пісьменнікаў БССР, музей Вялікай Айчыннай вайны, пабываў на радзіме Янкі Купалы, у Мінскім інстытуце замежных моў. Тут у яго перакладзе ўпершыню на нарвежскай мове прагучаў славуты верш Я. Купалы «А хто там ідзе?», тут былі прачытаны Нагам і некалькі яго паэтычных мініяцюр. Ад сустрэч з беларускім народам у нарвежскага славіста засталіся самыя яркія і хвалюючыя ўспаміны.**

**Вярнуўшыся на радзіму, ён не раз выступае ў перыядычным друку Нарвегіі з публікацыямі пра Беларусь і беларускую літаратуру. Найбольш прыкметнымі з іх сталі: вялікі аглядальны артыкул «Аблічча Беларусі», «Янка Купала — беларускі Нурдуль Грыг». Але, безумоўна, самым значным, што найбольш спрыяла знаёмству нарвежцаў з Беларуссю, яе культурай і гісторыяй, былі матэрыялы, змешчаныя ў зборніку «Сустрэчы» пад назвай «Дарожныя нататкі». У кнігу было ўключана каля 45 невялікіх па аб'ёму паэтычных твораў — мініяцюр. Гэта быў погляд на наш край вачыма замежнага паэта і даследчыка, які прагна цікавіцца славянскімі культурамі, чытае пра іх лекцыі ва універсітэце Осла.**

**Мініяцюры Марціна Нага — гэта своеасаблівы паэтычны свет, роздум і пачуццё, якія ідуць ад убачанага і перажытага; гэта факты і падзеі, выхапленыя з жыцця, зафіксаваныя памяццю ў спалучэнні з багатым жыццёвым вопытам; гэта бачанне свету глыбока індывідуальнае і ў той жа час — агульначалавечае.**

**Вось так проста і незвычайна, па волі шчаслівага лёсу, Марцін Наг не толькі далучыўся да нашай культуры, але і стаў шчырым яе папулярызатарам у сябе на радзіме, адкрыў новую старонку беларуска-нарвежскіх літаратурных сувязей.**

**Прапаную чытачам «ЛіМа» некалькі вершаў нарвежскага паэта ў сваім перакладзе.**

**Уладзімір САКАЛОЎСКІ.**

**Марцін НАГ**

### Дзве мініяцюры пра Беларусь

Хатынь... Беларусы...
Ахвяры... *Цішыня...*
Вечны агонь..
Тры бярозы на варце,
цёмна-шэрыя воблакі
ў небе блакітным.
Бой званоў, як лёс суровы,
бой званоў, як перасцярога
і надзея.
Бярозы і сосны
тут шлях вызначаюць—
Мір.

●

Дом, як валачобнае яйка.
Жыць добра ў ім.
Дом са стракатымі фарбамі
ў манеры Шагала,
з *голубам Пікасо на сцяне*—
беларускі сялянскі дом.
З традыцыямі—
ад матак і сыноў,
дом з рэвалюцыяй—
ад бацькоў і дачок,
дом з водарам Беларусі.
Дом, як паэты—
Янка Купала і Якуб Колас.

### «Зялёны дом»

Дом зялёны, драўляны,
што ў сэрцы Мінска.
Тут партыя
свой першы з'езд заклала.
Так, гэты дом—паэзія
з гісторыяй з'яднаная.
*Мы ж людзі—палітыка,*
а палітыка—гэта людзі.

### Беларуская танцавальная група

Добры вечар—«гут квелт»!
Танец, як свежы подых,
са смакам мёду,
водарам траў—
беларускі танец.

### Твары

Твары беларускія
колеру жыта даспелага,
яблыкаў чырванашчокіх...
Мяккія, як трава зялёная,
*іскрыстыя, як росы раннія,*
пяшчотныя, як палі
бяскрайнія...
Музыкі беларускія,
танцоры, спевакі і змагары.
Песня беларуская—
такая блізкая, прывабная
ці слухай, ці спявай.
Яна, як рэха-водгук
часоў далёкіх, калі мы
варагамі прыходзілі сюды.
І чуецца ў ёй—
цнатлівасць польская
і прыбалтыйская мелодыя,
і водгук рускага напеву...
Я ўспамінаю песню тую,
што рускі хор спяваў
на вуліцы Сальмер
даўным-даўно
ў сорак сёмым.
Танцоры беларускія,
музыкі, спевакі:
яшчэ мацней, яшчэ буйней,
яшчэ шчырэй, яшчэ бялей!

### У Музеі Вялікай Айчыннай вайны

Ля стэнда немец прыпыніўся...
На фатаграфіі салдат фашысцкі
на фоне ярка палыхаючае
вёскі,
што першым уварваўся
ў гэты край.
Ці пазнае ён сам сябе?
На твары роспач і адчай—
Цяпер ён новы чалавек.

### Белая Русь

Ёсць край, які знайшоў сябе.
Той край завецца Белай Руссю.
Паміж Прыбалтыкай і Украінай,
Расіяй, Польшчай, як суседка
жыве, мяжуе Беларусь.
Адкуль узнікла слова «белы»
у *назве краю—Белай Русі?*
Ці ад бялка у яйку,
ці аб бялка у воку?
Якая розніца, адкуль яна
паходзіць:
ад лугу, ці ад рэчкі,
ад развіцця, ці дзеяння,
ад пачуцця, ці фарбы.
Галоўнае—ёсць форма белая
і сутнасць белая і белая
будова.

### Янка Купала і беларускі народ

Купала спазнаў боль, пакуты
народа
і думы яго запаветныя зведаў,
і жар палымянай душы...
Пабачыўшы свету ліхога
нямала,
ён драму пра лёс беларуса
напіша—
«Раскіданае гняздо»...
«Вязынка»—надпіс
на шыльдзе пакажа
дарогу ў маленства
Янкі Купалы,
алею ў шатах елак зялёных,
што гэтак падобны да нашых,
нарвежскіх...
Кастрычнік Купала прыняў
беззваротна,
вітаў яго ў Мінску,
у «Доме зялёным»,
на роднай мове, перакладам
«Інтэрнацыянала» Пацье.

●

Колас—Гамсун беларускі,
сын лесніка... Яго бацька
служыў у польскага магната.
Ён па прафесіі настаўнік,
а ў глыбіні душы бунтар
супроць прыгнёту і царызму...
Ён член настаўніцкага з'езда,
які адбыўся нелегальна,
за што як вязень палітычны
сядзеў за кратамі астрога...
Пра лёс сялянства Беларусі
на зломе бурнага стагоддзя
ён *«Новую зямлю» напіша...*
А рэвалюцыю, як волю,
вітаў ён шчыра і аддана.

### Развітанне з Мінскам

Бывай жа, Мінск—горад-герой!
Ты застаешся ў велічным
спакоі
поўны даверу шчырага,
як твой народ!
Бывай жа, Мінск, і вы,
сталіцы жыхары!
Твой воблік яркі, непаўторны,
з гісторыяй з'яднаны моцна,
з выслоўем мудрасці:
«І мы маленькія—вялікія,
падобна, як і твой народ».



Куток школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка.



Прыйдзі, вясна!

Фота Ул. КРУКА.

графічны партрэт, які тут жа намалюе вядомы мастак? Вунь колькі жадаючых вакол графіка Л. Кальмаевай, а пашчасціла пакуль што быць натурай маленькай дзяўчынцы са здзіўленымі вачамі... Бачу, як купілі нацюрморт у маладога мастака У. Шаркова, які некалькі гадоў назад скончыў мастацкае вучылішча. Пацікавілася ў пакупніка, колькі ж каштуе палатно? Цана, шчыра скажам, сімвалічная. Але Валодзя Шаркоў рады, што жывапіс яго зацікавіў чалавека, крануў за душу...

А яшчэ ён расказаў вось пра што: чатыры гады запар паступаў у інстытут, апошні раз не хапіла аднаго бала. І вось тут, на вернісажы, падышоў да яго́ных твораў загадчык кафедры жывапісу БДТМІ П. Крахалёў, уважліва паглядзеў іх і... прапанаваў абавязкова падаваць дакументы зноў, бо, як высветлілася, хлопец час марна не траціў.

Ах, вернісаж!.. Чаго толькі на ім мы ні пабачылі! І выставачныя творы з музейных запаснікаў, і работы выхаванцаў дзіцячых студый і гурткоў выяўленчага мастацтва, і вырабы народных умельцаў... Дарэчы, вунь стаяць прыгожыя драўляныя дошчачкі, сухарніцы. Чые гэта? Аказалася, інжынера-будаўніка з «Белдзяржпраекта», галоўнага канструктара праектаў І. Сянько. Калі разгаварыліся з Іванам Іванавічам, дык ад яго даведалася, што ён член абласнога клуба самадзейных мастакоў. Але, на яго думку, даўно наспеў час у Мінску адкрыць гарадскі клуб рэзчыкаў па дрэве і наогул стварыць Таварыства народных майстроў, як гэта зроблена ў Літве... Так, цяжка з аматарам не пагадзіцца, тым больш, што «ЛіМ» не так даўно засяроджваў увагу кампетэнтных арганізацый на гэтай праблеме. Вернісаж узняў яе зноў...

Здаецца, ніхто ў гэты красавіцкі дзень не пайшоў з выстаўкі з пустымі рукамі — абавязкова набыў што-небудзь на памяць аб ёй. Але галоўнае, і ў гэтым я ўпэўнена, ніхто не пайшоў з выстаўкі з пустой душой, абыякавым. Абыякавым да лёсу нацыянальнага мастацтва. І пацвярджэнне гэтаму — натоўпы цікаўных мінчан вакол мастака-прыкладніка А. Зіменкі, графіка У. Савіча, вакол дзесяткаў іх калег — сённяшніх і будучых. А тое, што расце ім дастойная змена, сведчылі творы зусім маладых мастакоў, сведчыў і конкурс дзіцячага малюнка на асфальце, які праходзіў у парку імя Горкага...

Не хацелася з табой развітвацца, вернісаж...

**Л. КРУШЫНСКАЯ.**

**НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ**

# КАПРАЛ ФРАНЦУЗСКАЙ АРМІІ

**За вагонным акном ліў дождж. Буйныя кроплі моцна барабанілі па шкле. Прысады ўсцяж чыгункі парывіста размахвалі галінамі пад напорам ветру. Мітрафан Лук'янавіч задумліва пазіраў у акно.**

**З Мітрафанам Косікавым мы ехалі рабочым поездам у нашу Старую Рудню.**

**— Што там бачыцца табе скрозь гэтую залеву? —спытаў я. Ён сумна ўсміхнуўся:**

**— Ды вось пабачылася... Ведаеш — нібы наяву. Як той цыбаты француз Андрэ ўсё абдымаў мяне акрываўленай рукой за плячо і таропка гаварыў: «Мерсі, таварыш, мерсі!»**

**З гэтага і завязалася далейшая размова. Я папрасіў Мітрафана расказаць па парадку, як тады ўсё здарылася з ім.**

...Світала. Раніца ліпеньскага дня пачыналася спакойная і цёплая, Мітрафан шыбаваў па дарозе, што перад самай Рудзенкай выскачыла з лесу і адразу заварочвала за крайнюю хату. Ногі нылі ад стомленасці, але ён, баючыся, каб не спыніцца, не прысесці, прыспешваў сябе: «Шырэй, шырэй ступай, нечага кволіцца». У яго роднай вёсцы размясціўся варожы батальён, і аб гэтым трэба было неадкладна паведаміць у атрад. Нялёгка было яму, маладому нявопытнаму партызану, даведацца аб узброенасці батальёна, але ён даведаўся — дапамаглі кемлівыя падлеткі Алесь Ясонаў і Лёнька Таўсцялёў.

Тое, што здарылася на ўскраіне Рудзенкі, адбылося імгненна. З-за плота выскачылі трое, наставілі аўтаматы ў грудзі. Потым — турма ў Бабруйску, катаванні.

Мітрафан цадзіў праз сціснутыя зубы: «Нічога не ведаю». Тоўсты, з калючымі маленькімі вочкамі гестапавец, як гадзюка, сіпеў:

— Не, бандыт, у мяне ты развяжаш язык, — і наводмаш біў гумавай пацугалкай па твары, па галаве.

Потым так вось, як і зараз, ляскаталі па рэйках колы пад «цялятнікам». Толькі тады яму вельмі хацелася, каб магутны вогненны выбух перапыніў гэты ляскат. «Дзе тут партызаны, дзе? — ліхаманкава думаў Мітрафан. — Хай бы яны падарвалі поезд». Жаданне тое было балючае, пакутлівае.

У маленькім закратаваным акне свяціўся лапік неба, мільгалі абрыўкі імклівых воблакаў. Мітрафан прагна глядзеў за краты. Сэрца заходзілася ад смутку, адчування безвыходнасці. Яно балела больш, чым пабітае, параненае цела.

Ляскат колаў абарваўся на дзесяты дзень. «Францыя, — сказаў хтосьці побач з Мітрафанам. — Во куды нас прытарабанілі!»

На ўзбярэжжы заліва Сен-Мало каля горада Пемполь Мітрафана прымусілі будаваць ваенныя ўмацаванні. Гледзячы на вялікія сінія хвалі, што накочваліся на злізаны бераг, ён выразна, да болю ў вачах бачыў, як у яго Прыдняпроўі пырснула белымі кроплямі грэчка, чуў, як стомлена ўздыхала спелая жытняя ніва, і з жудасцю думаў, што сваімі рукамі ўзводзіць заслон на шляху ў родны край. Нярэдка ў бессані яму бачылася: па дарогах і палях, праз лясы і балоты, праз бурныя рэкі ідуць у наступленне чырвонаармейцы. Не, няхай што заўгодна, нават смерць, але працаваць на ворага ён не будзе.

Цяжка было, не ведаўшы мовы, звязацца з мясцовымі патрыётамі. Ды нянавісць да фашыстаў была ва ўсіх сумленных людзей аднолькавая, і яны разумелі адзін аднаго.

У маі сорак чацвёртага года Мітрафан і двое яго сяброў уцяклі з палону. Канваір, што вёў вязняў на работу, нечага зазяваўся, і яны шмыгнулі ў роў. Французская камуністка Жаклін, з якой раней удалося дамовіцца аднаму з сяброў Мітрафана, падрыхтавала веласіпеды. Так уцекачы дабраліся да вёскі Трасіно. Там мясцовая настаўніца некалькі дзён хавала іх, пакуль не пазнаёміла з партызанамі з атрада «Пемполь», які дзейнічаў на паўвостраве Брэтань.

Колькі кіламетраў сходжана па французскай зямлі, колькі разоў давялося ў вялікіх і малых баях зблізку глядзець смерці ў вочы — не змераць, не пералічыць.

Але той цяжкі, жорсткі бой за мост ніколі не сацьмее ў памяці.

У лістападзе сорак чацвёртага года партызаны злучыліся з рэгулярнай французскай арміяй. Атрад разам з воінскімі часцямі быў накіраваны на знішчэнне акупантаў, што апынуліся ў акружэнні. У раёне Трэг'е гітлераўцы рваліся да моста цераз заліў. Чорнымі ланцугамі яны паўзлі на агнявую пазіцыю ўзвода, у складзе якога быў Мітрафан Косікаў.

Вось яны зусім блізка. Іх значна больш, чым партызан, наваляцца і — усё будзе скончана. Ніколі тады ўжо не ўбачыць Мітрафан задумлівых сасновых бароў, хвалістых жытнёвых палеткаў, што калыхалі яго дзяцінства. А ён жа штодзень так імкнуўся да іх душой, так марыў пра іх доўгімі бяссоннымі начамі, узіраючыся ў зорнае чужое неба!

Гінулі партызаны, іх ужо заставалася зусім мала. Загінулі яго сябры, з якімі ён уцёк з палону, загінуў камандзір узвода. Што ж рабіць? Адступаць? Адкрыць дарогу ворагу? Не. Да апошняга патрона, да апошняга ўздыху.

— Узвод, за мной! Ура-а! — закрычаў ён па-руску. Не азіраючыся, кінуўся насустрач гітлераўцам.

Схапіліся ўрукапашную. Мітрафан не заўважыў, як апынуўся побач з Андрэ. Помніць толькі, як над галавой хлопца ўскінуўся цясак. Не хадзіць бы французу па зямлі, калі б Мітрафан не паспеў садануць эсэсаўцу выспятка ў жывот. Цясак слізгануў па руцэ Андрэ.

У тым баі Мітрафана параніла — у запале нават не адразу і пачуў, як востры боль працяў плячо...

Сонца садзілася за Ла-Манш, калі закончыўся бой. Фашысты адступілі. Не многа іх адступіла. Больш засталося ляжаць на полі бою. Там, на подступах да моста, шмат палягло і партызан. Перамогу сустрэлі толькі пяцёра.

Распалены сонечны шар апусціўся за далёкі гарызонт. З мора наляцеў, усхадзіўся вецер, паліў дождж. Мітрафан доўга пазіраў у тую непагадзь. У санчасці яму зрабілі перавязку, і ён, агорнуты ўзрушлівым пачуццём, у якім былі і радасць, і смутак, сядзеў каля акна ў невялікім, наскора абсталяваным пад палату для параненых пакоі. Пакрысе думкі яго адарваліся ад падзей дня. Шырока раскрыліліся, паляцелі ў родную Беларусь, на любую сэрцу Жлобіншчыну. Як там цяпер — таксама ветрана і дажджліва, ці свеціць яснае сонца ў бясхмарным небе? Як рупяцца, ладзяць жыццё на вызваленай зямлі людзі?

Са шпіталя Косікаў выпісваўся капралам арміі Французскай рэспублікі. Гэтае званне яму было прысвоена за той памятны бой.

**...Пазіраючы ў вагоннае акно, Мітрафан Лук'янавіч сказаў:**

**— Так хочацца ўявіць Андрэ цяпер. Які ён? Чым займаецца ў сваёй далёкай Францыі? Што робіць, каб не было вайны, каб раззбройвалася заміраная Еўропа?**

**Ён верыў, што Андрэ не сядзіць склаўшы рукі, не чакае з мора пагоды. Ён дужа хацеў у гэта верыць.**

# Конь Джанібекава

**У музеі заснавальніка сучаснай мангольскай літаратуры Дашдаржыйна Нацагдоржа, якога суайчыннікі называюць «палымяным песняром новай Манголіі», я пабачыў копію выдатнага яго верша «Зорка». Твор гэты, напісаны пяцьдзесят гадоў таму назад, — пра далёкі Марс, які ярка, вабна гарыць у Сусвеце, пра тое, што надыдзе час, і людзі, добрыя, разумныя, шчаслівыя людзі паляцяць да зорак. Верш нагадаў мне радкі Багдановіча:**

**Навошта ж на зямлі**
**Сваркі і звадкі, боль і горыч,**
**Калі ўсе мы разам ляцім**
**Да зор?**

**Там жа, у музеі, ёсць стэнд, прысвечаны асваенню космасу. На большасці здымкаў былі Уладзімір Джанібекаў і мангольскі касманаўт Жугдэрдэмідзійн Гурагча... Я пазіраў на касманаўтаў, якія былі ў скафандрах, а перад вачамі паўставаў той Гурагча — у юрце, у стэпе.**

**Тыдзень таму назад мангольскі пісьменнік С. Эрдэнэ і я былі яго гасцямі. Не тут, ва Улан-Батары, а за чатырыста кіламетраў ад сталіцы, у бацькоў касманаўта, які там якраз адпачываў.**

...Пасярэдзіне юрты па-гаспадарску мясцілася жалезная печка, за ёю стаяў невялікі нізкі квадратны стол і каля яго чатыры нізенькія табурэткі. Мы, чацвёра мужчын, сядзелі за сталом. Частаваліся кумысам:

— Вось так мы і жывём, — гаварыў бацька касманаўта — чабан. — Стэп, авечкі. Кожны дзень, кожны месяц, кожны год адно і тое ж. Здавалася б, сум загрызе. Але ў працы чалавек не сумуе. А чабан працуе. Ды і стэп — гэта ж казка. Усё тут звініць, спявае, жыццём дыхае. А свежай веснавой прыгажосці яго, калі ўсё цвіце, хапае душы чалавека і тады, калі сонца выпальвае зялёнае покрыва, і калі неба сыпле снегам.

Маці Гурагчы паставіла на стол вялікую міску, поўную пахучай, гарачай буузы (накшталт пельменяў).

Мы дружна схіліліся над міскай, а гаспадар працягваў гаварыць:

— У нас у стэпе, калі ў сям'і з'явіўся хлопчык, кажуць: «Чабан нарадзіўся». Мы з Ічынхарал таксама думалі, што і ён,— кіўнуў на Гурагчу, — будзе чабаном.—Усміхнуўся. — А яго вунь у які стэп пацягнула!

— Дык гэта ж ты, бацька, дапамог мне выбраць тую дарогу.—Гурагча таксама ўсміхнуўся. І да чаго ж яны былі падобныя — усмешкі бацькі і сына, адкрытыя і сонечнасветлыя! — Ты навучыў мяне вялікай і простай мудрасці — слухаць голас сэрца. — Ён устаў, здзеў дээл — традыцыйны мангольскі халат. Гімнасцёрка, паўгаліфэ, прыгожыя хромавыя боты — усё пасавала яго ладнай падцягнутай постаці, якая выглядала дужай і лоўкай. У цвёрдых выразных рысах смуглага, круглявага твару, на якім чарнелі шырокія бровы, бачыліся воля і стойкасць характару.

— Сыграем? — Гурагча зняў з лямцавай сценкі юрты марын-хур, павёў смычком па струнах. Скрыпка азвалася мяккай мелодыяй. — Эх, расхініся стэп!..

Легенду пра марын-хур я ведаў, расказаў мне яе Эрдэнэ. Быў у аднаго арата цудоўны скакун. Калі арат імчаў па стэпе, вецер, гуляючы грываю, ператвараўся ў чароўную музыку, якая была чуваць далёка наўкола. Аднойчы злы чалавек ад зайздрасці забіў каня. Гаспадар, жадаючы назаўсёды зберагчы памяць пра свайго любімца, зрабіў з косці і конскага воласа музычны інструмент. Абцягнуў каркас скурай. І струны, як вецер у грыве каня, заспявалі з ранейшай чароўнаю сілаю. Арат упрыгожыў грыф відарысам галавы, каня і назваў скрыпку «марын-хур», што азначае: «інструмент з галавой каня». Узмахнеш смычком — і, здаецца, чуецца шалясценне травы, журчанне раўчука, посвіст птушак.

Да музыкі дадаўся голас Гурагчы і бацькі яго. Песня лілася ў два зладжаныя галасы, густыя і звонкія. Набіраючы моцы, галасы крута ўзляталі ў вышыню, затым сцішваліся, апускаліся да самых нізкіх таноў. Песня была пра стэп і сонца, пра жыццё арата і радзіму. Мяне ахапіла дзіўнае ўражанне, быццам бацька з сынам ніколі ні на хвіліну не разлучаліся. І ў гэтым неаглядным стэпе, і ў бязмежнай касмічнай прасторы яны ўвесь час ішлі плячо ў плячо.

Недзе за разнасцежанымі дзвярамі юрты яшчэ, відаць, лунала рэха дуэту, а Гурагча ўжо завёў «Падмаскоўныя вечары». Тут і мы з Эрдэнэ сталі шчырымі харыстамі.

Потым Гурагча прапанаваў нам паехаць да яго сябра табуншчыка Батсайхана — рады будзе гасцям Батсайхан!

Мы паехалі. «Уазік» наш то ныраў у нізіны, то выскокваў на пагоркі. Па адзін бок воддаль ад дарогі цягнуліся горы. Дзе пакрытыя лесам, дзе бязлесныя. Стэп і горы былі светла-бурага колеру ад засыхаючай травы. Зрэдку цьмяна паблісквалі пабляклай ужо белізной эдэльвейсы.

Батсайхан сустрэў нас каля юрты.

— Ці спакойна пасуцца коні твае? — традыцыйна, як гэта заведзена ў жывёлаводаў, павітаўся з ім Гурагча.

— Спакойна, друг.

— А як гадуецца конь Джанібекава?

— О-о — як!.. Хочаце пабачыць яго?

Гурагча лятаў на касмічную станцыю «Салют-6» да Уладзіміра Кавалёнка разам з Уладзімірам Джанібекавым. Калі потым Джанібекаў быў у Манголіі, пабрацім падарыў яму жарабя.

— Зараз пабачыце.

Коні пасвіліся побач. Батсайхан ускочыў у сядло, і невялікі вогненна-рыжы жарабок імкліва ўрэзаўся ў табун. Адзін кідок аркана, другі... За трэцім рэзвы гладкі двухгодак буланай масці нагнуў галаву, узвіўся на дыбкі і аціх. Здаўся. Раздзімаючы ноздры, напяўся ўвесь, гатовы ў любую мінуту рвануцца з усіх ног. Вочы яго гарэлі іскрамётным агнём неўтаймаванага духу. Я залюбаваўся канём: быў ён надзвычай прыгожы ў сваёй маладой гарачай сіле.

— Таварыш Джанібекаў прыедзе — асядлаю яму скакуна, —Батсайган мякка ўсміхнуўся. —На гэтым кані таварыш Джанібекаў перагоніць наш мангольскі вецер.

Ён адпусціў буланага. Конь колькі секунд стаяў, прагна ўцягваючы паветра ў магутныя лёгкія. Потым, канчаткова паверыўшы ў волю, радасна заржаў, падбрыкнуў, прыпусціў у табун.

...Ціха было ў музеі. Экскурсавод каля стэнда касманаўтыкі расказвала: «Гэта Джанібекаў і Гурагча — у касмічным караблі...» А мне раптам падумалася: «На кані Джанібекава».

**Аляксандр КАПУСЦІН.**

**З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ**

# ВЯСНОВЫЯ РАДКІ

## Ніна МАЦЯШ

### Вяртанне журавоў

Вы жывыя! Вярнуліся! Нейк амаглі
Пашчу стронцыя, продань дарогі!..
Жыравелькі-жураўкі мае, жураўлі,
Сцяг вясны над палескай разлогай!

У Чырвоную Кнігу занесены вы,
Бо, як людзям, не заўжды спрыяла
Вам паветра айчыны, наш кут вякавы,
Дзе зламыснасць любові навучала.

Леціцё! — і вяснеюць бары і палі,
Леціцё! — крышаць лёд рэчкі й рэкі.
Хай жа вашая любасць да роднай зямлі
Не спаткае знішчальнай апекі!

## Мікола ЯНЧАНКА

### Цягне сонечны вырай...

Сонца срэбранай лодкай
Зіхаціць на вадзе.
Прамяністы, дрыготкі
Дзень па кручы ідзе.
З незабыўнага раю,
Што з табою заўжды,
Я табе нагадаю
Свята вольнай вады.
Вунь сінеча якая
Пада мною гудзе!
Я цябе запрашаю
Пастаяць, паглядзець.
Залатым успамінам
З незабыўнай пары
Прагучыць салаўіны
Галасок у бары.
Цягне сонечны вырай
Красавік залаты.
Усміхаюся шчыра,
Усміхніся і ты.

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ

### Вясну я зноўку сустракаю

Шумяць за ўзгоркам раўчукі,
Вясна квяцістая ступае,
А на алешніку гракі
На ўсю ваколіцу гукаюць.

Завуць цяпло. За небакрай
Ляціць крыклівы шумны голас.
Хоць ты бярозку затрымай,
Забралася ў ваду па пояс.

Нібы на нітачцы вісіць
Жаўрук над пачарнелым лугам...
Клякоча бусел, аж асіп.
І па буслянцы ходзіць кругам

Мігнуў цягнік за небакрай,
І грукат колаў замірае.
Я зноў вясну, цудоўны май,
Перад дарогай сустракаю.

## Мікола СТАРЧАНКА

●

Я закіну шапку на сасну,
Не шкадуючы цяпер аб ёй ні грана,
І пайду за Днепр страчаць вясну,
Што выходзіць з сіняга туману.
Дрэмле шчэ маўклівы вербалоз,
У вадзе яшчэ ён па калена.
І, здаецца, цягнецца абоз
Цераз луг, абоз апошні з сенам.
Б'е у твар бадзёры вецярок,
На вясне настоены і лёдзе,
Чую, як калючы халадок
Паўз мяне ў далячынь ўваходзіць.
Лес на даляглядзе, бы мяжа,
Па якой праходзяць поры года.
І вітае чуйная душа
Перамены, што нясе прырода.




Якуб КОЛАС. Новая зямля. Сымон-музыка. Паэмы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1986.

**Заўсёды, калі далучаешся да неўміручых твораў народнага песняра Якуба Коласа, атрымліваеш такое задавальненне, быццам сустракаешся з імі ўпершыню. Асабліва гэта тычыцца паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка», што сталі сапраўднай энцыклапедыяй народнага жыцця. Гэтыя творы прыйшлі да чытача ў чарговы раз.**




І. ПТАШНІКАЎ. Алімпіяда. Раман. Аўтарызаваны пераклад з беларускай У. Кудзінава. М., «Советский писатель», 1986.

**Раман «Алімпіяда» — адзін з самых значных твораў беларускай літаратуры на тэму сучаснасці. Пісьменніку ўдалося стварыць прывабны вобраз галоўнай гераіні Алімпіяды Падаляк, па-сапраўднаму народны характар. Вобраз яе раскрыты з уласцівым І. Пташнікаву глыбокім псіхалагізмам, на шырокім фоне грамадскага жыцця.**




П. ТКАЧОЎ. У ліпені 1917 года. Аповесць і апавяданні. Для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1986.

**Сярод пісьменнікаў рэспублікі, якія паслядоўна і досыць плённа распрацоўваюць ленінскую тэматыку, — Павел Ткачоў. Юным чытачам адрасаваны яго кнігі «Вішнёвая квецень», «Самае галоўнае», «Як разгаралася полымя» і іншыя, у якіх узнаўляюцца пэўныя эпізоды з біяграфіі Уладзіміра Ільіча Леніна, расказваецца пра гады рэвалюцыі.**

**У зборнік «У ліпені 1917 года» ўвайшла аднайменная аповесць (пра жыццё Ільіча ў рабочым пасёлку Разліў пад прозвішчам Канстанціна Пятровіча Іванова), а таксама апавяданні «Зося», «Вераччына ўсмешка», «Малюнак» і іншыя, якія гавораць *пра душэўную шчодрасць,* чуласць, сардэчнасць Ільіча.**



# «АД МОВЫ ДА МОВЫ МАСЦІЛАСЯ КЛАДКА»

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» нядаўна распачало цікавую і перспектыўную серыю «Кніга перакладчыка». У 1986 годзе ў гэтай серыі выйшлі кнігі: «Кахаць — гэта значыць...» Рыгора Барадуліна, «Прыйдзі, стваральны дух» Васіля Сёмухі і «Пах мёду» (на рускай мове) Валянціна Тараса. Майстэрства трох вядомых і вельмі розных перакладчыкаў даволі выразна выяўлена ў іх.

Рыгор Барадулін — шырока вядомы як паэт, але і перакладчыцкая справа даўно стала ў яго творчасці дарогай, па якой ужо так многа пройдзена — ад рускіх, прыбалтыйскіх, сярэднеазіяцкіх прастораў да бязмежжа далёкіх краін, кантынентаў.

Васіль Сёмуха — калі можна так сказаць, чысты перакладчык. Усеагульнае прызнанне яму прынёс пераклад «Фаўста» Гётэ. У новай кнізе сабрана лепшае, яно як бы пазначае схільнасці, напрамкі перакладчыцкіх памкненняў В. Сёмухі: нямецкая, аўстрыйская, польская, латышская паэзія.

Валянцін Тарас — празаік і паэт, які піша на рускай і беларускай мовах і прадстаўляе беларускую прозу і паэзію рускамоўнаму чытачу. Сабранае ў яго «Кнізе перакладчыка» — толькі частка з таго, што зроблена Тарасам у галіне паэтычнага перакладу. Перакладчыцкая праца В. Тараса, плён якой адлюстраваны ў кнізе «Пах мёду», успрымаецца як своеасаблівая служба сувязі, тут суседнічаюць і класіка і вершы паэтаў, якіх зусім нядаўна называлі, а то і яшчэ называюць маладымі.

У паэтычных уступах — арыгінальных вершах, якімі адкрываюцца перакладчыцкія зборнікі Р. Барадуліна і В. Тараса, сустракаецца адна і тая ж метафара для азначэння працы па пераўвасабленні паэзіі на іншую мову: пераклад — кладка. В. Тарас піша:

**Что есть искусство перевода?**
**Интуитивный поиск брода,**
**Чтобы затем по кладкам строк**
**Вслед за тобой читатель мог**
**Брод перейти,**
**Войти в чертог**
**Поэтов братского народа.**

У Р. Барадуліна гэтая метафара робіцца яшчэ больш выразнай:

**Ад мовы да мовы масцілася кладка,**
**Мяняліся прымаўкі, звычкі, апратка,**
**Але гаварыла душа з душою...**

Паэты, мабыць, кіраваліся ў гэтых «прадмовах» блізкімі думкамі, вырашыўшы ў вершах выказаць свае развагі аб тым, што абудзіла ў іх цягу да перакладу. Тым самым яны масцілі яшчэ адну кладку — да сваіх чытачоў: даючы ім магчымасць увайсці ў сваю творчую майстэрню, прыадкрываючы настроем, які абуджаў іх натхненне.

Так, натхненне, як гэта парадаксальна ні гучыць у адносінах да перакладчыка, які не мае права выходзіць за межы арыгінала. Але і ў гэтых межах ён і натхняецца, і творыць. Зараз распаўсюджаным стала паняцце «аўтарская песня», азначэнне, якое даў Уладзімір Высоцкі творам, дзе ў адно паяднаны талент паэта, кампазітара і выканаўцы. Кнігі перакладаў Р. Барадуліна, В. Сёмухі і В. Тараса таксама хочацца назваць «аўтарскімі» таму, што ў кожнай кнізе высвецілася тое, што асабліва сугучна аўтарам перакладаў.

Р. Барадулін уключыў у зборнік пераклады пераважна з замежных моў, але адкрываецца ён «Словам пра паход Ігаравы», і гэта невыпадкова. Пераклад «Слова» патрабаваў не толькі высокага майстэрства, але і ўмення пранікнуцца духам слыннага твора. Перакладчыку патрэбна была смеласць, каб адважыцца ўзяцца за гэтую працу пасля Янкі Купалы, смеласць, каб давесці, што можна і нават неабходна зноў і зноў звяртацца да «Слова»... Чытаеш пераклад Барадуліна і пераконваешся: па-беларуску ён гучыць нязмушана, натуральна. Прывяду адзін урывак, можа, і не самы характэрны, але ён, здаецца, дазваляе адчуць, што пераклад зроблены сучасным паэтам і выкананы чуйна, ашчадна:

**А цёмна было ў трэці дзень:**
**Два сонцы прыцьмелі,**
**абодва барвяныя слупы пагаслі,**
**і з імі два маладзіні ясныя**
**цемраю заваланкліся**
**і ў мора абнізіліся**
**і вялікую дзёрзкасць паганцам дазволілі.**

Р. Барадулін змог узнавіць высокі стыль гучання «Слова» і пабудовай фраз, інтанацыяй, падборам незацяганых паэтызмаў — слоў з народнай лексікі. «Крылялі», «прыцьмелі», «абнізіліся», «борздкі», «люляюць» — падобныя словы перакладчык выкарыстоўвае, каб стварыць адчуванне ўзнёсласці, урачыстасці тону «Слова».

Пераклад «Слова» — нібы ключ, які адчыняе скарбніцу шэдэўраў паэзіі. Услед за ім у кнізе ідуць пераклады з моў суседніх славянскіх народаў — польскай, сербалужыцкай. Знакамітыя імёны — Міцкевіч, Бранеўскі, менш вядомы нам Барт-Ціклінскі. Вершы, выбраныя для перакладу, такія, дзе ўжо не аднаго версіфікатара спасцігла няўдача. Сярод іх санет Міцкевіча «Да Нёмана», дзе так скавана ўсё складанай санетнай формай, што перакладчыку, як кажуць, і павярнуцца няма дзе. Але ён знайшоў патрэбныя словы і рыфмы і, галоўнае, — здолеў захаваць тую натуральнасць гучання, якая так уражвае ў санетах Міцкевіча.

Аддаляючыся ад родных межаў, перакладчыцкая муза Барадуліна вядзе чытача да вяршынь англійскай класічнай паэзіі — да Шэкспіра, Байрана, Шэлі, нямецкай—Гейнэ, французскай — Рэмбо. У размове пра перакладчыкаў-паэтаў амаль заўсёды звяртаюць увагу на ўнутраную сувязь таго, чым жыве сам творца, з тым, што ён перакладае. Вядома, гэтая сувязь існуе і ў Барадуліна, але не хочацца вызначаць яе па знешніх прыкметах. У зборніку «Кахаць — гэта значыць...» змешчаны і яго вядомыя пераклады з Гарсія Лоркі, адзначаныя Дзяржаўнай прэміяй БССР, і вершы кубінскіх, чылійскіх паэтаў ад Гільена, Нэруды і Габрыэлы Містраль да менш вядомых і ці не ўпершыню перакладзеных на беларускую мову—Хосэ Лесама Ліма і Элісэа Дыега. Творчая садружнасць з перакладчыкам Карласам Шэрманам, выдатным знаўцам літаратуры іспанамоўных краін, памножаная на вопыт і натхненне, дапамагла пераадолець цяжкасці, звязаныя з першаадкрыццём твораў, такіх нязвычных, нават можна сказаць экзатычных для беларускай паэзіі.

Зборнік «Прыйдзі, стваральны дух» В. Сёмухі пакідае незабыўнае ўражанне сустрэчы і з новым, і з добра знаемым праз пасрэдніцтва добразычлівага, уважлівага сябра. В. Сёмуха валодае здольнасцю пераўвасаблення ў перакладзе, і ў той жа час яго перакладчыцкі стыль пазнаецца. У чым тут прычына? Васемнаццаць паэтаў, творы якіх змешчаны ў кнізе, вельмі розныя, усе яны з розных эпох, часоў, але В. Сёмуха знаходзіць адметныя сродкі выяўлення, і верш жыве, дыхае, кранае сваёй першароднай свежасцю, нібыта і быў напісаны па-беларуску. Перакладчыку аднолькава падуладныя архаіка народных нямецкіх балад і жывая размоўная інтанацыя паэзіі Юльяна Тувіма. Выдатна спалучаецца антычная вытанчанасць і ўзнёсласць стылю з прастамоўем у «Рымскіх элегіях». Поліфанічнасць, гнуткасць перакладаў асабліва яскрава заўважаецца пры параўнанні розных па эмацыянальным гучанні вершаў Адама Міцкевіча:

**О Маці полька! Генія натхнёнасць.**
**Калі вачыма сына ў бітву кліча,**
**Калі высакароднасць і бунтоўнасць**
**Палянаў колішніх глядзіць з абліччa...**
**(«Да маці полькі»)**

І тут жа:

**П'юць, бурдоляць, калабродзяць—**
**Хто за так, а хто дарма,**
**Дагары нагамі ходзяць—**
**Аж калоціцца карчма!**
**(«Пані Твардоўская»)**

Нельга не захапляцца мовай перакладаў Сёмухі. Ад багацця, надзвычайнай разнастайнасці лексікі ў многім і залежыць раскаванасць гучання верша, які гучыць так жыва, вольна, што нельга не паверыць у сапраўднасць яго Райніса і Славацкага, Рыльке і Норвіда, усяго, што ім перакладзена. Да эстэтычнага захаплення перакладамі твораў ужо вядомых, дзе В. Сёмуха смела ўступае ў спаборніцтва з вядомымі рускімі, украінскімі перакладчыкамі, дадаецца і асалода першага знаёмства, калі адкрываеш для сябе ў яго перакладзе Георга Тракля, Франца Вэрфеля, Тэадора Крамера... В. Сёмуха найчасцей ідзе непратаптанымі сцежкамі, перакладаючы ці не самыя вядомыя творы, ці «не адкрытага» яшчэ беларусамі паэта. Аб гэтым сведчыць і спіс выданняў, з якіх зроблены пераклады. Гэта і своеасаблівая візітная картка перакладчыка, сведчанне высокай культуры яго працы, заснаванай на дасканалым веданні арыгінала.

Зборнік В. Тараса склалі пераклады з беларускай мовы на рускую. Мабыць, ён будзе ўспрымацца своеасабліва, бо ў чытача-беларуса міжволі ўзнікае жаданне параўнаць пераклад з арыгіналам. «Кніга перакладчыка», у адрозненне ад звычайных зборнікаў перакладаў, разлічаных на рускага чытача, гэта яшчэ і справаздача, ці, можа, і экзамен перад землякамі. Асабіста мне ў перакладах В. Тараса ўяўляецца самым важным тое, што яны ў цэлым захоўваюць тую нягучную, някідкую інтанацыю, якая ўласціва беларускім вершам і ідзе ў многім ад мовы. Ёсць нямала паэтаў і «чыстых» перакладчыкаў, якія перакладаюць няхай нават на адну ноту вышэй, але і ад гэтага верш пачынае гучаць фальшыва. В. Тарас знаходзіць словы, якія ў рускай мове яшчэ не сталі дзяжурнымі кніжнымі паэтызмамі. Вось першая страфа з верша Якуба Коласа «Старыя ліпы»:

**Старые липы шумят за стеною,**
**Жалостно, глухо шумят,**
**Грустно кивают они головою,**
**Тихо ветвями скрипят.**

У перакладах В. Тараса чуйна перадаецца настрой арыгінала. Вось, напрыклад, урывак з верша Максіма Танка:

**Мне в ожиданьи утренней зари**
**Над грустными осенними полями**
**Так хочется порой поговорить**
**С моими незабвенными друзьями!**

**Да где они? Одни, как журавли**
**Родимый край покинули навеки.**
**Другие—спят в объятиях земли,—**
**Сырые комья им легли на веки...**

Добра захавана тут чалавечая сардэчнасць, светлы сум, роздум...

Данесці твор у перакладзе без значных страт В. Тарасу ўдаецца, напэўна, таму, што ён добра ведае не толькі мову, але і культуру беларускага народа. Гэта дапамагае адчуць тую мяжу, за якой пераклад становіцца толькі інфармацыяй, згубіўшы паэзію...

Гаварыць пра перакладчыцкія кнігі хочацца, не шкадуючы добрых слоў, бо тут работа сапраўды дабротная. Але калі кожная з кніжак — гэта люстра перакладчыка, то ў ім адбіліся і некаторыя непажаданыя рысы. Тут можна прыгадаць месцамі прыкметную прысутнасць у перакладах Барадуліна — самога Барадуліна, асабліва тады, калі сустракаеш яго улюбёныя словы, яго манеру. Альбо хай сабе і рэдкую ў Сёмухі мадэрнізацыю лексікі, напрыклад, «шмоткі» — ў вершы Тувіма, заўважыць, што часам тэмперамент В. Сёмухі захлёствае пераклад трохі празмерна. Нельга не заўважыць паблажлівасці В. Тараса да беларусізмаў, якія без цяжкасці можна было б перадаць па-руску (батька, хлопчик, верба і г. д.).

Адна заўвага да складальнікаў. Трэба вытрымліваць у кнігах серыі адзінства і ў дачыненні да прадмоў. Пераклады Р. Барадуліна і В. Сёмухі ў кароткіх ёмістых прадмовах добра прадставілі чытачу Міхась Стральцоў і Ала Сямёнава, а да кнігі В. Тараса дадзены толькі біяграфічны звесткі «О переводчике». Думаецца, што прадмова, у якой адзначаюцца асаблівасці творчага почырку перакладчыка, паведамляецца нешта пра паэтаў, творы якіх гучаць у перакладзе, толькі на карысць выданню.

Сёлета нас чакаюць сустрэчы з чарговымі зборнікамі з серыі «Кніга перакладчыка». Яны дазволяць нам лепш убачыць і ацаніць працу нашых перакладчыкаў.

**Міхась КЕНЬКА.**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ДЫЯЛОГ

Філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна рыхтуецца да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Зараз тут — новае цікавае пачынанне: сталі праводзіцца тыдні кафедраў. Распачаць мерапрыемства выпаў гонар кафедры беларускай літаратуры — адной са старэйшых ва універсітэце (сёлета ёй спаўняецца 65 гадоў), бадай, самай аўтарытэтнай на факультэце (з 1960 года яна нязменна займае першае месца ў сацыялістычным спаборніцтве).

У рамках тыдня адбылося адкрыццё аўдыторыі імя заслужанага дзеяча навукі БССР, прафесара, былога загадчыка кафедры М. І. Ларчанкі, прачытаны адкрытыя лекцыі прафесарамі А. Лойкам («Францыск Скарына і яго час»), Д. Бугаёвым («Што пішуць пра Васіля Быкава») і дацэнтам У. Навумовічам («Які ён, герой перабудовы»), праведзены вечар літаратурнага аб'яднання «Узлёт» у студэнцкім інтэрнаце, адбыліся адкрытыя пасяджэнні кафедры і кафедральнага навукова-метадычнага семінара «Літаратуразнавец». У адзін з дзён справаздачу трымала фальклорна-лінгвістычная лабараторыя, што працуе пры кафедры. Выкладчыкі беларускай літаратуры універсітэта наведалі мінскую сярэднюю школу № 122, сустрэліся з вучнямі і настаўнікамі, правялі адкрытыя ўрокі, аказалі школе метадычную дапамогу.

На філфаку па ініцыятыве кафедры была наладжана сустрэча з супрацоўнікамі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі — яе галоўным рэдактарам Іванам Шамякіным, намеснікам галоўнага рэдактара Алесем Петрашкевічам, загадчыкам рэдакцыі Іванам Саламевічам. Яны расказалі аб працы над энцыклапедычным даведнікам «Янка Купала», «Энцыклапедыяй літаратуры і мастацтва БССР», «Зводам помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», іншымі капітальнымі выданнямі. І. Шамякін падзякаваў супрацоўнікам кафедры за актыўную дапамогу ў стварэнні беларускіх літаратурных энцыклапедый. Толькі для даведніка «Янка Купала» супрацоўнікамі кафедры напісана некалькі сот артыкулаў; А. Лойка з'яўляецца членам яе рэдакцыйнай калегіі, адным з навуковых рэдактараў, В. Рагойша і Л. Тарасюк — навуковымі кансультантамі выдання.

З задавальненнем сустрэлі універсітэцкія філолагі намер выдавецтва БелСЭ выпусціць у бліжэйшы час энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час», «Багдановічаўскую энцыклапедыю», чатырохтомную «Гістарычную энцыклапедыю Беларусі», пяцітомны біябібліяграфічны слоўнік беларускіх пісьменнікаў, шэраг замежна-беларуска-рускіх перакладных слоўнікаў (першы з іх — «Нямецка-беларуска-рускі» — ужо знаходзіцца ў вытворчасці).

Тыдзень кафедры беларускай літаратуры завяршыўся сустрэчай з народным пісьменнікам БССР Васілём Быкавым. Актавая зала філфака не магла змясціць усіх, хто хацеў пачуць востраграмадзянскае, праўдзівае, як заўсёды шчырае слова пісьменніка. Амаль дзве гадзіны В. Быкаў вёў адкрыты, зацікаўлены дыялог са студэнтамі і выкладчыкамі універсітэта па пытаннях развіцця сучаснай беларускай літаратуры і беларускай мовы, рэформы вышэйшай і сярэдняй агульнаадукацыйнай школы, адносін да помнікаў гісторыі і культуры. Аўтар «Знака бяды» заклікаў студэнтаў актыўней уключацца ў распачатую партыяй барацьбу з негатыўнымі з'явамі ў нашым жыцці, за дэмакратызацыю, галоснасць, інтэнсіфікацыю працы, адказаў на шматлікія пытанні прысутных.

**В. КАЧАНОВІЧ.**

НАШ ДУХОЎНЫ СВЕТ: ВЫТОКІ і АБСЯГІ

# «УГЛЯДАЦЦА Ў НЕТРЫ ЧАСУ...»

**По старонках «Чырвонай змены»**



МІНУЛЫМ летам рэспубліканская маладзёжная газета «Чырвоная змена» распачала друкаваць тэматычную старонку «Спадчына». На сённяшні дзень выйшла 12 выпускаў—ёмістая ўжо, трэба сказаць, падшыўка. Пры беднасці на папулярныя кнігі гістарычнага зместу, пры ўсвядомленай ужо шырокай маладасведчанасці ў роднай даўніне чырвоназменаўскую «Спадчыну» не будзе памылкай акрэсліць як першую, па сутнасці, спробу даць юнацкай аўдыторыі сістэмную інфармацыю пра нашу старажытнасць, паслядоўна выхоўваць у моладзі аб'ектыўнае ўспрыманне культурных здабыткаў народа, наогул, гістарычную свядомасць. Благаслаўляючы «ў добрую дарогу на пошук спадчыны» маладога чытача, адзін са старэйшын беларускай літаратуры Максім Лужанін пісаў на адкрыццё тэматычнай старонкі: «Газета кліча цябе на немалой цікавасці справу: пільней углядацца ў нетры часу, каб уявіць яго ва ўсёй складанасці і красе, каб узнавіць перад вачыма людзей, якія стваралі гэты час і ўсё, што служыла патрэбам і аздабленню іхняга жыцця. Кожны з гэтых людзей нешта ды пакінуў пасля сябе ў спадчыну, бо не можа ж чалавек звекаваць свой век, нічога не зрабіўшы... Таму мы і звяртаемся да расшуквання спадчыны. Гэта пашырае веданне гісторыі, уводзіць у неабдымны свет жыцця, робіць нас дужэйшымі духоўна...».

Першы нумар «Спадчыны» выйшаў у ліпені — у тыя дні, калі рэспубліка святкуе вызваленне ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Пад рубрыкай «Вечны зніч» «Спадчына» змясціла матэрыял В. Прыбылова, які нагадаў лёс, прызначаны Беларусі гітлераўцамі. Так званы план «Ост» прадугледжваў 25 працэнтаў беларусаў анямечыць, астатняе насельніцтва выселіць («культурны» псеўданім слова «знішчыць»). Меркавалася здзейсніць гэты план за 30 гадоў — гэта значыць, да 1971 года. Калі б не быў адолены фашызм, дык ні нас саміх, ні нашай культуры, ні нашай мовы ўжо не існавала б на свеце. Таму мы не маем права забываць, коштам якіх ахвяр выратавана і захавалася наша спадчына. Аддзячыць за гэта мы можам адным — нічога не згубіць і не страціць. І калі сёння мы шмат што са спадчыны губляем, шмат ад чаго па сваёй лёгкадумнасці адмаўляемся (а то і ўласнымі рукамі разбураем), то самі ўскладаем на сябе недаравальную віну.

У святле гэтага заслуга аглядаемых выпускаў «Спадчыны» бачыцца ў тым, што яны раскрываюць шырокія даляглядды культуры, адлюстроўваюць аб'ектыўную прысутнасць мінулага ў сучасным жыцці, штодзённае сутыкненне мінулага з будучыняй, паглыбляюць наш духоўны зрок. Бо ўяўленні пра спадчыну значнай колькасці людзей, асабліва маладых, абмяжоўваюцца помнікамі архітэктуры, да якіх вядзе экскурсійны маршрут, ды тымі нешматлікімі творамі выяўленчага мастацтва, якія выстаўлены ў лічаных нашых музеях. Публікацыі «Спадчыны» падрываюць гэты небяспечны стэрэатып. Як доказ сур'ёзных намераў рэдакцыі «Чырвонай змены» трэба ўспрыняць тое, што на дванаццаці выпушчаных старонках сустракаюцца толькі два матэрыялы пра агульнавядомыя помнікі, менавіта, гэта фотарэпартажы С. Плыткевіча «Аб чым расказала Камянецкая вежа» і Я. Казюлі «Спатканне з Нясвіжам». Журналісты В. Вадзіціч і С. Трусевіч, якія рыхтуюць «Спадчыну», і створаны пры ёй грамадскі савет трымаюцца іншага накірунку—на малавядомае. Традыцыйнай для старонкі стала рубрыка «З народных жывых крыніц», якая, бадай, самая змястоўная. Тут друкуюцца матэрыялы пра народныя звычаі, абрады, святы, фальклор. «Паглыбленне ў фальклор,—тлумачыць чытачу «Спадчына»,—знаёмства з этнаграфічнымі сведчаннямі парушае прывычны погляд на жыццё нашых далёкіх продкаў як змрочнае існаванне, напоўненае дзікунствам, барацьбой з прыродай, страхам перад яе незразумелымі з'явамі. Так, быў і страх, і неразуменне таямніц прыроды, і клопат за прадаўжэнне жыцця. Але ж быў і такі ўзлёт фантазіі, які стварыў неперасўзыдзеную па мастацкасці паэзію. Яна праз вякі данесла да нас вечна актуальныя маральныя ідэалы і жыццёвую мудрасць, што ўзраслі на глебе працоўнага вопыту народа». У артыкуле «Ад прадзедаў спакон вякоў» філолаг Л. Салавей знаёміць чытача з 30-томным акадэмічным зборам беларускага фальклору. Аўтар трапна заўважае, што ўсё гэтае незлічонае паэтычнае багацце на працягу доўгіх стагоддзяў існавала толькі ў людской памяці, у людскім сэрцы. Можна дадаць, што яно існавала насуперак войнам, насуперак намаганням праваслаўнай і каталіцкай царквы, насуперак бязлітаснаму знешняму прыгнёту. Сярод публікацый гэтага раздзела запамінаюцца нататкі фальклarысткі Г. Барташэвіч «Вясна-вясеначка», прысвечаныя святу гукання вясны, і «Варажыла дзеўчына»—пра змест народнай паэзіі, злучанай з варажбой пад час веснавых і летніх свят, а таксама артыкул фальклarысткі А. Райковай «Масленіца. Сырніца. Запусты». Апошні матэрыял, дарэчы, развейвае туман, які, на падставе недасведчанасці, закрывае для нас рацыянальны змест некаторых даўніх народных абрадаў. Ды і культ продкаў, звязаны з масленіцай, здаецца не самым горшым здабыткам народнага духу. Дарэчы сказаць, масленіца ў пэўнай форме адрадзілася, яна святкуецца зараз на пачатку сакавіка пад назвай «Праводзіны зімы». Але варта прыгадаць, што на сакавік прыпадае гадавіна хатынскай трагедыі. У нумары «ЛіМа» за 29 сакавіка быў надрукаваны артыкул, дзе ішла размова пра неабходнасць адзначэння дня трагедыі Хатыні, як «Дня памяці» ўвогуле ўсіх ахвяр вайны.

Сярод цікавых і, можна сказаць, нечаканых матэрыялаў «Спадчыны» хочацца адзначыць артыкул археолагаў Л. Дучыц і Э. Зайкоўскага «Старажытныя галаўныя ўборы». Надрукаваны пад рубрыкай «Сёння і заўтра беларускай моды», гэты матэрыял падае рэканструкцыю жаночых убораў з VIII па XIII стагоддзе па розных рэгіёнах Беларусі. Разглядаючы малюнкі, дзіву даешся, што мода часоў Рагнеды квітнее і сёння, толькі, хіба, здаецца сваім носьбіткам вялікай заваёвай сучаснай цывілізаванай думкі. Пад гэтай жа рубрыкай у нумары за 8 лютага змешчана паведамленне археолага А. Трусава пра жаночы строй з XVI ст. і адказ чытачам «Спадчыны» галоўнага мастацкага кіраўніка Рэспубліканскага Дома мадэлей У. Булгакава пра ўплыў старажытнага беларускага касцюма на сучасныя мадэлі адзення. Ёсць, праўда, пэўныя перашкоды гэтаму ўплыву. «На жаль,—адзначыў Булгакаў,—матэрыялаў яўна недастаткова, а наяўныя творы абкладзены такімі бар'ерамі, пранікнуць праз якія проста немагчыма. Дастаткова сказаць, што ў запасніках Ленінградскага музея этнаграфіі ёсць унікальныя ўзоры беларускага касцюма. І толькі аднаму спецыялісту Дома мадэлей усімі праўдамі і няпраўдамі аднойчы ўдалося іх убачыць. Тую ж «гасціннасць» сустракаем і ў іншых месцах, уключаючы нашу рэспубліку».

Не паглыбляючыся ў праблему музейных запаснікоў, якая ляжыць па-за межамі агляду, хачу адзначыць на прыведзеным прыкладзе практычны ракурс увагі, абраны «Спадчынай». Ракурс гэты мае на мэце выпрацаваць у маладога чытача свой (замест «заходняга») эстэтычны густ, уменне злучыць культуру мінулага з сучаснымі формамі; нарэшце, выклікаць заклапочанасць пра лёс пакінутых нам продкамі багаццяў.

Зірнуць зацікаўленым вокам на металічныя балконы, аконныя рашоткі, агароджы, дзвярныя ручкі (клямкі) і іншы металічны дэкор прымушае артыкул А. Трусава «Што на твары горада?», праілюстраваны шэрагам паказальных здымкаў. Заслугоўвае падтрымкі і ажыццяўлення прапанова аўтара пра неадкладную пашпартызацыю металічнай аздобы дамоў ва ўсіх гарадах і мястэчках рэспублікі. Бо зараз пры капітальных рамонтах старых будынкаў каваныя і літыя ўпрыгожанні фасадаў і лесвіц без ваганняў і сумненняў знішчаюцца. Спецыялізаванага музея металічных вырабаў у нас няма. За апошнія гады страчаны сотні выдатных твораў гэтага віду мастацтва. Пакуль не позна, трэба зберагчы хоць рэшткі. «У выкананні пастаўленай задачы,—слушна піша А. Трусаў,—можа значна дапамагчы моладзь, асабліва студэнты архітэктурна-будаўнічых тэхнікумаў і інстытутаў, будучыя мастакі і гісторыкі. Справа тут знойдзецца ўсім. Да таго ж трэба ўлічыць, што гэта багатая крыніца тэм для курсавых і дыпломных работ. Кожнаму выпускніку гістфака альбо тэатральна-мастацкага інстытута было б прыемна, што яго праца не будзе пахавана на паліцах роднай кафедры, не пойдзе ў рэшце рэшт на макулатуру, а ўвасобіцца ў канкрэтную справу, за якую скажуць шчырае дзякуй і рэстаўратары, і органы аховы помнікаў».

Гэты заклік да канкрэтнай справы, наогул, не выпадковы на старонках «Спадчыны». Літаральна з першага выпуску пад рубрыкай «Нашчадкі» друкуюцца матэрыялы пра энтузіястаў краязнаўства, якія сваю любоў да роднай гісторыі, свой клопат пра спадчыну здзяйсняюць не на словах, а непасрэдна—справамі, працай. Словы пра замілаванне мінуўшчынай нічога не варты, а справа патрабуе мужнасці. Не пачні дваццаць гадоў назад настаўнік Алесь Мікалаевіч Белакоз збіраць матэрыялы па гісторыі роднай Мастоўшчыны, не было б зараз у вёсцы Гудзевічы знакамітых на ўсю рэспубліку літаратурна-краязнаўчага і этнаграфічнага музеяў. А хутка тут адкрыюцца яшчэ два музеі — лёну і лекавых раслін. Надрукаваны ў гэтай рубрыцы паведамленні і пра іншыя самадзейныя краязнаўчыя гурткі моладзі, напрыклад, пра фальклорна-этнаграфічны клуб пры Хатыніцкай школе Ганцавіцкага раёна, які стаў удзельнікам II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка; пра камуністычны будатрад «Нашчадкі» Мінскага педагагічнага інстытута, які некалькі год запар працаваў на пляцоўках ствараемага на Пцічы Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту; пра навучэнцаў Бабруйскага мастацкага вучылішча, намаганнямі якіх створаны першы ў рэспубліцы музей народнай творчасці і унікальны для нас музей мэблі (усё адрэстаўрыравана рукамі вучняў). Уражваюць і нататкі «Навагрудскія вандроўцы», дасланыя ў «Спадчыну» Т. Царуком, кіраўніком краязнаўча-пошукавай групы пры Навагрудскім Доме піянераў. Гэтая група праводзіла разведвальную шурфоўку старога гарадзішча каля вёскі Байкі, што за шэсць



Аўтографы Васіля Быкава. Фота Г. ЮРЧАНКІ.

кіламетраў ад Навагрудка. Вядомы археолаг Ф. Д. Гурэвіч, якой у Ленінград былі дасланы знаходкі, адказала такім узнёслым лістом: «Вы літаральна закрылі белую пляму на археалагічнай карце старажытнага Панямоння! Вашы знаходкі датуюцца VII ст.!».

Удала кладуцца на старонку «Спадчыны» і матэрыялы «асветніцкага» напрамку, якія друкуюцца пад некалькімі рубрыкамі («Гісторыі варункі», «Сляды мінуўшчыны», «У нататнік краязнаўцы», «Славутыя землякі»). Адметнай здаецца мне публікацыя гісторыка У. Філякова «На барыкадах Масквы», якая апавядае пра ўдзел беларусаў у баях на Прэсні ў 1905 годзе. Як своеасаблівы дэтэктыў чытаецца артыкул «Прыгоды «барацінкі» І. Сінчука, які расшуквае сапраўдную, ужываную людзьмі XVII стагоддзя назву меднай манеты, чаканенай на манетных дварах у час караля Яна Казіміра. Жывыя галасы нашых продкаў гучаць з радкоў цікавай публікацыі «Ліст з далёкага мінулага». Аўтар яе гісторык В. Голубеў знаёміць з сялянскімі скаргамі XVII—XVIII стст. на аканомаў і арандатараў. Жахлівае жыццё паўстае за гэтымі скаргамі, здымаюць яны «рамантычны флёр» з тых часоў, якія на іншае вока здаюцца «залатымі».

Чаго бракуе «Спадчыне»? Галоўным чынам, праблемных матэрыялаў. Па сутнасці, за праблемны можна лічыць толькі артыкул кандыдата архітэктуры Т. Габрусь «У чаканні Рэнесанса», які апавядае пра сучасны стан помнікаў архітэктуры. Стан гэты інакш, чым трывожны, не назавеш. «Дзесяткі помнікаў дойлідства XVI—XIX стагоддзяў,— піша Т. Габрусь,— выкарыстоўваюцца пад склады, агароднінасховішчы, рамонтна-механічныя майстэрні сельскагаспадарчай тэхнікі. Напрыклад: царква-крэпасць у в. Мураванка Шчучынскага раёна (XV—XVI стст.), касцёл дамініканаў у Навагрудку (XVII ст.) францысканаў у Івянцы (XVIII ст.), Смалянах Аршанскага раёна (XVIII ст.) і шмат іншых. Варварскі рэжым эксплуатацыі вядзе да інтэнсіўнага разбурэння гэтых помнікаў, а пасля ставіцца пытанне аб іх аварыйным становішчы, «неэстэтычным» выглядзе і неабходнасці ў сувязі з гэтым разабраць іх ці знесці». Сімвалам такой абыякавасці стаў помнік дойлідства сусветнага значэння — абарончая царква ў в. Сынкавічы Зэльвенскага раёна, якая «працягвае разбурацца: выпадае цэгла, гніюць драўляныя канструкцыі. Не больш чым праз 100 метраў ад помніка выкапаны траншэі для ўгнаенняў, што стварае замест ахоўнай зоны вакол помніка агрэсіўнае асяроддзе для будаўнічых матэрыялаў».

«Спадчына» праз артыкул «У чаканні Рэнесанса» закранула вельмі актуальнае пытанне. Зразумела, правесці рэстаўрацыю некалькіх тысяч помнікаў у бліжэйшы час — справа немагчымая. Але ж амаль не робіцца захадаў па кансервацыі аб'ектаў, не створаны нават мінімальны догляд за імі. Не атрымалі пакуль што арганізацыйнай формы прапановы значнай часткі моладзі скарыстаць для выратавальных работ іх сілы. Набыты вопыт станоўчага ўздзеяння на культурную і маральную атмасферу адроджаных помнікаў мінуўшчыны вымушае не пагаджацца на новыя страты нашай культурнай спадчыны, якія найчасцей маюць месца з-за гістарычнай і эстэтычнай непісьменнасці мясцовых адказных работнікаў.

Хацелася б сустрэць у «Спадчыне» парады бібліёграфа, пэўныя спісы кніг, якія можна і трэба прачытаць для большай дасведчанасці ў пытаннях роднай культуры. Упрыгожылася б старонка і каляндарыкам значных гістарычных падзей, святкаванне якіх у школе, ПТВ ці рабочым інтэрнаце пашырыла б кола цікаўнай да спадчыны моладзі.

На заканчэнне агляду варта адзначыць добрае афармленне «Спадчыны»: прыгожую вёрстку, трапныя застаўкі, павагу да рубрыкі і фотаздымкаў. Прывабны выгляд старонкі дадае ёй папулярнасці. Вось гэтая папулярнасць «Спадчыны» і, увогуле, узрослая за апошнія гады цікаўнасць шырокіх чытацкіх колаў да гістарычнага мінулага свайго краю дазваляе выказаць пэўную, рэальную для практычнага ўвасаблення, прапанову. Паколькі ў рэспубліцы адсутнічае папулярнае перыядычнае выданне па гісторыі, дык мае сэнс выдаваць штогодні альманах, грунтуючыся на падшыўцы чырвоназменаўскай «Спадчыны» і тых паасобных публікацыях, што ад выпадку да выпадку, ад угодкаў да ўгодкаў з'яўляюцца ў іншых органах друку. У сённяшніх абставінах выданне такога альманаха — найбольш танны і просты сродак, каб хоць трошкі наталіць чытацкую прагу да ведаў пра родную мінуўшчыну. Пры добрай волі з боку Дзяржаўнага камітэта па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю такі альманах можа выйсці ўжо ў 1989 годзе. Падставы ёсць. Чаму б іх не выкарыстаць? Гэта было б у духу часу.

Увёўшы «Спадчыну» ў культурны спажытак, газета «Чырвоная змена» ўзяла на сябе немалую адказнасць. Няхай гэтая адказнасць не змяншаецца і дае плён у выхаванні нашай моладзі на духоўным вопыце народа, на лепшых узорах нашай культурнай і гістарычнай спадчыны.

**Кастусь ТАРАСАЎ.**

**КРЫТЫКА БІБЛІЯГРАФІЯ**

# Даследуецца фалькларыстыка...

*А. Фядосік. Беларуская савецкая фалькларыстыка. Мінск. «Навука і тэхніка». 1986.*

Як і ў іншых рэспубліках нашай краіны, фалькларыстыка Беларусі прайшла складаны шлях развіцця. Яна ўспрыняла дасягненні дарэвалюцыйнай навукі, пераадольвала недахопы буржуазных школ. Адразу ж быў узяты разгон ад збірання вуснапаэтычных скарбаў і вывучэння фальклорных працэсаў таго часу да тэарэтычнага асэнсавання сабраных матэрыялаў і іх выдання.

Велізарная па аб'ёму і важная па значэнню сямідзесяцігадовая фалькларыстычная праца не мела грунтоўнага абагульняючага асэнсавання. Кароткія агляды публікацый і тэарэтычных даследаванняў у вучэбных дапаможніках і іншых публікацыях не маглі даць нават агульны малюнак развіцця беларускай савецкай фалькларыстыкі.

Манаграфія А. С. Фядосіка «Беларуская савецкая фалькларыстыка» — першая грунтоўная тэарэтычная праца, прысвечаная паказу дасягненняў вучоных рэспублікі ў збіранні, захаванні і вывучэнні беларускай народнай творчасці і даследаванні сучасных фальклорных працэсаў. Аўтар даследаваў сотні зборнікаў вуснай паэзіі, вялікую колькасць тэарэтычных кніг і артыкулаў, ахарактарызаваў іх, выявіў важнейшыя тэндэнцыі і напрамкі развіцця навукі, раскрыў заканамернасці.

У кнізе паказваецца станаўленне беларускай савецкай фалькларыстыкі ў першыя дзесяцігоддзі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, падрабязна характарызуюцца публікацыі вуснапаэтычных твораў і тэарэтычныя працы 20—30-х гадоў, раскрываюцца асноўныя напрамкі ў навуцы гэтага часу. Нам не даводзілася яшчэ чытаць больш аб'ектыўную ацэнку станоўчых і адмоўных з'яў у фалькларыстыцы перыяду аднаўлення і рэканструкцыі народнай гаспадаркі краіны. Даследчык не скрывае той шкоды, якую прынеслі развіццю савецкай навукі негатыўныя з'явы таго часу. Правільна паказана кіруючая роля Камуністычнай партыі ў выпрацоўцы марксісцка-ленінскай метадалогіі ў вывучэнні вуснай паэзіі, у разуменні ролі і значэння багатай фальклорнай спадчыны для развіцця савецкай культуры. Асвятляецца развіццё краязнаўчага руху ў рэспубліцы. Краязнаўчыя арганізацыі нямала сабралі вуснапаэтычных твораў, многія з якіх даслалі ў Мінск, дзе стварыўся фальклорны архіў.

**Як відаць з манаграфіі, значную збіральніцкую работу вялі вучоныя Акадэміі навук БССР. Была створана фальклорная камісія пад кіраўніцтвам Якуба Коласа. Пачалася падрыхтоўка да выдання народна-паэтычных твораў. Цяпер бібліяграфічнай рэдкасцю сталі тэматычныя зборнікі, у якіх складальнікі змясцілі творы, прысвечаныя Леніну і партыі, Радзіме, Чырвонай Арміі, жанчыне, барацьбе з рэлігійнымі перажыткамі. На жаль, характарыстыка гэтых зборнікаў у кнізе надзвычай сціслая. Больш грунтоўна раскрываецца змест першага тома беларускіх песень, выдадзенага ў 1940 г. Два другія тамы трохтомніка песень, падрыхтаваныя да друку, загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.**

**Падрабязна разгледзеў аўтар нешматлікія тэарэтычныя працы беларускіх вучоных, сярод іх работы М. М. Нікольскага, З. Бядулі, А. Шлюбскага і інш. Нярэдка даследчык палемізуе з імі, лагічна даводзіць правільнасць сваёй думкі, крытыкуе вульгарна-сацыялагічны падыход да аналізу народна-паэтычных твораў.**

Асобны раздзел прысвечаны разгляду зборнікаў народных твораў перыяду Вялікай Айчыннай вайны, а таксама характарыстыцы тэарэтычных даследаванняў вуснай паэзіі гэтага часу. Зроблены вывады аб ролі і значэнні фальклору ў духоўным жыцці беларускага народа суровых ваенных гадоў.

**Найбольшае месца адводзіцца ў манаграфіі даследаванню збораў вуснай народнай творчасці, тэарэтычных прац, якія выйшлі ў свет у пасляваенны і сучасны перыяд. І сапраўды ў гэты час беларуская фалькларыстыка дасягнула найбольшых поспехаў: аднаўлены фальклорныя архівы, у якіх цяпер захоўваюцца сотні тысяч твораў розных жанраў, у тым ліку і запісаныя на магнітафонную стужку; у выніку сістэматычных палявых даследаванняў вывучаюцца сучасныя фальклорныя працэсы; тэарэтычна асэнсоўваюцца багатыя вуснапаэтычныя матэрыялы.**

У манаграфіі грунтоўна раскрываецца дзейнасць такіх выдатных фалькларыстаў, як М. Чуркін, Р. Шырма, Г. Цітовіч, Н. Гілевіч і іншыя. Паказваецца роля П. Глебкі ў разгортванні фалькларыстычных даследаванняў у рэспубліцы ўвогуле і ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, які ён узначальваў 12 гадоў. З манаграфіі відаць, што гэты інстытут стаў цэнтрам навуковых даследаванняў у галіне фалькларыстыкі ў рэспубліцы, яго працы вядомы не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. У вырашэнні асобных праблем вучоныя інстытута займаюць вядучае месца ў краіне. Яны даследавалі гісторыю беларускай народнай творчасці і фалькларыстыкі, выдалі шмат тэарэтычных прац, у якіх вывучаюцца актуальныя праблемы навукі, спецыфіка асобных жанраў і відаў вуснай паэзіі, іх ідэйна-тэматычны змест і паэтыка.

Аднак вельмі сцісла разглядаюцца манаграфіі супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. А гэтыя працы заслугоўваюць такога ж грунтоўнага аналізу, як і работы М. Нікольскага, Н. Гілевіча, Р. Шырмы. Большай увагі заслугоўвае і шматтомны збор беларускай народнай творчасці (кіраўнік работ і рэдактар А. С. Фядосік), удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне навукі і тэхнікі 1986 года.

**Фалькларысты Акадэміі навук БССР не абмяжоўваюцца даследаваннем толькі нацыянальнай народнай творчасці. З кожным годам пашыраецца параўнальнае вывучэнне беларускага фальклору з фальклорам іншых славянскіх народаў. Славістам вядомы працы К. П. Кабашнікава, А. С. Фядосіка, Г. А. Барташэвіч і іншых вучоных, у якіх яны даследавалі важныя праблемы ўзаемасувязей і ўзаемадзеяння вуснапаэтычнай творчасці славянскіх народаў.**

Разгляд асноўных напрамкаў развіцця беларускай фалькларыстыкі не адрываецца ў манаграфіі ад паказу гістарычнага развіцця савецкай краіны, узаемадзеяння беларускай навукі з навукай іншых рэспублік Савецкага Саюза, у першую чаргу РСФСР і Украіны. Аўтар паказвае плённасць уплыву на беларускую фалькларыстыку прац выдатных вучоных краіны: Ю. М. Сакалова, У. Я. Пропа, К. В. Чыстова, М. І. Краўцова, В. Я. Гусева, А. І. Дэя, Б. М. Пуцілава, В. К. Сакаловай, Б. П. Кірдана і іншых.

У параўнаўча невялікай па аб'ёму кнізе аўтар імкнуўся назваць і ахарактарызаваць усе важнейшыя публікацыі і тэарэтычныя працы, зрабіць абагульненні, вылучыць напрамкі і тэндэнцыі развіцця навукі. Зрабіць гэта няпроста. Таму побач з грунтоўным аналізам адных работ ёсць і вельмі кароткія, схематычныя характарыстыкі іншых, часцей за ўсё менш значных публікацый. Увогуле ж манаграфія дае даволі поўны малюнак развіцця беларускай навукі аб народнай творчасці савецкага перыяду.

**М. БАЧКО,**
**кандыдат філалагічных навук.**

г. Ужгарад.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# МАЦУЮЧЫ ЎЗАЕМАСУВЯЗІ

**У СП БССР адбылося пашыранае пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей. З індывідуальнай творчай справаздачай выступіў пісьменнік-перакладчык У. Чапега. Разгляду перакладчыцкай дзейнасці У. Чапегі быў прысвечаны даклад старшага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, кандыдата філалагічных навук У. Сакалоўскага. У дакладзе, у прыватнасці, адзначалася, што актыўная перакладчыцкая праца У. Чапегі і яго жонкі Гундулы адыгрывае значную ролю як у прапагандзе набыткаў беларускай літаратуры сярод нямецкамоўнага чытача, так і ў азнаямленні грамадскасці Беларусі са шматлікімі творамі нямецкіх пісьменнікаў. Амаль 20 год займаецца У. Чапега перакладчыцкай справай. За гэты час створана цэлая серыя перакладаў, якія трывала ўвайшлі ў актыў беларуска-нямецкіх літаратурных узамасувязей. Першай творчай удачай У. Чапегі стаў пераклад на нямецкую мову анталогіі беларускага апавядання, якая выйшла ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы пад назвай «Буслы над балотамі». У анталогію ўключаны апавяданні Я. Брыля, П. Галавача, М. Зарэцкага, В. Каваля, Л. Калюгі, К. Крапівы, Я. Нёманскага і Цёткі.**

**У сямідзесятыя гады адзін за адным з'яўляюцца пераклады У. Чапегі рамана І. Мележа «Людзі на балоце», аповесцей В. Быкава «Абеліск» і «Здрада». Зробленыя непасрэдна з арыгінала, гэтыя пераклады атрымалі высокую ацэнку ў ГДР.**

**Нялёгкім, але важным і істотным для перакладчыцкай практыкі і развіцця культурных сувязей паміж народамі Беларусі і ГДР быў пераклад кнігі У. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі» (1983 г.). Як аб'ект перакладу, гэты твор беларускага пісьменніка нясе ў сабе нямала цяжкасцей. Абумоўлены яны перш за ўсё наяўнасцю гістарычных, геаграфічных, этнаграфічных рэалій, да якіх вельмі складана было падабраць адэкватныя паралелі. Параўнальны аналіз нямецкага тэксту і беларускага арыгінала пераканаўча сведчыць, што У. Чапега з гонарам выйшаў са становішча і даў замежнаму чытачу высокамастацкі пераклад.**

**У 1983 годзе пабачыў свет пераклад аповесці А. Кудраўца «Раданіца», выкананы Уладзімірам і Гундулай Чапегамі сумесна з вядомым нямецкім славістам Норбертам Рандавым. Даклaдчык прывёў некаторыя ацэнкі гэтага перакладу, зробленыя нямецкімі спецыялістамі.**

**Плённа працуе У. Чапега і ў галіне прапаганды твораў вуснай народнай творчасці.**

**У абмеркаванні творчасці У. Чапегі прынялі ўдзел Э. Агняцвет, А. Зарыцкі, В. Нікіфаровіч, В. Рабкевіч, М. Татур, В. Рагойша.**

**Л. КАЗЫРА.**

## ПАЭЗІЯ

Раіса БАРАВІКОВА



# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ВЕРША

НУ, ВОСЬ ЯНО... НАХЛЫНУЛА,
НАЙШЛО!
У ДЗЕЦЯХ МЫ ПАКІНЕМ ТВАРАЎ
РЫСКІ,
І ДУШ ЦЯПЛО, І ДУМ НАШЫХ СВЯТЛО
ПАЗНАЕЦЦА ЗДАЛЁКУ Ў ІХ І ЗБЛІЗКУ.

### Роздум пасля першай страфы

Сярдзіта скажа лоўкі сноб: лафа!
Вучоны мудрасць выкажа: натхненне!
А гэтая прыўзнёслая страфа—
аддушына,
адталіна,
збавенне...
Нібы цябе ў манашкі хтось пастрыг!
Ўсе клопаты—
такой бяды!—
жанчыне.
Дазвольце ж хоць кароткі нейкі міг
ёй пасядзець на лёгкай аблачыне!

Не перад люстрам будучых вякоў,
а з цішынёю творчай—у сваяцтве...
Народ павінен верыць у мастацтва,
а не ў шматзначнасць дутую дзялкоў.

Бяжым...
Усе бяжым ад слова «быт»,
мы ўжо дзяцей сваіх назвалі бытам,
і на прыстойнасць звыклую іспыт
чамусьці самым цяжкім стаў іспытам.

Мы распінаем сэрцы на кастрах
выгод уласных, —
не маё!—
дык страта,
а брат не мае цёплага—сястра,
таксама як сястра не мае брата!

Адзін... Адна...
А для бацькоў: адно!
Эгаістычнасць... сябелюбства веку!
Мы акіяна раскапалі дно,
зарыўшы... чалавека ў чалавеку.

МЫ НАШУ КАЗКУ ТОЛЬКІ ПАЧАЛІ, —
НЕ ГОРА, НЕ ГАЛЕЧА І НЕ ГОЛАД...
ТАДЫ АДКУЛЬ ЖА ВЕЕ ГЭТЫ ХОЛАД,
БО ГУБЫ МАЕ ПРОСЯЦЬ: «ЗАТУЛІ...»

### Другі роздум

О як прывыклі мы мітынгаваць..
І вось пад ценем войнаў, гераіна
адважыцца з нас хто прэтэндаваць
на ўзнагароду—«Маці-гераіня»?!

Не дзеці нашы—
немагчымы быт!
Не выгляд наш,
не мода
і не хата...
Наш быт—
той самы кар'ерысцкі спрыт,
мундзірны спрыт жанчыны-бюракрата!

Жыццё, да жалю, не заўсёды—сад—
з пладоў цяжкіх ці з пышнага суквецця,
ды ў ім не будзе большае з пасад,—
пасады найвялікшай:
быць пры дзецях!..

Геолага ёсць Дзень і рыбака...
Есць Дзень адметны нейкі
ў кожнай хаце...

## ПРОЗА

Васіль ХОМЧАНКА



# Трава кахання

*АПАВЯДАННЕ*

У КРУГЛЯНСК Міхалевіч прыплыў на цеплаходзе пахмурным кастрычніцкім ранкам. На беразе нікога не было. Ён зайшоў пад паветку — часовы прытулак для рачных пасажыраў, кінуў партфель на леўку, прысеў.

Ісці ў пасёлак было рана, ён яшчэ толькі прачынаўся, вокны прырэчных дамоў, што былі відаць з-пад паветкі, свяціліся па-ранішняму бляклa. У нізіне каля ракі ляжаў туман, не густы, а як дымок ці смуга, ён захопліваў і частку высокага берага.

Пасядзеўшы так, пакуль пасвятлела, Міхалевіч падаўся ў пасёлак, цэнтр якога знаходзіўся ад прыстані за паўтара кіламетра. Няспешна ішоў па знаёмай брукаванцы з выслізганымі і вільготнымі ад расы камянямі, уважліва ўзіраючыся ў рэдкіх стрэчных, асабліва жанчын, і тыя віталіся з ім, думаючы, што ён іх ведае. Пэўнага плана, куды зараз пайсці, з чаго пачаць пошук той, якую хацеў убачыць, а для гэтага ён сюды і прыехаў, не меў, бо многа гадоў нічога пра яе не ведаў, нават не быў упэўнены, што яна жыве ў Круглянску. Не думаў, што стаіць і той дом, дзе калісьці яна жыла, — пасёлак разросся, і яго ўжо горадам называюць.

Круглянск адкрыўся яму, як толькі ўзышоў на пагорак. Над зялёным масівам садоў і прысад, у якіх патаналі дамы пасялкоўцаў, узвышаліся сабор сінімі макаўкамі і чырвоны комін мясцовай ЦЭЦ. У самым цэнтры пасёлка бялелі некалькі пяціпавярховых дамоў, збудаваных ужо ў апошнія гады.

Побач з дарогай паслося некалькі рабых кароў. Пастушок — хлопчык у чорнай нейлонавай курточцы, джынсах і з транзістарам на шыі — стаяў каля дарогі, ляскаў аб зямлю пугай, звітай з сіняга электрадроту. Міхалевіч прыпыніўся каля хлопчыка, павітаўся, спытаў:

— Пасвіш?

— Чарга наша сёння. Вы наш, ці прыехалі сюды?

— Прыехаў. А ты што, усіх жыхароў пасёлка ведаеш?

Хлопчык падумаў, паціснуў плячамі.

— Не, не ўсіх.

— А ці ведаеш ты Трасцянскую?

— Гэта якая ў бальніцы працуе? Вольгу Макараўну?

— Волю...— захваляваўся Міхалевіч.— Яна тут, у пасёлку, жыве?

— Тут, а дзе ж яшчэ?. Я з яе Вадзікам у адным класе вучуся.

— З сынам Вадзікам?

— Ну.

— А Вадзік той дзе жыве? — спытаў Міхалевіч і азірнуўся на раку, туды, дзе калісьці на беразе стаяў дом Трасцянскіх.

— Блізка адсюль жыве. — Хлопчык убачыў, што адна карова пераходзіць дарогу, крыкнуў ёй і, ляскаючы пугай, пабег напярэймы.

«Усё правільна. Дзе ж ёй яшчэ і жыць, — падумаў ён, стараючыся суняць хваляванне. — Можа, у тым доме сваім і жыве».

Міхалевіч пайшоў, раз-пораз азіраючыся направа, туды, дзе раслі дубы, спрабуючы ўбачыць Вольчын дом. Помніў, што страха дома была з гонты, зарослая зялёным мохам. Цяпер жа там бялелі некалькі шыферных дахаў, і які з іх дом Трасцянскіх, вызначыць не мог.

— Трасцянская, — прамовіў ён услых. — А чаму Трасцянская? — здзівіўся ён. — Гэта ж дзявоцкае прозвішча. А Вольга ж замужам?

Хацеў вярнуцца да разгаворлівага хлопчыка, каб распытаць пра Вольгу падрабязна, але той быў ужо далёка са сваімі каровамі.

Па брукаванцы ад ракі ехала падвода, на калёсах пад дзяружкай ляжалі нейкія скрынкі. Вознік быў сухенькі мужычок, у зімовай шапцы і ў акулярах. Дагнаўшы Міхалевіча, вознік прыпыніў здаравеннага біцюга, паляпаў па білах калёс, запрашаючы сесці. Міхалевіч сеў. Вознік тузануў лейцамі, біцюг рушыў.

— Ногі не дармавыя, праўда ж?— сказаў вознік, уважліва ўзіраючыся ў твар Міхалевіча. — У камандзіроўку ці ў госці?

— У камандзіроўку, — адказаў Міхалевіч і адразу ж спытаў, ці ведае ён Трасцянскую Вольгу Макараўну.

— Як жа яе не ведаць? Яе, мілчалавек, усе ведаюць. Яна з мужам, доктарам Майсеем Ільічом, у нас вядомая. Дык вы да іх, значыць?

Міхалевіч не адказаў, а возьнік пачаў хваліць Вольгу Макараўну і яе Майсея Ільіча, сказаў, хто яны: ён—хірург, яна — дзіцячы ўрач, і ўвесь Круглянск іх паважае і любіць.

— Вольгу Макараўну дык усе дзеткі ведаюць. Во якая яна ў нас, — гаварыў возьнік.

Пачалася вуліца, ціхая, гэткая ж брукаваная, як і дарога ад прыстані, усыпаная апалым лісцем. Нічога на ёй за пятнаццаць гадоў не змянілася: тыя ж падрэзаныя старыя таполі, ліпы, агародчыкі каля хат, вузкія ходнікі з бетонных плітак, яшчэ да вайны даўным-даўно ўкладзеныя. Ва ўсіх агародчыках гарэлі чырвоныя кветкі, дужа яркія і вельмі пахучыя ноччу, невядомыя Міхалевічу — ён, акрамя Круглянска, нідзе іх не сустракаў.

Вуліца вяла на плошчу, у цэнтр пасёлка, дзе былі магазіны, установы, школа. На плошчы таксама гарэлі на клумбе яркія чырвоныя кветкі. Міхалевіч спытаў у возніка пра іх назву.

— Чырвоныя кветкі і ўсё, — адказаў той і спрабаваў выпытаць у Міхалевіча, адкуль ён, хто і чаго прыехаў.

Міхалевіч папрасіў спыніцца, дастаў з кішэні металічны рубель. Возьнік таропка працягнуў руку па той рубель, узяў, схаваў ва ўнутраную кішэню пінжака.

— Вунь чайная, — паказаў ён пугаўём на белую нізкую будыніну з дзвюма тоўстымі калонамі, — паснедаць можаце. Хлеб-соль вам.

— Ведаю,— сказаў Міхалевіч, злез з калёс і скіраваў да чайной, бо сапраўды пара было паснедаць.

І каля чайной на клумбачцы раслі гэтыя ж любімыя тут чырвоныя кветкі. Ён адарваў ад кветкі некалькі пялёсткаў, расцёр у пальцах, панюхаў. Паху не адчуў.

Тады, у тую далёкую ўжо восень, букет гэтых кветак стаяў у збанку ў яго пакоі, і Воля мяняла іх праз кожныя два дні.

Міхалевіч паснедаў у чайной, купіў у кіёску дзесятак розных газет, чым здзівіў кіяскёрку, пасядзеў на лаўцы ў скверы, прагледзеў тыя газеты і толькі тады падаўся да Вольчынага дома.

Празрыстае восеньскае паветра, высокае неба, лімоннае лісце бяроз і таполяў, цяжкія багатыя гронкі рабін— прыкмета марознай зімы, крыклівыя чароды галак, якія чорнымі хвалямі перакочваліся ад сініх макавак белага сабора да задымленага цэцаўскага коміна, — усё было такое ж і ў тую восень. Толькі тады была яшчэ і Воля, маладзенькая, даверлівая, наіўная, закаханая ў яго...

Увогуле адбылася тады банальная гісторыя: у яго, Міхалевіча, трыццацігадовага мастака, закахалася дзесяцікласніца Воля, дачка гаспадароў, у якіх ён часова кватараваў.

Памяць пра тое каханне і прывяла сюды Міхалевіча Сяргея Апалінаравіча, вядомага цяпер жывапісца, графіка, дыпламанта і лаўрэата розных творчых конкурсаў, удачлівага ў творчых пошуках і ў спаборніцтвах за ўдачы з іншымі мастакамі. Ён даўно ўжо ўваходзіў у трывалую абойму виядучых мастакоў рэспублікі.

І ўсё ў яго было добра, калі б шанцавала гэтак жа ў каханні, у сямейным жыцці. Ён быў жанаты двойчы і двойчы разведзены. Ад жонак ішоў, пакідаючы ім кватэры і ўсё, што там было, беручы толькі патрэбныя яму кнігі. Цяпер ён жыў у сваёй майстэрні, змірыўшыся з тым, што такая ўжо талань выпала яму, і заводзіць новую, трэцюю сям'ю не адважваўся. Калі чалавек церпіць пастаянны крах у чымнебудзь, то міжвольна пакараецца лёсу і прымае гэта, як непазбежнае. Так і Міхалевіч прыняў няўдачу з сям'ёй, як непазбежны наканаваны яму лёсам, прысуд. Ён аднак асабліва не вінаваціў жонак, не лічыў, што яны адны былі прычынай нешчаслівых сем'яў і кахання, а вінавацiў лёс, які сутыкаў з тымі жанчынамі, што прынасілі яму няўдачу і няшчасце. Жонкі ж тыя, з якімі ён расстаўся, вінавацілі толькі яго аднаго, называлі эгаістам, робатам, у якога няма душы, і што яму трэба не жонка-жанчына, а такая ж, як і ён сам, жалезная робаціха.

Старэнькая маці яго, якая жыве ў Мінску разам з малодшай дачкой сястрой Міхалевіча, падтрымлівае добрыя адносіны з першай і другой жонкамі, двума хлопчыкамі-ўнукамі, хоць тыя былыя жонкі ўжо сталі жонкамі іншых мужоў. Маці і сястра лічылі вінаўнікам распаду адной і другой сям'і яго аднаго, гэтак жа, як і лічылі іх былыя нявесткі. «Што ты шукаеш, што табе трэба, якую любоў ты хочаш? — кідала маці жорсткія папрокі. — Ты ж застанешся адзінокім старым бабылём».

Яго жонкі былі неблагія жанчыны, прыгожыя, у меру разумныя, кожная акружала клопатам, яны прыстасоўваліся да многіх яго́ных прывычак, але намагаліся і яго самога прыстасаваць да свайго ўзроўню і сваіх прывычак, не разумеючы асаблівасцей яго творчай асобы і характару, чаму Міхалевіч супраціўляўся. А таму былі бясконцыя канфлікты, адчужанасць і, у рэшце рэшт, разрыў.

Пазней, думаючы над сваімі сямейнымі няўдачамі, Міхалевіч зрабіў просты вывад: ажаніўся ён з першай і з другой жонкай без кахання. Ні ён, ні яны яго не кахалі...

Пасля развалу другой сям'і, а гэта адбылося чатыры гады назад, ён ішоў на збліжэнне з новымі жанчынамі нялёгка, асцярожна, аднак ішоў, бо спадзяваўся знайсці тую, з якой у яго было б усё шчасліва. Такой не знаходзілася.

І вось у апошні час усё часцей і часцей пачала прыгадваць даўняя гісторыя, палічаная ім пятнаццаць гадоў назад смешнай. І чым больш ён думаў пра яе, тым больш яна яго хвалявала, радасна шчымела ад гэтых успамінаў сэрца і хацелася вярнуцца да таго даўняга часу.

Быў Міхалевіч тады нежанаты, толькі збіраўся ажаніцца, чакаў гэту жаніцьбу з нецярплівасцю, лічыў тыдні, дні да вяселля, захоплены тым узнёсла-шчаслівым хваляваннем, якое кожнаму жаніху вядома.

Вось тады і закахалася ў яго Воля. Міхалевіч успрымаў Воліна захапленне да сябе лёгка, нават весела. Яму было гэта па-мужчынску эгаістычна прыемна, і паводзіў сябе так, быццам і ён закаханы, хоць не падаваў ніякіх надзей на большае, якіх ад яго чакала Воля. З яго боку гэта была гульня ў каханне, як ён лічыў, бяскрыўдная, бо ведаў, што скончыцца гэтак жа лёгка, як і ўзнікла, скончыцца без любоўных пакут, расчараванняў. Закахалася ў яго Воля, ну і няхай, у кожнай дзяўчынкі ў яе ўзросце ўспыхваюць вось такія першыя пачуцці і пераважна да мужчын старэйшых: настаўнікаў, суседзяў, бацькавых сяброў і, канечне, кінаартыстаў. Гэта, як адзёр — дзіцячая хвароба, на якую хварэюць амаль усе дзеці. Вось і дзяўчо Воля закахалася ў яго.

Тады Міхалевіч прыехаў у Круглянск для работы над пейзажамі. Прывабілі яго гэтыя мясціны багатай натурай, правінцыяльнай цішынёй, спакоем. А нахваліў яму Круглянск яго ўраджэнец, сусед па доме. Сусед і параіў спыніцца ў рачнога капітана Трасцянскага, дом якога стаіць наводшыбе і на самым беразе ракі. Макар Іванавіч Трасцянскі пусціў Міхалевіча на пастой, выдзеліўшы яму цэлую прыбудову да хаты. Сям'я ў Трасцянскага была невялікая: ён, бацька, ды жонка з дачкой Воляй. Макар часта бываў у плаванні, жонка яго працавала ў баль-

Давайце ж установім (не ў радках)
Дзень слаўнай працаўніцы нашай—
Маці!

Пачэсны дзень...
не дзеля гучных слоў,
не дзеля лічбаў, тут няма прыпіскі...
Мы сэнс жыцця вылузваем з прамоў,
а ён у нас закладзены з калыскі.

Усё—ад маці:
праўда і мана,
хай што заўгодна долі маёй свеціць,
хай поспехі, хай радасці—спаўна,
найбольшая,—
якую дораць дзеці!

ПАЧАТАК ВЕРНАСЦЬ ВОЗЬМЕ
З НАШЫХ СЛОЎ,
А ДЗЕНЬ ШЧАСЛІВЫ — З НАШАГА
СВІТАННЯ,
І НАМ НЕ ДАСЦЬ ЗНЯВЕРЫЦЦА
ЛЮБОЎ,
А Ў ЧАС РАЗЛУКІ — ЗЛУЧЫЦЬ НАС
КАХАННЕ.

## Роздум трэці, апошні перад чацвёртаю страфою

На семдзесят уперад адплылі,
квітнела рунь і кветкі палявыя,

і ўсё ж... гадоў пражытых караблі,
куды глядзелі вашы рулявыя?!

З якіх жа пачыналася азоў
пара высакамоўных слоў,
пара букетаў,
калі да ўсіх сталовак тых часоў
прыстройваліся залы
для банкетаў?

Жыццё—не яд,
як і не пах настурцый,
ды ўсё-ткі сталі думаць апантана,
з якіх жа вырастала прастытуцый
сучасная распусная «путана»?

Гучыць на моры
рэхам страшным: «SOS!»,
ратуйце на зямлі—
папар, ляшчыну...
Пакуль Зямлю трымае яе вось,
ратуйце (для жанчыны) ў ёй—
Жанчыну!

Заўжды ратуйце мудрасць і красу,
(не палічыце гэта за турботу),
бо кожная вам скажа: «Я нясу
жыццё—жыццю,
для радасці—пяшчоту...».

Сёй-той з аглядкай кіне:
«Час та-кі!»,
а... на яго ў дзяржавы ёсць
прычыны,
тры змены адпрацуйце, мужыкі,
чацвёртую—адстойце за жанчыну!

Даруйце,
не ўтрымаю слоў скептычных
(пры клопаце, напэўна, больш
вялізным),
няўжо складаней караблёў касмічных
выраб жаночай гожае бялізны?!

Вядома, — дробязь!
Быў патрэбен «твар»,
была ў пашане доўга паказуха...
Няма ні ўзлёту добрага, ні мар,
калі з сапраўдным,
як ні біся,—
глуха!

Глушэць ад спраўна звязанай маны...
Ці ж будзем мы на праўду сёння
ў крыўдзе?!
Каб выйсці ў людзі, трэба і штаны,
без іх нават на вуліцу не выйдзеш...

З маленькага бярэ жыццё разгон...
Без сонца не паднімуцца палеткі,
пчала не зможа мёд насіць без кветкі,
а чалавек—
без плёну,—
бачыць плён!

МЫ РАЗАМ ВЫЙШЛІ Ў ДОЎГАЕ
ЖЫЦЦЁ,
МЫ ЗНАЛІ ЛІСЦЕ ССОХЛАЕ І КВЕЦЕНЬ,
І ГРЭЕ НАС НАДЗЕІ ПАЧУЦЦЁ —
МЫ Ў СПАДЧЫНУ ЛЮБОЎ ПАКІНЕМ
ДЗЕЦЯМ.

ніцы медсястрой, а Воля хадзіла ў дзесяты клас. Дома заставаўся стары Іван, які дужа любіў пагаварыць пра міжнародныя справы.

Вучылася Воля то ў першай, то ў другой змене. І калі Міхалевіч не быў на эцюдах, Воля, пастукаўшы, хоць дзверы і былі адчынены, заходзіла да яго ў пакой, адзетая ў школьную сукенку з асляпляльна-белым каўнерыкам і такім жа белым фартухом, віталася, гаварыла, дзе і што яму на абед, а потым падыходзіла да эцюдаў. А яны стаялі ўздоўж сцяны на падлозе, на лаўках, віселі на сценах, і на кожным была восень, сінела бязвоблачнае неба, купаліся ў сонечным святле матавыя ствалы бяроз з залатым лісцем, гарэлі жарынкамі ягады каліны і ззялі жывой крывавай яркасцю чырвоныя кветкі ў агародчыку каля хаты.

— Сяргей Апалінаравіч, можна, я пагляджу на вашы карціны? — пыталася яна.

Ён велікадушна і смяшліва дазваляў ёй, і яна, разглядаючы эцюды, радасна ўскрыквала, пазнаўшы мясціны.

— Во, гэты дуб каля затокі. Праўда ж, я адразу пазнала. А во бяроза, што каля нас расце. Як хораша вы малюеце, усё так праўдзіва, падобна. — Пры гэтым яе загарэлы твар чырванеў, а вочы блішчалі хвалюючым бляскам.

Працаваў тады Міхалевіч многа, яму патрэбны былі сонечныя дні, большасць іх такія і былі. А потым пачалася непагадзь, часта прападала сонца, дзень хмурыўся, туманіўся, накрапваў дождждык. Міхалевіч у непагадзь сядзеў дома, чытаў, чакаў сонца. І Воля тады перажывала за тую непагадзь, смуткавала, што Міхалевіч не можа працаваць на натуры.

У такія пахмурныя дажджлівыя раніцы, калі ён песціўся ў ложку, яна, пастукаўшы, заходзіла ў яго прыбудову.

— Сяргей Апалінаравіч, а сёння зноў хмурыцца і дождж будзе,—паведамляла яна вінаватым голасам, быццам перадавала вельмі цяжкую навіну. — Хмары нізкія.

Гэта яе паведамленне з вінаватасцю ў голасе, нібыта ад яе залежала, быць ці не быць небу чыстым, яго забаўляла, бо ён сам бачыў, якое надвор'е за акном, і часам нават быў задаволены, што не трэба ісці з эцюднікам у поле, можна пацвеліцца, паленавацца. Адказаўшы Волі якім-небудзь жартам, ён пытаўся пра ўрокі, ці падрыхтавала яна іх. Пытаўся пра гэта кожную раніцу, хоць і заўважаў, што ёй ужо надакучыла чуць такое, і яна хмурылася і не адказвала.

Воля была старанная і працавітая і вучаніца, і гаспадыня ў доме. З урокамі яна спраўлялася хутка, а калі ёй трэба было што вывучыць на памяць, звычайна па літаратуры ці па англійскай мове, то вучыла за нейкай работай па гаспадарцы. Яна нешта чысціла, мыла, шаравала, вурчала пральная машына, гудзеў пыласос. Яна ж кожны дзень і прыбірала ў пакоі Міхалевіча і, як ён заўважыў, гэта было ёй прыемна, яна магла ў гэты час гаварыць з ім, слухаць яго, бачыць.

Часам, а гэта было звычайна ў нядзелю або калі Воля вучылася ў другую змену, яна ішла з Міхалевічам на натуру. Ён працаваў, а Воля, стоячы за яго спіной, назірала, стаіўшыся, баючыся моцна ўздыхнуць або словам якім адарваць яго ад працы. Яна гаварыла толькі тады, калі ён сам першы звяртаўся да яе. Волю здзіўляў па-дзіцячы наіўна сам працэс малявання, яна была ў захапленні, як Міхалевіч дакладна схоплівае адценні колеру, святла. Кароткія мазкі звычайным пэндзлікам, і на палатно пераносіцца жывая прырода з яе фарбамі. Яна сказала яму, што ён вялікі мастак, геній.

Ён задаволена засмяяўся, каму непрыемна такая пахвала, сказаў, што, можа, калі-небудзь яго і прызнаюць такім.

Часам ён пасылаў яе дамоў па цыгарэты, якія забыў узяць, па мінеральную ваду, або яшчэ па нешта, што яму спатрэбілася ў час працы, і Воля з радасцю выконвала ягоныя просьбы. Улюбёная ў Міхалевіча, Воля ні разу яму не адкрылася ў гэтым, не сказала пра гэта словамі. Выказвала свае пачуцці ўвагай, паслугамі, радасцю і ўсхваляванасцю, калі ён гэтыя паслугі прымаў з удзячнасцю і цмокаў у галаву.

Волін дзед Іван быў некалі рачніком, плаваў на баржах матросам, механікам, таму і сына вывучыў на капітана. Худы, з белым пушком на галаве, з такімі ж белымі вусамі, ён пры выхадзе ў горад надзяваў флоцкую фуражку і кіцель, падораны сынам. Дзед вельмі любіў пагаварыць з Міхалевічам, заходзіў да яго ў пакой з ядлоўцавай кавенькай і даваў ацэнку кожнай рабоце Міхалевіча.

— Падобна. Не падобна, ну што гэта за дуб? Дзе лісце? Нешта зялёнабурае напэцкана.

І пытаў кожны раз, стукаючы кавенькай аб падлогу, чаму ён не малюе людзей. Міхалевіч абяцаў намаляваць і людзей, і стары падказваў:

— Ты і мяне намалюй. Няхай унучцы на памяць застанецца.

Волі было сорамна за дзедаву прыліпчывасць з такімі штодзённымі патрабаваннямі, яна прасіла Міхалевіча дараваць старому, не крыўдзіцца на яго. А Міхалевіч аднойчы ўзяў і за некалькі сеансаў напісаў партрэт дзеда ў флоцкай фуражцы, кіцелі, з кавенькай. Партрэт атрымаўся, яго было шкада аддаваць старому, і Міхалевіч павёз з сабою, паабяцаўшы дзеду прывезці партрэт пазней, як толькі зробіць задуманую ім карціну. І, канечне ж, не прывёз, не перадаў, не пераслаў, хоць карціна і была зроблена.

Надвор'е потым зусім сапсавалася, пайшлі зацяжныя дажджы, працаваць на натуры нельга было, ды і зрабіў ён шмат, нават больш, чым меркаваў. Падступіла туга, засумаваў па горадзе, сябрах, неадольна пацягнула да любімай жанчыны, з якой збіраўся ажаніцца і якая яму пісала сюды часта. Яе пісьмы даставала са скрынкі Воля і, калі Міхалевіч быў на эцюдах у полі, у лесе, несла яму пісьмо туды. Ён чытаў, а Воля сачыла за выразам ягонага твару, радавалася і ўсміхалася, калі радаваўся і ўсміхаўся ён. У апошнюю зацяжную непагадзь Міхалевіч гадзінамі ляжаў на ложку, з агідай глядзеў на шэрыя струменьчыкі, што спаўзалі па шыбах. Асабліва невыносна было Міхалевічу, калі заставаўся дома адзін. Воля была ў школе, а дзед таксама некуды знікаў. Ды і ўсё ўжо яму ў Круглянску надакучыла, апрыкрыла, пара было канчаць і гульню ў любоў з Воляй, якая ўжо сур'ёзна паверыла ў яго ўзаемнасць, і ён рашыў паехаць дамоў. Вечарам ён аб'явіў, што едзе заўтра. Пачаў упакоўваць свае работы, рэчы, кнігі, якія яму ўдалося тут набыць. Воля вельмі паслужліва яму памагала ў зборы, але яе дапамога на гэты раз чамусьці яго ўжо раздражняла. Сабраўшы і ўпакаваўшы ўсё, што трэба, ён, настроіўшыся на дарогу, знемагаючы ад салодкага чакання блізкай сустрэчы з нявестай, якой і тэлеграму паслаў, каб сустрэла, лёг спаць раней.

Ноччу ён прачнуўся ад таго, што адчуў прыемны водар. Адплюшчыў вочы і ляжаў так нейкі час, удыхаў тонкі водар чырвоных кветак, якіх Воля паставіла вечарам у вазы. Кветкі гэтыя пахлі чамусьці толькі ноччу. «Як яны ўсё ж называюцца? — падумаў ён пра кветкі. — Трэба раніцай не забыць спытаць. І добра было б пасадзіць іх на дачы».

Дождж, які ліў вечарам, сціх, у адчыненую фортку цякло вільготнае начное паветра, неба ў многіх месцах расчысцілася, на ім блішчалі зоркі, матава свяцілася на сцяне люстэрка. Ён павярнуўся туды і ўбачыў у люстэрку нешта рухлівае, светлае ў сваім узгалоўі. Сеў, адхіснуўся—каля ложка на ўзроўні падушкі была Воліна галава. Адразу і не зразумеў, чаму яе галава так нізка, пакуль не разгледзеў, што Воля стаяла на каленях. Белыя яе валасы быццам шапкай абрамлялі загарэлы за лета твар, вочы блішчалі.

— Сяргей Апалінаравіч, не едзьце. Заставайцеся, — сказала яна.

Міхалевіч разгубіўся, потым раззлаваўся, загадаў зараз жа ўстаць, і яна ўстала, стаяла ў белай прасторнай кашулі, а ён маўчаў, не ведаючы, што гаварыць і што рабіць. Воля ўсхліпнула, прысела, прыткнулася тварам да краю ложка.

— Застаньцеся. Назусім застаньцеся, — затраслася яна ў плачы.

— Фу ты, дурніца, выдумала, — толькі і знайшоўся што сказаць.

— Я... я люблю цябе, Міхалевіч,— узняла яна галаву, бліскучыя ад слёз вочы здаваліся яшчэ большымі.

— А я табе хто?

— Я люблю... Я люблю, — паўтарала яна. — Застаньцеся са мной. Застанься...

— Але ж у мяне жонка, — схлусіў ён,— ды я і стары для цябе. Мне ўжо чацвёрты дзесятак. А любоў твая дзіцячая, яна хутка пройдзе.

— Не дзіцячая, не пройдзе, застанься, — з тупой упартасцю паўтарала яна. — Я люблю, я не магу без цябе.

— Дык я ж цябе не люблю. Разумееш, не люблю, — жорстка і цвёрда сказаў ён.

Яна адразу замоўкла, сціхлі яе рыданні, адступіла ад ложка і ціхенька, уся ў белым, як здань, спіной назад адышла да дзвярэй і знікла.

Доўга ён не мог заснуць, на душы было брыдка, мутарна, спаў кепска, а, прачнуўшыся, думаў пра гэтую забаўную сітуацыю, банальную любоўную гісторыю, якіх у жыцці бывае ў кожнага мужчыны нямала.

«Застанься...» — гучала ў вушах яе мальба. Ну, узяў бы і застаўся з ёю назусім, ажаніўся б, забраў яе ў Мінск. А далей? А далей ён не стаў ні ўяўляць, што было б потым, ні думаць пра гэта.

Раніцай, калі ён выйшаў са свайго пакоя, застаў дома толькі аднаго старога. Ён сядзеў на табурэціку, аблёгшыся рукамі на сваю кавеньку, адзеты ў кіцель, фуражку, чыстыя штаны, чакаў Міхалевіча, каб праводзіць на прыстань. Стары потым яго і праводзіў, ішоў, цюкаючы па бруку кавенькай, і якім ужо разам напамінаў Міхалевічу, каб той не забыў выслаць яго партрэт.

— Не для мяне, для Волечкі на памяць. Яна мяне дужа любіць.

Вечарам ён быў ужо ў Мінску, вячэраў у рэстаране з той першай сваёй нявестай, пісьмы якой Воля даставала з паштовай скрынкі і прыносіла Міхалевічу. Ён расказаў ёй пра Круглянск, пра дзеда Івана. Расказаў і пра Волю, яе любоў, прыход ноччу да яго ў пакой з просьбай застацца з ёю.

— Ведай, — смяяўся ён, — у мяне і семнаццацігадовыя ўлюбляюцца.

Смяялася і яна, ім абоім было добра ў той вечар.

З тых эцюдаў ён зрабіў тры карціны, у друку іх расхвалілі. Наступныя гады яму прыносілі яшчэ большыя творчыя ўдачы. Але толькі творчыя... З той першай жонкай у яго жыццё не ўдалося, не ўдалося і з другой. Страціў веру ў каханне, зміръіўся з гэтым, бо ўжо адчуў першыя крокі непазбежнай старасці — падбіралася да пяцідзесяці. А ў вечар жыцця свайго чалавек усё часцей звяртаецца да мінулага і знаходзіць сярод калейдаскопа падзей і сустрэч нешта запамінальна хвалюючае, прыемнае сэрцу. Успаміналася і Воля, трывожна, з болем. Аднойчы ноччу, калі паток касога ліўня біў па вокнах, шумеў, грукацеў у вадасцёкавых трубах, а таполя хвастала голлем па балконнай агароджы і нешта там грукацела, ён прачнуўся не ад гэтай грымоты і шуму, а таму, што ўбачыў сон. Прыснілася яму апошняя ноч у Круглянску, Воля ў белай начной кашулі, з бліскучымі ад слёз вачамі, яе мальба, каб застаўся. Усе тыя словы пачуў ён у сне, што яна тады гаварыла. А ён у сне маўчаў, як анямелы, глядзеў на яе, шкадаваў і вельмі балела ў яго душа. Прачнуўшыся ад гэтага ўбачанага сну, ён устаў, хадзіў да світання па пакоі, думаў пра Волю, зразумеўшы, што яна і была тая жанчына, якой яму так і не ўдалося сустрэць.

Калі праз тыдзень яму выдалася паездка міма Круглянска, ён не абмінуў яго, сышоў на бераг, не ведаючы, што будзе рабіць у гэтым горадзе.

...Міхалевіч падышоў да бальніцы, пастаяў каля яе, назіраючы за жанчынамі ў белых халатах і шапачках, што хадзілі па двары бальніцы. Намерваўся сярод іх пазнаць Волю, цяпер ужо Вольгу Макараўну, і, як здавалася яму, усе тыя жанчыны былі падобныя на яе.

А потым пайшоў па беразе праз парк, каб убачыць і той двор, і той дом. Ён не ведаў і не распытаў, дом стаіць той, стары, ці на яго месцы новы паставілі.

Дом быў ранейшы, але добра дагледжаны, абшаляваны, з новай шыфернай страхой, большымі вокнамі, абрамленымі прыгожай ліштвой. Новымі былі і вароты, веснічкі, аздобленыя выразанымі з дрэва фігуркамі. Нечая гаспадарлівая рука ўсё гэта аднавіла, паставіла новы плот вакол сядзібы. Хто жыве ў ім, спытаць не было ў каго. Відаць, Вольга са сваім мужам-хірургам.

Міхалевіч падышоў да самага плота, зірнуў на двор, стараючыся хоць па нейкай дробязі вызначыць, ці жыве тут Вольга. І ўбачыў прыслоненую да сцяны дома ядлоўцавую кавеньку, канечне ж, тую самую, з якой хадзіў стары Іван, выслізганую да бляску ягонымі рукамі. Міхалевіч не зводзіў вачэй з той кавенькі, і ў яго было такое ўражанне, што ён перанёсся назад на пятнаццаць гадоў, і што вось зараз выйдзе Іван, возьме сваю кавеньку, пастукае аб зямлю і скажа: «А, прыехаў усё ж? Прывёз мой партрэт Волечцы на памяць? Прывёз?»

Ён адышоў ад дома, прысеў на бярвенца, што ляжала пад дубамі, і слухаў, як з галін мякка чмякалі жалуды ў агрубелую, але яшчэ зялёную траву, па якой ён тут некалі хадзіў шчаслівы, удачлівы, упэўнены, што яго чакае ў будучым вялікае каханне...

САМАДЗЕЙНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

# ЛЯВОНАВІЦКІЯ ВЯЧОРКІ

**Далёка за межамі Нясвіжскага раёна ідзе слава пра Лявонавіцкі народны хор. Шэсцьдзесят гадоў споўнілася нядаўна гэтаму калектыву. Беларускія народныя песні пачалі тут выконваць, калі яшчэ Заходняя Беларусь знаходзілася пад прыгнётам белапольскіх акупантаў. Спявалі песні ўпотай, бо гэта было небяспечна —надзвычай шкодзілі паны развіццю беларускай самабытнай культуры.**

**Слаўныя традыцыі аматараў песні жывуць у хоры і сёння, бо многія з першых удзельнікаў і цяпер з задавальненнем прыходзяць на рэпетыцыі. У апошнія гады ў калектыве з'явілася нямала маладых здольных выканаўцаў. Больш за сорак чалавек—калгаснікі калгаса «1 Мая», сельская інтэлігенцыя—займаюцца ў хоры. Кіруе хорам прафесійны музыкант С. Аляксеева.**





На здымках: у Лявонавіцкім сельскім клубе ідзе рэпетыцыя. Загадчыца Лявонавіцкай сельскай бібліятэкі Надзея Лаўрэнцьеўна Гуцько — ветэран хору.

Тэкст і фота Д. ЛУПАЧА.

КАНЦЭРТНАЯ МАЗАІКА

# З ТВОРЧАЙ СПРАВАЗДАЧАЙ

У шматстайнасці канцэртнага жыцця Мінска аўтарскі канцэрт Эдзі Тырманд быў падзеяй досыць значнай. Магчыма, таму, што гэта было своеасаблівае падвядзенне вынікаў: прагучалі лепшыя сачыненні, створаныя кампазітаркай больш чым за 30-гадовы перыяд.

Э. Тырманд мае ўласны кампазітарскі почырк, пазначаны пячаткай «суровага стылю», характэрнага для мастацтва 60-х гадоў. Дакладная грамадзянская пазіцыя, схільнасць да сацыяльна значнай, філасофскай тэматыкі, стрыманасць лірычнага выказвання і пэўная гарманічная жорсткасць, адсутнасць знешніх «красивостей» — характэрныя рысы гэтага стылю. І тут асабліва паказальныя выкананыя ў канцэрце салістам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР А. Кедай (канцэртмайстар Л. Кеда) вакальныя цыклы «Зямное прыцягненне» на тэксты М. Танка і «Тры балады» на тэксты Б. Дадзье.

Вакальны цыкл на вершы беларускага паэта — гэта глыбокі філасофскі роздум чалавека, які шмат перажыў, роздум, аб'яднаны высокай этычнай ідэяй. Выразнасць і ёмістасць музычнай інтанацыі, канцэнтраванасць развіцця дазваляюць гаварыць пра ўдалы музычны эквівалент паэзіі М. Танка.

Драматычнай насычанасцю, публіцыстычнасцю тону вызначаюцца балады, прысвечаныя тэме барацьбы за нацыянальную незалежнасць. Іх паэтычны змест падказаў кампазітару своеасаблівасць інтанацыйнага аблічча вакальнага цыкла, дзе ўвасоблены элементы негрыцянскага фальклору.

Увогуле, інтэрнацыянальнае ў музыцы Э. Тырманд прадстаўлена дастаткова шматстайна. Іспанскі каларыт адчувальны ў вакальным цыкле на вершы Ф. Гарсіа Лоркі. Трагедыйны змест гэтага сачынення з вялікай выразнай сілай быў перададзены спявачкай Т. Пячынскай (канцэртмайстар Л. Максімава). Супрацьлеглы яму па вобразах (вострахарактарыстычных) і тоне (не пазбаўленым гумарыстычнага адцення) нядаўна створаны на вершы Р. Бёрнса ў перакладзе Я. Семяжона вакальны цыкл «Усё пра жанчыну». Выканавец гэтага твора В. Скорабагатаў (канцэртмайстар М. Сярдобаў) імкнуўся да некаторай карыкатурнай завостранасці, тэатральнай зрокавасці музычных вобразаў.

Багаты і разнастайны вобразны свет інструментальнай музыкі Э. Тырманд, дзе ў кантрастным супрацьпастаўленні прадстаюць лірычныя, гратэскавыя, дынамічна-скіраваныя вобразы. Кампазітар імкнецца пісаць у тым віртуозным стылі, які ў роўнай ступені захапляе як выканаўцаў, так і слухачоў. У канцэрце прагучалі ансамблі, розныя па жанры і складзе: манументальная скрыпічная саната, кампактная чатырохчасткавая Сюіта для фартэпіяна, Дыптых для віяланчэлі і фартэпіяна, выкананыя скрыпачом Л. Гарэлікам, віяланчэлістам Я. Ксаверыевым (канцэртмайстар Л. Малышава) і навучэнцам Мінскага музычнага вучылішча Г. Ляпніцкім.

Асобная галіна камернай музыкі Э. Тырманд — канцэртны рэпертуар для народных інструментаў. Тут увасабленне беларускага фальклорнага элемента спалучаецца з тонкім гуказапісам (п'еса для цымбалаў у выкананні А. Ткачовай), з дасціпнай тэатральнай трактоўкай жанру (Сюіта ў стылі рэтра для домры і фартэпіяна ў выкананні М. Марэцкага і Г. Рабіновіч).

Канцэртная праграма дала падставу гаварыць не толькі пра шматграннасць таленту і майстэрства кампазітара, але і пра высокую выканаўчую культуру артыстаў. І таму не здзіўляе гарачы прыём аўтарскага вечара слухачамі.

**Радаслава АЛАДАВА.**

# У ШКОЛЬНАЙ ЗАЛЕ

Малады кампазітар Валянціна Сярых правяла аўтарскі канцэрт у Мінскай музычнай школе № 1 імя Л. П. Александроўскай. Ініцыятарамі правядзення музычных вечароў у школе з'яўляюцца яе дырэктар Уладзімір Гуртатоўскі і выкладчык Таццяна Афоніна. Слухачы мелі магчымасць на гэты раз пазнаёміцца з камернымі вакальнымі і інструментальнымі творамі В. Сярых. Прагучалі Трыо, вакальны цыкл на вершы Н. Гілевіча, апрацоўкі народных песень, дзіцячыя мініяцюры. У канцэрце ўдзельнічалі народны артыст БССР скрыпач Л. Гарэлік, лаўрэат Усесаюзнага конкурсу вакалістаў імя М. Глінкі М. Жылюк, віяланчэліст А. Алоўнікаў, піяністка Л. Малышава і іншыя.

**Н. ЗАХАРАВА.**

# ВЫХАВАЙ ВУЧНЯ...

Незвычайна праходзіў творчы вечар дацэнта Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Леаніда Івашкова. Слухачы, што сабраліся ў зале БДК, знаёміліся з вакальным мастацтвам ягоных выхаванцаў.

Цёпла прымала публіка салістаў — заслужанага артыста БССР Івана Краснадубскага, Алега Купчанку, Івана Шупеніча, Генадзя Нікіціна, педагогаў Уладзіміра Махнача (Гомельскае педвучылішча) і Георгія Юрэвіча (Маладзечанскае музвучылішча), першакурсніка БДК Уладзіміра Гаравога. У канцэрце ўдзельнічалі і салісты Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР: заслужаная артыстка рэспублікі В. Мазур, І. Лінкевіч і Р. Харык.

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

З ПОШТЫ «ЛіМА»

# ПРЫСВЕЧАНА БЕЛАРУСІ

**Хачу расказаць сябрам-беларусам аб адной сустрэчы, на якой пашчасціла нядаўна пабыць на паўднёвым беразе Крыма, у прыморскім горадзе-курорце Алупка, дзе адпачываў у адным з санаторыяў. Неяк, прагульваючыся па горадзе, звярнуў увагу на аб'яву: «У гарадскім Доме культуры адбудзецца *тэматычная сустрэча, прысвечаная* Беларусі...» Крым... і Беларусь? Хто ж ладзіць сустрэчу?**

**Аказалася, аб'яднанне калекцыянераў, створанае пры мясцовым Доме культуры і якое ўзначальвае энтузіяст сваёй справы П. Зень. З Пятром Уладзіміравічам мы знаёмы даўно. Вечарам пазваніў яму на кватэру.**

***Пётр Уладзіміравіч расказаў,* што члены аб'яднання, акрамя збірання значкоў, марак, паштовак, каляндарыкаў, грашовых знакаў і арганізацыі разнастайных выставак з калекцыйных матэрыялаў, праводзяць вялікую растлумачальную і выхаваўчую работу сярод мясцовага насельніцтва, навучэнцаў школ і адпачываючых у санаторыях. Сёлета, у год падрыхтоўкі да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка, калекцыянеры вырашылі пашырыць і зрабіць больш разнастайнай сваю дзейнасць. З гэтай мэтай яны запланавалі правесці цыкл сустрэч пад назвай «У сям'і адзінай»— пятнаццаць сустрэч, прысвечаных па чарзе кожнай рэспубліцы. Першай была «сустрэча» з Украінай. А цяпер вось—з Беларуссю...**

**Людна ў Алупкінскім Доме культуры. У глыбіні сцэны — *Дзяржаўны герб і разгорнуты* сцяг Беларускай ССР. На сценах — маляўніча аформленыя стэнды. На іх, у абрамленні нацыянальнага арнаменту — тэкст гімна рэспублікі, табліцы і дыяграмы, якія расказваюць аб гісторыі, эканоміцы, дасягненнях народнай гаспадаркі, навукі і культуры «краю рэк і азёр».**

**Пасля кароткага ўступнага слова старшыні Алупкінскага аб'яднання калекцыянераў П. Зеня ўрачыста прагучалі мелодыі *Дзяржаўнага гімна* Саюза ССР і Дзяржаўнага гімна Беларускай ССР. Сустрэчу прадоўжылі вядучая вечара метадыст Алупкінскага Дома культуры Д. Ступава, прадстаўніца Беларусі Н. Жыткевіч.**

**Жонка і муж Сімона і Анатоль Праметныя выканалі песню І. Лучанка.**

***Слова прадастаўляецца* М. Аўрамчыку, які адпачывае ў Ялцінскім Доме творчасці пісьменнікаў СССР і працуе над новым раманам. Ён расказаў аб сувязях Беларусі з Крымам, прачытаў свае вершы. Са сваімі творамі, а таксама вершамі П. Панчанкі і А. Грачанікава пазнаёміў прысутных М. Казакоў, які працуе намеснікам рэдактара Ялцінскай гарадской газеты «Советский Крым».**

**Цёпла быў сустрэты гледачамі паэт-гумарыст І. Бляеў, што родам з Віцебшчыны. Ён узначальвае Ялцінскае аддзяленне Саюза журналістаў СССР. І. Бляеў прачытаў некалькі гумарэсак.**

**У алупкінскіх санаторыях штогод адпачывае шмат прадстаўнікоў беларускага народа. Пра адну з такіх працаўніц, ветэрана працы, ударніка камуністычнай працы, манцёра чыгуначных пуцей станцыі Ліда, маці, якая выхавала сямёра дзяцей, Яніну Эльяшэўну Барташэвіч, што прыехала на адпачынак у санаторый «Вясёлка», і было расказана на сустрэчы.**

**Гаспадарамі другога аддзялення былі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці санаторыя «Беларусь». Асабліва парадавала прысутных заслужаны работнік культуры БССР Н. Камінская, якая выканала жартоўныя беларускія песні.**

**Калекцыянеры падрыхтавалі да гэтай сустрэчы шэраг тэматычных выставак, прысвечаных Беларусі, з якімі пазнаёміліся жыхары Алупкі і адпачываючыя ў санаторыях.**

**Л. СЕРАДЗЕНКА.**
**член Саюза журналістаў СССР.**

Кіеўская вобласць,
пасёлак Ставішча.

ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ

**КАРЭСПАНДЭНТ. Адзін з буйных мастацкіх калектываў рэспублікі, Дзяржаўны ансамбль танца апошняе дзесяцігоддзе жыве, што называецца, былою славай. Часта змяняліся кіраўнікі, на творчым абліччы ансамбля не заставалася аніякага светлага адбітку гэтых змен. Год назад выступленні яго выклікалі ў спецыялістаў не тое, што трывогу — смутак, роспач! Не дзіўна, што *Валянцін Уладзіміравіч, вопытны прафесіянал,* не адразу прыняў прапанову паспрабаваць навесці парадак у творчых справах ансамбля, узначаліць яго. Але за год працы пад кіраўніцтвам Дудкевіча калектыў быццам бы акрыяў...**

**Ю. Чурко.** Так, у праграме з'явілася некалькі адметных нумароў, якія сведчаць пра творчыя пошукі ансамбля.

**КАРЭСПАНДЭНТ. Відавочна, гэта толькі пачатак працаёмкага працэсу абнаўлення, перамен у калектыве. Кіраўнік, які так рашуча ўзяўся за справу, не можа не ўяўляць сабе складанасць задач і перспектыву абнаўленчай работы. Пэўна, ёсць у Валянціна Уладзіміравіча доўгатэрміновая праграма і ёсць намер працаваць у ансамблі не адзін-два сезоны...**

**В. Дудкевіч.** А інакш ісці ў такі калектыў было б проста авантурай! Якая сённяшняя наша задача? Ствараць праграму беларускіх танцаў. Іншых варыянтаў не бачу. Мы павінны ў справе прапаганды танцавальнага мастацтва свайго народа быць на ўзроўні малдаўскага «Жока», дзяржаўных ансамбляў танца Грузіі, Літвы, Украіны.

**КАРЭСПАНДЭНТ. Па традыцыі ў праграмы ансамбля, з пачатку яго дзейнасці, уключаліся танцы народаў свету, саюзных рэспублік. Вы не мяркуеце пра інтэрнацыянальнае аддзяленне ў новых праграмах?**

**В. Дудкевіч.** Дапускаю, што ў выступленні нашага калектыву арганічна ўвойдуць танцы суседніх народаў, з блізкай нам пластыкай: польскага, украінскага, рускага, літоўскага. А вось адлюстроўваць у сваім рэпертуары, скажам, танцы Грузіі, Малдавіі, Узбекістана было б нацяжкай. Найпершая ж наша задача, я ўжо гаварыў,— працаваць як ансамбль беларускага народнага танца.

**Ю. Чурко.** Ансамбль, здаецца, і раней займаў такую пазіцыю. Ён існуе амаль трыццаць гадоў і прапагандуе найперш беларускі танец.

**В. Дудкевіч.** Так, але за ўсю гісторыю ансамбля распрацоўваліся толькі «вяршкі» беларускага фальклору. Доўгі час некранутымі заставаліся яго глыбінныя пласты. Знакамітыя балетмайстры Ермалаеў, Дрэчын, Маісееў, іншыя, хто працаваў на беларускім матэрыяле, стварылі ў свой час невялікую колькасць танцаў: «Лявоніху», «Крыжачок», «Бульбу», «Юрачку»...

**КАРЭСПАНДЭНТ. Многія, відаць, зжыліся з думкай, што гэтыя і яшчэ некалькі назваў — «кананізаванае» аблічча беларускага народнага танца. Кола назваў замыкаецца на 10—12...**

**В. Дудкевіч.** Мабыць, я таксама не налічыў бы больш, калі б не пазнаёміўся з працай Галіновай навукова-даследчай лабараторыі беларускай танцавальнай творчасці. Яна створана шэсць гадоў назад пры кафедры харэаграфіі Мінскага інстытута культуры. Тут (дарэчы, пад кіраўніцтвам Юліі Міхайлаўны Чурко) пасапраўднаму займаюцца зборам, аналізам, фіксацыяй фальклору.

**КАРЭСПАНДЭНТ. Так, я ведаю, што пошукавая і даследчая работа вядзецца ў час летніх фальклорных экспедыцый, куды штогод выязджаюць супрацоўнікі лабараторыі і студэнты. Фальклорны матэрыял фіксуецца слоўна-графічным спосабам, на відэастужку, на кіна- і фотаплёнку, потым распрацоўваецца. Пры кафедры працуе ансамбль «Унукі», рэпертуар якога — студэнцкія пастаноўкі на аснове танцавальнага фальклору.**

**В. Дудкевіч.** І ўявіце, дзякуючы лабараторыі ўжо ёсць сот-

# А ЗАЎТРА—ТЭАТР НАРОДНАГА ТАНЦА?

**Гутараць доктар мастацтвазнаўства прафесар Юлія ЧУРКО, мастацкі кіраўнік і галоўны балетмайстар Дзяржаўнага ансамбля танца БССР заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Валянцін ДУДКЕВІЧ і карэспандэнт «ЛіМа»**

ні назваў ідэй, вартых увасаблення і развіцця ў харэаграфіі. Вялікі, не распрацаваны прафесійнай сцэнай, пласт ідэй! Таму менавіта зараз, калі сабрана багата базавага матэрыялу,— трэба грунтоўна заняцца стварэннем беларускай праграмы. Апроч таго, думаю, трэба выкарыстоўваць знаходкі сучаснай музыкі і не пазбягаць танца сучаснага.

**КАРЭСПАНДЭНТ. Чым могуць вылучыцца сучасныя нумары ў такім калектыве?**

**В. Дудкевіч.** Перш за ўсё, адпаведнай музычнай асновай. І элементамі папулярных сёння танцаў, своеасаблівай «маладзёжнай» пластыкай. У нашым ансамблі няма пакуль нумароў, якія па-сапраўднаму былі б цікавыя для моладзі, падлеткаў. Што магло б іх прывабіць? Брэйк-данс? Ён, пагадзіцеся, усё ж элітарны, дый неўзабаве, думаю, захапленне брэйкам аціхне. Тым часам у свеце адраджаецца іншае захапленне — чачотка. Вось на яе можам арыентавацца, не баючыся парушыць стыль нашага ансамбля: колькі ў нашых народных танцах чачотачных камбінацый!

**Ю. Чурко.** Сапраўды, у праграмах ансамбля мог бы з'явіцца, ну, скажам, «Беларускі народны стэп»! У нашай харэаграфіі спрадвек існуюць разматыя «хлапушкі», «драбушкі», «прытупы», «пераступы»... Вядома, нельга ўсёй праграме надаваць эстраднасць. Але чаму б, адвёўшы адно аддзяленне традыцыйным танцам, не перайсці да смелых пошукаў на аснове народнай харэаграфіі? Мне зараз успомніліся «Песняры»: аналагічная з'ява можа быць і ў танцы...

**В. Дудкевіч.** Фолк-рок у харэаграфіі? Так! Гэта, я лічу, прынцыпова перспектыўны напрамак для нашай работы. Праз яго і трэба ладзіць кантакты з маладым гледачом. Дый чаму толькі з маладым? Проста — сённяшнім! Не сакрэт жа: у сябе «дома» калектывы народнага танца страцілі гледача. У нас «прымусовая» аўдыторыя.

**Ю. Чурко.** Гэта паказчык крызісу народнай харэаграфіі як жанру? Яна заштампавалася, у сваіх прыёмах адстала ад часу.

**В. Дудкевіч.** Публіку сёння захапляюць і збіраюць папулярныя музычныя ансамблі, рок. Ды гэта не змяншае нашу адказнасць за свой жанр. А мы быццам закансерваваліся, не глядзім, што робіцца вакол...

**КАРЭСПАНДЭНТ. У вас, Валянцін Уладзіміравіч, багаты практычны вопыт як у колішняга мастацкага кіраўніка эстраднага аддзела філармоніі і рэжысёра спецмерапрыемстваў, масавых прадстаўленняў. «Праз вашы рукі» прахадзілі многія калектывы, прафесійныя, самадзейныя. Вы маглі б вылучыць прычыны застою ў ансамблях танца?**

**В. Дудкевіч.** Ад працы «для сябе» адмежавалася праца «на экспарт». Многія танцавальныя ансамблі з Беларусі ездзяць за мяжу. А ў «экспартнай прадукцыі» ўтварыліся штампы. Густ замежнага імпрэсарыё дыктуе кожнаму калектыву мець у праграме «джэнтльменскі набор»: тэхнічныя трукі, кідкасць стылістыкі рускага, украінскага, малдаўскага танцаў... Праца «на экспарт» зрабіла мядзведжую паслугу самому мастацтву: артысты адмаўляюцца ад творчасці, ад пошуку. Яны ўжо нацэлены на тое, каб хутчэй зрабіць чарговы штамп — і на гастролі за мяжу. Дарэчы, якое дачыненне да мастацкай самадзейнасці маюць шматлікія «экспартныя» ансамблі?. Безаблічная праграма ў яркай апратцы, напаўпрафесійныя артысты.

**Ю. Чурко.** Сапраўды, прыём па конкурсе, забарона дзяўчатам уступаць у шлюб — хіба гэта сумяшчальна са статусам самадзейнасці?! Харэаграфічная самадзейнасць робіцца элітарнай. Стымулам для яе ўдзельнікаў сталі замежныя паездкі. А павінен быць стымул — супольная творчасць, узаемадачыненні людзей!

**В. Дудкевіч.** Мае быць свядомае і шчырае жаданне захаваць культуру народа! Інакш гэта не масавая народная творчасць, а прафанацыя. Вось у дзіцячай самадзейнасці ёсць і шчырасць, і захопленасць. Найперш яе і трэба заахвочваць, падтрымліваць, развіваць. Прымаць дзятву без абмежаванняў, без гэтых заганных конкурсаў. Маленькія дзеткі, дарэчы, любяць народны танец, падхопліваюць яго імгненна!

**Ю. Чурко.** Іх можна было б знаёміць з народным танцам у першых класах школы. Сорам, што ўрокаў танца няма ў школьнай праграме.

**КАРЭСПАНДЭНТ. Будучыню калектыву, якім кіруе Валянцін Уладзіміравіч, ён звязвае з беларускім народным танцам. Для гэтага сёння ўжо назапашаны багаты базавы матэрыял. Навукова-даследчая лабараторыя пад кіраўніцтвам Юліі Міхайлаўны дапамагае захоўваць танцавальны фальклор Беларусі. Той фальклор, які знікае, бо ўсё менш застаецца ў народзе яго носьбітаў. Я ведаю, наколькі ўсхвалявана Валянцін Уладзіміравіч ставіцца да лёсу фальклору. Ведаю і іншае: законы, па якіх фальклор можа арганічна існаваць, развівацца ў прафесійным мастацтве, — складаныя, у нечым нават суровыя.**

**В. Дудкевіч.** Фальклор у чыстым выглядзе выкарыстоўваць нельга — гэта аксіёма. Значыць, павінна існаваць нейкае сховішча аўтэнтычнага фальклору як пярвічнай інфармацыі для практыкаў. Такім захавальнікам можа стаць пастаянны харэаграфічны калектыў пры інстытуце культуры...

**Ю. Чурко.** Аўтэнтычны фальклор цалкам паказаць на сцэне сёння немагчыма. Яшчэ можна аднавіць кадрылі, карагоды — тут ёсць развітая танцавальная форма. Нам жа давялося зафіксаваць танцы, дзе ўсяго адзін-два рухі. Напрыклад, «Каваль» — пластычная імітацыя руху чалавека, які робіць манатонныя ўдары молатам. Дэманстрацыя гэтага наўрад ці задаволіць сённяшняга гледача. Літаратурна-графічныя занатоўкі, кінастужкі мэтазгодна было б захоўваць у спецыяльным музеі. Пастаноўшчыкі мелі б магчымасць пазычаць з гэтага «банка» пэўныя харэаграфічныя ідэі і развіваць іх на сцэне. Музей такі фактычна ўжо існуе пры нашай ВНУ. А наконт існавання ў нас ансамбля-захавальніка я з Валянцінам Уладзіміравічам не пагаджуся. «Унукі» нашы займаюцца распрацоўкай, трансфармацыяй фальклору. Паказана чарговая праграма, запісана на стужку — пачынаецца пастаноўка новай. Нашы «Унукі» — не музей і не канцэртны ансамбль. Каму перадаваць студэнцкія праграмы на дапрацоўку і захаванне? Мабыць, такі калектыў трэба вылучаць з самадзейнасці.

**КАРЭСПАНДЭНТ. І, мабыць, не адзін калектыў... Тым часам своеасаблівы банк харэаграфічнага фальклору Беларусі ўжо не проста існуе, а і жывіць прафесійную творчасць.**

**В. Дудкевіч.** Сапраўды, нідзе я так не ўзбагаціўся ідэямі, як у лабараторыі МІКа. У выніку нашых кантактаў з'явіліся «Вясковыя гульні», «Кадрыля на зэдліках», «Пераступы»... Юлія Міхайлаўна аднойчы трапна сказала, што мы павінны браць зерне і вырошчваць дрэва. І чым буйнейшы калектыў, а ў нас 113 чалавек, — тым больш складана прарошчваць тое фальклорнае зерне. Танец «Жабка» ў выкананні двух старых — кранальна, каларытна! А перанесены на артыстаў ансамбля яго спрадвечны малюнак падасца недарэчнасцю. Трэба тады ўскладняць танец, дадаючы да фальклорнай асновы, ідэі шматвяковую харэаграфічную культуру.

**Ю. Чурко.** Правільна. Бо ў старых вяскоўцаў унікальная арганічнасць, фальклор звязаны з песняй, словам, ігравым элементам. На сцэне ж страчваецца многае, прынамсі, імправізацыйнасць. Успомнім, што танец у народзе ніколі не рэпеціруецца, і штораз танцор можа нешта «выкінуць». Назіраючы за вясковым танцорам, адчуваеш тысячы яго нябачных сувязей з наваколлем. Але сінкрэтычнасць народнага мастацтва нельга ўзнавіць на сцэне. Кампенсаваць — трэба. Калі скарыстаць магутныя тэатральныя сродкі, законы сцэнічнай драматургіі.

Падкрэслю і такую акалічнасць. Аўтэнтычным танцам займаецца фалькларыстыка, а толькі апыньваецца ён на сцэне — пераходзіць, адпаведна, у сферу мастацтвазнаўства. Фалькларысты нярэдка ўмешваюцца ў прафесійнае мастацтва са сваіх пазіцый, абураюцца адвольным абыходжаннем з першакрыніцай. Але ж новыя творы трэба абмяркоўваць як творы тэатральныя, па законах мастацтвазнаўства.

**В. Дудкевіч.** У любым выпадку фальклор у выкананні артыстаў тэатралізуецца. Іншая справа — як? Я вельмі цаню, паважаю працу Валянціны Іванаўны Гаявой, мастацкага кіраўніка «Харошак», але не прымаю прэтэнзій гэтага ансамбля на фальклорнасць. Гэта добры эстрадны калектыў на базе народнага танца.

**Ю. Чурко.** Паралель з музыкай: «Песняры» не называюць сябе фальклорным ансамблем.

**В. Дудкевіч.** Калі б «Харошкі» называліся эстрадным калектывам, было б гэта больш слушна і сумленна ў адносінах да фальклору.

**Ю. Чурко.** І прэтэнзіі да калектыву былі б меншыя.

**КАРЭСПАНДЭНТ. Прадоўжым пра ансамбль танца? Новы кіраўнік звычайна рашуча пазбаўляецца ад «творчай спадчыны» сваіх папярэднікаў...**

**В. Дудкевіч.** Частая змена кіраўніцтва зрабіла шкоду ансамблю. Ён не дае веры і таму, хто звальняецца, і таму, каго прызначылі, і кіраўніцтву, якое звальняе і прызначае. Дэмаралізаваныя артысты не даюць веры, што ў іхнім калектыве можна наладзіць парадак. Гэтак я меркаваў год назад. Пачаўшы працаваць, парадаваўся добраму падбору артыстаў у ансамблі. З імі наладзіць парадак можна. Што датычыць «чужых» нумароў — яны дасюль у праграме. Пастаноўкі Дрэчына, Апанасенкі, Мурашкі, Серыкава, Штопа... Калі падрыхтуем усе дзесяць новых нумароў на аснове беларускіх народных танцаў, пабач, безумоўна, захаваю шэсць лепшых са старых пастановак. Будучыня ж ансамбля, мы ўжо гаварылі пра гэта з Юліяй Міхайлаўнай, — у цэласным харэаграфічным спектаклі.

**КАРЭСПАНДЭНТ. Ці не значыць гэта, што ў недалёкім заўтра калектыў зможа працаваць як тэатр народнага танца?**

**В. Дудкевіч.** Пакуль што гэта «мара на заўтра», але ідэя тэатра народнага танца небеспадстаўная. Яна абумоўлена сінкрэтычнасцю народнага мастацтва. Ужо сёння мне ў праграме неабходны вакал, віртуознае гучанне цымбал. Зразумела, са мною артысты, і я не маю права пачынаць з рызыкоўнага эксперыменту. Як толькі будзе гатова новая праграма да 70-годдзя Кастрычніка, у якой можна будзе шырока паказаць калектыў, пачнём эксперыментаваць. А лепшыя нумары «Унукаў» маглі б увасобіць маладыя артысты пад эгідай камсамольскай арганізацыі, самастойна падрыхтаваўшы фальклорны вечар, таксама да Кастрычніцкага юбілею.

**КАРЭСПАНДЭНТ. І канцэртная падборка нумароў, і разамкнёная драматургія спектакля вымагаюць музыкі, касцюмаў. За гэтымі кампанентамі танцавальнага мастацтва таксама праблемы.**

**В. Дудкевіч.** Многія нашы нягоды — ад музыкі. Яна старэе хутчэй, чым што іншае. Мастацтва аранжыроўкі для нашай аркестравай групы мае быць у пастаянным руху, але... Рэдкія з беларускіх музыкантаў валодаюць гэтым мастацтвам. Цяжка наладзіць кантакт з аўтарамі, якія патрабуюць ад цябе ўжо гатовага харэаграфічнага малюнка, каб пісаць музычнае суправаджэнне да сцэнічных рухаў. Сёння ў ансамблі ёсць нумары на музыку Глебава, Кандрусевіча. Цікавай мае быць садружнасць з Ігарам Палівадам. Дапамагае нам і Васіль Купрыяненка са «Свята». Мала? Мала. Не таму, што кампазітары не хочуць пісаць танцы: не могуць, не ўмеюць.

Няпроста пашыць высокамастацкія касцюмы. Для камбіната больш выгадны вал, ширспажыў «пад народнае». Тканіны мы вымушаны выбіраць на базе Міністэрства культуры па безнаяўным разліку. Але тое, што патрэбна нам, ляжыць проста на прылаўках магазінаў і каштуе нядорага. У тэатрах, што працуюць ва ўмовах эксперыменту, уведзена чэкавая форма аплаты матэрыялаў. Гэта б і нам! Пераканаў, што ансамблю танца дыхтоўныя строі патрэбны больш, чым драматычнаму тэатру. Касцюм — найважнейшы кампанент нашага аблічча і мастацтва. Драмтэатр у некаторых выпадках можа сэканоміць на касцюмах, танцавальны калектыў — ні ў якім разе.

**КАРЭСПАНДЭНТ. Як заўважыла Юлія Міхайлаўна, магутнымі сродкамі тэатралізацыі кампенсуецца ў нейкай меры сінкрэтычная прырода танца...**

**В. Дудкевіч.** Паўвеку назад, калі Ігар Маісееў арганізоўваў свой славуты ансамбль, танец быў штучна вычленены з сінкрэтычнай структуры народнага мастацтва. Немагчыма ўвесь час эксплуатаваць і развіваць танец, які існуе сам па сабе, хаця мае народныя вытокі. Ён жа быў неад'емнай часткай абрадаў, гульняў, працоўнай дзейнасці. Танец прыйшоў на сцэну з побыту — і тэатр танца можа вярнуць яго ў побыт праз рытуалы народных свят.

**Ю. Чурко.** Ёсць рэальная глеба для адраджэння беларускай народнай творчасці ў рамках такіх традыцыйных свят, як купалле, папулярныя восеньскія кірмашы, каляды, вяселлі.

**КАРЭСПАНДЭНТ. Спакваля адраджаюцца старадаўнія святы, выклікаючы захапленне і падтрымку ў моладзі. Мабыць, узорам танцавальнага фальклору наканаваны другая маладосць і новае жыццё?**

С. БЕРАСЦЕНЬ.

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Алесь ЖЫГУНОЎ**

●

Зберажэм для каго цеплыню,
Першароднасць свайго вытоку?
Пакланюся наступнаму дню,
Каб над вёскай узняўся высока.

Каб не зрушылі халады
Завязь кволую — мы бядуем.
Уціскаемся ў гарады,
А на вёсцы жытло будуем.

Неспакойна, журботна мне:
У ціхім звоне калакалушы
Век драўляны яе міне,
Хіба цэгла сагрэе душы?

Пагляджу на катэджаў строй,
Пагаджуся: усё прыгожа,
Толькі пахмурны мой настрой
Лепшым стаць ну ніяк не можа.

Мне і ў горадзе ветла жыць,
На далонях трымаць зярняты,
Покуль сонца яшчэ гарыць
На франтоне бацькоўскай хаты.

### Ліст сябрам

Аднойчы зразумееш:
У прадчуванні блізкай непагоды
Шалеюць апантана салаўі,
Нібы душу вымаюць у прыроды.

І песенных адчайных салаўёў
Так чыста аніколі не пачую.
Мае шляхі сцінаюцца дамоў,
А я у шалашы усё начую.

Мае шляхі сцінаюцца дамоў,
А я вам шлю свае каардынаты:
Над рэчкаю задумлівы дымок,
Сяброў-баброў пакінутыя хаты.

Шалеюць апантана салаўі,
Чаму ў душу пракралася трывога?
Жывеш не так? — Па-іншаму жыві,
І будзе блаславёнаю дарога

Твая.
Я зноў начую ў шалашы,
Касцёр мае пачуцці саграе,
Спакойна і трывожна на душы.
І знаю я, што лепей не бывае.

### Вечар паэзіі

Чытаў у школе-інтэрнаце
У прыазёрнай старане,
Тут, як на бацьку ці на маці,
Глядзелі дзеці на мяне.

І вусны стрымана трымцелі
У ціхіх слухачоў маіх,
І мы, усе, хто быў, хацелі
Назвацца татамі для іх.

А іх бацькі ці шкадавалі?
Не, слоў святых на зглум не дам
Тым, што крывінак пакідалі
На ласку інтэрнацкіх мам.

Я знаю, добра ў інтэрнаце.
Вітаюць ветла тут гасцей.
І ўсё ж хачу, каб бацька, маці
Не ў інтэрнаце, а у хаце
Трымалі на руках дзяцей.

●

Накукавала мне зязюля
Гадоў — да скону не злічыць.
А папрасіў я для матулі —
Зязюля сціхла і маўчыць.

А мама мілая не знае
Таго, што лёс наканаваў.
Увішна агуркі саджае
І косіць наступленне траў —

У вёсцы роздыху не будзе,
А я і здумаць не магу,
Што супакоіцца на грудзе,
Што маму я не зберагу.

Пагавару з ёю прачула,
Сустрэну статак ля варот
І папрашу я: зыч, зязюля,
Не мне, а маме столькі год.

●

З такою ранай нельга жыць,
І снег ідзе, і дождж імжыць,
І халаднее з кожным днём,
А ты гарыш сваім агнём.

Гукаеш — водгуку нідзе,
Адно прахожыя глядзяць.
Каменьчык кінеш — на вадзе
Не хочуць хвалі паміраць.

Сцяжынка сшэрхлая вядзе,
І сэрца прагне аддаваць.
Скажы мне, птушкам у гняздзе
Чаму не хочацца спяваць?

Чаму аддана на прастор
Пад ветравеі і дажджы
Ляцяць яны, каб ладзіць хор.
Як і душа твая, скажы?

Вячэра стыне на стале,
Ды не хапае сумных воч.
І ты не можаш у жытле,
І ты кіруешся у ноч.

Прысніцца раніцай міраж,
Табе жаданы аднаму.
...Каб чалавек не паміраў,
Вы адгукніцеся яму!

**Назву — «Жалейка» — самадзейныя артысты ўзялі невыпадкова. Творы, ідэі, вобразы Янкі Купалы, як і Якуба Коласа, аказвалі і аказваюць на калектыў вялікае ўздзеянне, натхняюць яго, даюць новыя імпульсы ў пошуках, здзяйсненнях. Нездарма побач з самой назвай нязменна значацца партрэты Купалы і Коласа. Дарэчы, жалейкаўцы неаднаразова давалі сцэнічнае жыццё творам беларускіх класікаў, як і іншых нашых пісьменнікаў. А яшчэ больш ставілі і ставяць фальклорныя рэчы — сцэнізацыі народных абрадаў, звычаяў, нарагодаў, гульняў і інш.**

# «БЕЛАРУС ГУЛЯЕ...»

## Новая праграма народнага фальклорнага тэатра «ЖАЛЕЙКА»

У нас, асабліва апошнім часам, шмат што робіцца па зберажэнні для нашчадкаў духоўных набыткаў, культуры продкаў. Напрыклад, выдадзены і навукова пракаменціраваны трыццацітомны збор беларускага фальклору — з'ява выключная, унікальная не толькі сярод славянскіх народаў. Якое неацэннае багацце! А пачалі ж збіраць фальклор, запісваць творы даволі позна, і, відаць, многае беззваротна страчана. Ды і з запісанага, каб укласціся ў памеры выдання, давялося рабіць вялікі, строгі адбор. І тым не менш.

Можна было б прыводзіць і іншыя добрыя прыклады, скажам, выпуск Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, шэрагу найкаштоўнейшых энцыклапедычных выданняў. І ўсё ж з імклівым развіццём цывілізацыі многае з нашага духоўнага багацця катастрафічна знікае. Рвецца даўняя і раней вельмі трывалая традыцыя перадачы з пакалення ў пакаленне звычаяў, характэрных асаблівасцей побыту, народнай мудрасці, што выпрацоўвалася стагоддзямі. Старыя яе носьбіты (час няўмольны!) назаўсёды адыходзяць, а іх найбагацейшая спадчына, хіба што за рэдкім-рэдкім выключэннем, не перадаецца. Усё адно як нікому яна і не патрэбна: маўляў, навошта іх старасветчына, цяпер у нас усё новае, «гарадское». Не навучае бабулька дачку ці ўнучку, скажам, умельству народнага ткацтва, вышыўкі. А тыя прыгожыя, святочныя строі, якія раней назапасіла ў сваю апошнюю дарогу («на смерць»), кладуцца разам з ёй ў труну, засыпаюцца пяском. Нешта падобнае адбываецца і з іншымі рамествамі, і шырэй — з нашай даўняй матэрыяльнай і духоўнай культурай. Страчваецца пераемнасць, рвецца повязь часоў.

Таму самай моцнай падтрымкі заслугоўваюць тыя дзеячы, якія шчыра руплівяцца, каб зберагчы, захаваць народнае багацце, перадаць яго новым пакаленням. Напрыклад, наш слынны прафесар філалогіі Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі нястомна збірае і, як кажуць, уводзіць у наш агульны (а не толькі ў навуковы і літаратурны) ужытак крылатыя народныя выразы, сапраўдныя моўныя дыяменты. Мастацтвазнаўца Міхась Раманюк паспеў за доўгія гады сваёй збіральніцкай дзейнасці назапасіць багацейшы матэрыял па беларускіх народных строях, мастацкіх вырабах, многія з якіх таксама нішчыць час.

У галіне тэатральнага мастацтва такую місію ўзяў на сябе Мікола Макарцоў, стваральнік і нязменны кіраўнік народнага фальклорнага тэатра «Жалейка» з Гомеля. Ён скарыстоўвае любую магчымасць для вандровак па блізкіх і далёкіх вёсках, мястэчках Гомельшчыны, каб збіраць тэатральны фальклор беларускага Палесся. Чалавек неўтаймоўнай энергіі, незвычайнай улюбёнасці ў справу, якую выбраў, Макарцоў надзіва лёгка і хутка ўмее наладзіць з людзьмі кантакты. Адной старой жанчыне накляпае касу, скосіць абмежак, другой паколе дровы, для трэцяй папросіць у старшыні калгаса каня, каб прывезці з лесу дровы, — і ўсе яны перад ім «раскрываюцца», расказваюць і паказваюць, «што і як раней рабілася». А расказаць і паказаць заўсёды ёсць што — беларус традыцыйна вельмі здольны да тэатралізаваных гульняў. Прынамсі, элементы драматычнага мастацтва спадарожнічаюць на працягу ледзь не ўсяго яго жыцця: ад абрадаў у гонар нараджэння і да пахавальных рытуалаў. Ды і сам Макарцоў, як кажуць, з ног да галавы чалавек тэатральны — ён валодае дарам успрымаць свет, жыццё людзей праз сцэнічныя выявы, так, як музыкант праз гукі, мастак праз фарбы. Цяпер ён ужо не толькі збіральнік, а і носьбіт тэатральнага фальклору. І перш за ўсё перадае яго ўзоры калектыву «Жалейкі». У пэўнай мастацкай апрацоўцы, з улікам патрабаванняў нашага часу, але ў форме, блізкай да аўтэнтычнай, у стыхіі, роднай першакрыніцы.

Само становішча як бы складае своеасаблівую анталогію народных святаў, гульняў, звязаных з земляробчым цыклам работ. Праца селяніна тут таксама паказваецца, зразумела, ва ўмоўнай тэатральнай інтэрпрэтацыі. Але асноўнае ў спектаклі — гульні, ігрышчы.

Мы неяк прызвычаіліся ўжо ўяўляць вобраз нашага продка-селяніна як ціхага, стрыманага, цярплівага, што толькі і ведаў цяжкую, паднявольную працу, пакуты, гора. І не задумваемся, што быў ён і чалавекам бурных эмоцый, глыбокіх пачуццяў, які ўмеў у рэдкія вольныя хвіліны нястрымна весяліцца, радавацца, быў ён чалавекам вялікай, яркай азоранасці, высокіх духоўных узлётаў. Спектакль «Беларус гуляе» якраз і паказвае такія рысы людзей.

Ён пачынаецца са сцэны «Калядак», калі сяляне ўправіліся са сваёй работай. Гаспадар і гаспадыня запрашаюць мароз есці куццю і вядуць паміж сабой тэатралізаваны дыялог пра будучы ўраджай. Гэты дыялог ў свой час занатаваў Змітрок Бядуля, але ў «Жалейцы» ён разыгрываецца на мясцовым, «палескім» дыялекце. Затым у хату да гаспадароў завітваюць калядоўшчыкі, скамарохі з казой, буслам, мядзведзем. Пачынаюцца імправізаваныя гульні, песні, скокі.

За «Калядкамі» паказваецца сцэна «Гукання вясны». Яе змяняе «Русальны тыдзень» — народныя абрады, якія адшукаў і запісаў М. Макарцоў і цяпер упершыню робіць іх тэатральным набыткам. Гэтыя сцэны выконваюцца знешне стрымана, у іх пануе лірычны настрой.

Надыходзіць касьба, іграецца «Купалле». Карціна цяпер як бы напоўнена атмасферай таямнічасці, загадкавасцю гукаў, пахам лесу, вогнішчам кастра.

Пасля касьбы наблізілася жніво, самы гарачы час для жанок. А вось і доўгачаканыя «Дажынкі». Час умалоту, свята ўраджаю. Зноў жа песні, гульні, менавіта народная весялосць. Пачынаюцца беларускія «Ігрышчы» — «скокі, жарты на ўвесь свет». Тут і сцэнка «Мацей і доктар Баўтрамей», і розныя кепікі, каламбуры, паказы спрыту, усялякіх фокусаў. А ў фінале гэтага яркага, маляўнічага відовішча яго ўдзельнікі традыцыйна запрашаюць гледачоў на агульныя скокі, на калектыўную спеўку.

У спектаклі «Беларус гуляе» М. Макарцоў выкарыстоўвае шырокі спектр выяўленчых фарбаў і выканаўчых прыёмаў: ад буфанады, найгарэзнейшага гумару, жартаў — да ўнутранай стрыманасці, пранікнёнай лірыкі, псіхалагічнай напоўненасці і заглыбленасці. Пакуль, неабходна адзначыць, пастаноўшчыку больш блізкія сакавітыя раблезіянскія фарбы. Іншымі ж, прыцішанымі, трэба яшчэ авалодваць. Як і майстэрствам рытмічнай пабудовы відовішча, асабліва пад час змен карцін, кампазіцыйнай завершанасці.

Вітаючы ў цэлым вельмі ўдалы паказ фальклорных свят у гонар працы, хацелася б пажадаць калектыву стварыць вось такую ж тэатральную анталогію, звязаную з кругаваротам людскога жыцця, так сказаць, з яго цыклам, з якога таксама пачынаюцца багатыя драматургічныя элементы. «Жалейкаўцы» ўжо неаднаразова рабілі паспяховыя прарывы ў гэтую фальклорную спадчыну, справа цяпер у падрыхтоўцы спецыяльнай праграмы з жыцця чалавека, яго існасці.

На заканчэнне назаву, акрамя М. Макарцова, — сцэнарыста, пастаноўшчыка, педагога, — і некаторых іншых стваральнікаў спектакля «Беларус гуляе»: хормайстра І. Якушэвіча, балетмайстра Л. Іванова, музычных кіраўнікоў В. Аляшкевіча і К. Дамасевіча, выканаўцаў У. Гонду, Г. Коваль, Л. Тарасевіч, С. Белавусава, Ю. Гусеніцу, Л. Блізнюка, У. Шаўчэнку, М. Зыблева, А. Пікоўскую, В. Рабічэнку... У народным відовішчы бярэ ўдзел каля сарака чалавек — людзей самых розных прафесій, заняткаў, узросту: ад пяці гадоў і да васьмідзесяці. Аб'ядноўвае ўсіх — любоў да мастацтва і вера ў тую добрую, высакародную справу, якую яны робяць. І яшчэ трэба дадаць, што сваю новую пастаноўку «Беларус гуляе» калектыў «Жалейкі» прысвяціў сямідзесяцігоддзю Вялікага Кастрычніка.

Анатоль САБАЛЕЎСКІ.



«Расступіцеся ўсе людзі...»



Музыкі І. Якушэвіч, Ю. Гусеніца, Л. Блізнюк.



Прыйшлі калядоўнікі да гаспадара.



М. Макарцоў сярод удзельнікаў «Жалейкі».



Народная жартоўная сцэнка «Тры дзяды, тры дзяды пакахалі бабу...» Баба — Г. Коваль, дзяды — У. Шаўчэнка, В. Рабічэнка, У. Гонда.

Фота Ул. КРУКА.

## ГАЛАСЫ СЯБРОЎ

**Вядомы ўкраінскі паэт Пятро Ігнатавіч Гарэцкі — аўтар многіх кніг паэзіі, сярод якіх зборнікі вершаў «Дружба», «Вечнае цяпло», «Выток», «Мая любоў», «З дарог жыцця» і іншыя. У мінулым годзе ў выдавецтве «Савецкі пісьменнік» (Кіеў) выйшла яго новая кніга «Зачаlivанасць». У ёй, як і ў папярэдніх кнігах, шмат вершаў аўтар прысвячае «сінявокай сястры Украіны» — Беларусі, яе чароўнай прыродзе, мясцінам, звязаным з жыццём і творчасцю Янкі Купалы. Акрамя таго, Гарэцкі перакладаў на ўкраінскую мову для асобных кніг і перыядычнага друку вершы многіх беларускіх паэтаў — Я. Купалы, П. Броўкі, М. Танка, А. Астрэйкі, А. Бялевіча, А. Вялюгіна, Р. Няхая і іншых.**

**Беларускі чытач знаёмы з творчасцю Пятра Гарэцкага па кнізе «З дняпроўскіх круч», якая выходзіла ў 1969 годзе ў Мінску ў выдавецтве «Беларусь». Паэзія яго шчырая, простая, вылучаецца надзённасцю жыццёвых праблем, публіцыстычнасцю і лірызмам.**

**Прапаную чытачам «ЛіМа» два вершы ўкраінскага сябра ў сваім перакладзе.**

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА.**

**Пятро ГАРЭЦКІ**

### *Нарач*

Азёр нямала на Украіне.
А Нарач — возера ў сяброў:
Жывы прастор
Пад небам сінім
Ад берагоў да берагоў.

Па-над вадою хвояў шаты
Аб лёсе гутараць сваім.
Не раз
У будні і на святы
Стаяў я ў роздуме над ім.

Бруіцца светлае бяздонне
Як срэбра чыстае расы.
Прыроды матчынай улонне,
Разбег блакітнае красы.

Крык быстрых чаек над вадою,
Сляды ружовых бліскавіц.
А ў лузе тонкаю струною
Звіняць струменьчыкі крыніц.

Я аддаваў тут на світанках
Паклон гасціннаму кутку, —
Ішоў у дом
Максіма Танка
Па нарачанскім беражку.

Як часта вогнік тут не гасне
Усю ноч між сосен і дубоў.
І сэрца чуе ў новым часе
Дыханне танкавых радкоў.

Я чую сэрцам кліч Айчыны.
О нарачанскі бор!—гудзі,
Мяне знаёмаю сцяжынай
Не раз
На Нарач прывядзі.

### *Дабрыня*

Не, не проста цераз леты, зімы
Па драўляным мосце перайсці.
Край братэрскі!
Многім людзям з ім мы
Дабрыню прыносілі ў жыцці.

Па Купалавай ішлі мы сцежцы
У новы поўдзень сонечнага дня.
У вясновай залатой усмешцы
І ў зімы—ва ўсім ёсць дабрыня.

Нам яна прыносіць
празарлівасць,
Больш дае любві, жыццю —
агню.
І, напэўна, той навек шчаслівы,
Хто займеў такую дабрыню.

## ЧЫТАЧ СТАВІЦЬ ПЫТАННЕ

# ХАЙ БУДЗЕ СІКОРАЎ САД

БЫВАЕ так: жыве чалавек, шмат добрага робіць людзям, Радзіме. Яго паважаюць. Цэняць. Узнагароджваюць. А не стала — забываюць.

Так сталася з Іванам Паўлавічам Сікорам, таленавітым даследчыкам-селекцыянерам. У свой час яго ведалі не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. А што сёння? Ці ведаюць пра яго тыя, што нарадзіліся дзесяць, дваццаць гадоў назад? Ці ёсць дзе-небудзь у школе або ў Доме культуры які куток пра гэтага цікавага чалавека? Ну хоць бы на Віцебшчыне? Ці яшчэ бліжэй, у Шаркоўшчынскім раёне, дзе ён жыў і працаваў? А пра яго ж зроблены аж два кінафільмы. Пра яго сказана ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Пра яго пісалі ў газетах і часопісах...

Як ні рупіліся працаўнікі музеяў, але і яны штокольвечы прагледзелі. Узяць хоць бы Віцебскі краязнаўчы. Два дзесяткі гадоў мінула з дня смерці І. Сікоры, але за гэты час тут амаль нічога не зроблена, каб набыць неабходныя экспанаты, сабраць дакументальны матэрыял, каб пацвердзіць памяць пра вядомага аматара прыроды.

Нядаўна споўнілася сто гадоў з дня нараджэння І. Сікоры. У музеі спахапіліся: круглая дата! Трэба штосьці рабіць. Пачалі збіраць матэрыялы. А гэта ўжо няпроста. Шмат што згубілася. У доследніка была асабістая бібліятэка, якой мог пазайздросціць вучоны, пісьменнік, журналіст. Дзе яна цяпер, гэтая бібліятэка? Былі поўныя папкі перапіскі з вучонымі, навуковымі ўстановамі, рэдакцыямі газет і часопісаў. Амаль нічога не засталося.

Лепш позна, чым ніколі. Узяліся краязнаўцы і сёе-тое зрабілі. Найбольш шчыравала тут навуковы супрацоўнік музея Ала Аляксандраўна Букіна. Звярнулася да тых, хто добра ведаў Сікору. Напісала пісьмы. Пазваніла па тэлефоне. Правяла гутаркі. Глядзіш — справа зрушылася з месца. Дачка доследніка Лідзія Іванаўна даслала некалькі кніг, што цудам захаваліся, з асабістай бібліятэкі. На іх мы бачым экслібрыс Сікоры.

Дарэчы, пра экслібрыс. Яго стварыў гадоў дваццаць таму назад былы студэнт Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, цяпер заслужаны дзеяч мастацтваў БССР прафесар Васіль Пятровіч Шаранговіч. Падарунак мастака — сведчанне глыбокай павагі да вядомага ў народзе садоўніка-доследніка, заўзятага кнігалюба.

Тое, што прыслала дачка Сікоры, мае асаблівую каштоўнасць. Гэта перш-наперш кніжка «Садоўніцкая чытанка». Яна была выдадзена ў Вільні (1938 год), надрукавана ў Беларускай друкарні імя Францыска Скарыны.

І. Сікора з маленства захапляўся садоўніцтвам. А да таго часу, калі рыхтавалася кніжка для сялян, набыў ужо значны вопыт. Таму не дзіва, што ён прыняў актыўны ўдзел у «Чытанцы». Там два яго артыкулы: «У садку вясной» і «Якія дрэўцы садзіць у садку». Напісаны яны цікава, выразна і проста. Відаць, аўтар шчыра клапаціўся пра тое, каб яго парады былі зразумелыя ўсім, нават малапісьменнаму вяскоўцу. Пад кожным артыкулам — подпіс: Іван Сікора.

Добрыя парады даваў дасведчаны зямляк сваім сялянам. Шмат якія з тых парад спатрэбіліся б і сёння пачынаючым садоўнікам. Аўтар засцерагае ад памылак: не загушчаць сады, не садзіць абы-якія гатункі, сачыць за фарміраваннем кроны. Артыкул «Якія дрэўцы садзіць у садку» Сікора заканчвае зусім надзённымі словамі: «Пры канцы хачу дадаць, што ўдачы ў садоўніцтве дачакаецца толькі той, хто працу сваю любіць і хто не спадзяецца, што сама сабой зробіцца».

Каштоўную кнігу з экслібрысам І. Сікоры даслала ў музей настаўніца Слабодскай сярэдняй школы (Шаркоўшчынскі раён) Е. Райчонак. Гэта «Батанічны атлас», капітальная праца вучоных пад агульнай рэдакцыяй члена-карэспандэнта АН СССР Б. К. Шышкіна, выдадзены ў 1963 годзе. Даецца апісанне шырока распаўсюджаных на тэрыторыі СССР раслін, якія маюць народнагаспадарчае значэнне. Бадай, палову тома складаюць каляровыя малюнкі.

З экслібрысам Сікоры трапіў у музей чацвёрты том Збору твораў Дарвіна на рускай мове «Аб паходжанні відаў шляхам натуральнага адбору». Гэтая рэдкая цяпер кніга выйшла ў выдавецтве «Вестника Знания» (С.-Пецярбург, 1910 год). Такі падарунак музею ад бібліятэкі Шаркоўшчынскага райкома КПБ.

## ПАЛІТЫКА ІДЭАЛОГІЯ

# БІЗНЕС І КУЛЬТУРА

Сродкі прапагандысцкага ўздзеяння на грамадскую думку ў ЗША, асабліва сродкі масавай інфармацыі, усяляк спрабуюць стварыць уяўленне аб незалежным характары розных сфер грамадскага жыцця. І, натуральна, самым катэгарычным чынам яны адмаўляюць залежнае становішча культуры ў «свабодным свеце». Згодна з поглядамі, якія яны прапаведуюць, культурнае жыццё грамадства, яго шматлікія культурныя інстытуты нібыта ніякім чынам не залежаць ад інтарэсаў манаполій і палітыкі.

Аднак усё гэта далёка ад ісціны. Сродкі масавай інфармацыі, выдавецтвы, арганізацыі, якія займаюцца пытаннямі адпачынку і забаў, не толькі падпарадкаваны ідэалогіі «вялікага бізнесу», але і самі з'яўляюцца яго неад'емным кампанентам, састаўной часткай буйнейшых кангламератаў.

Акрамя таго, так званыя некамерчаскія культурныя ўстановы, напрыклад, школы, музеі, навукова-даследчыя таварыствы, розныя фонды і універсітэты арганізаваны па ўзору і падабенству камерчаскіх прадпрыемстваў. Кіруюць імі саветы дырэктараў (ці апекуноў), члены якіх належаць да дзелавых колаў. Такія саветы кіруюць усёй дзейнасцю установ: зацвярджаюць бюджэт, камплектуюць штаты, заахвочваюць і караюць супрацоўнікаў (аж да звальнення), вызначаюць напрамкі дзейнасці. Члены саветаў дырэктараў ці самі займаюць кіруючыя пасты, ці прызначаюць на іх патрэбных ім асоб. Яны надзелены амаль абсалютнай уладай і могуць рабіць любыя змены ў кіраўніцтве ўстаноў. Прымаючы асноўныя рашэнні, дырэктары ў сваіх дзеяннях зыходзяць не з патрабаванняў большасці, а з класавых інтарэсаў. Дырэктары не маюць патрэбы ў нейкай сістэме выбараў, у іх няма афіцыйнай апазіцыі, яны не абавязаны трымаць справаздачу перад радавымі супрацоўнікамі, у іх няма неабходнасці заваёўваць давер тых асоб, лёсам якіх яны распараджаюцца.

Такім чынам, культура неаддзельная ад бізнесу, а адзінкі культурнай структуры неаддзельныя адна ад адной. Найбольш актыўныя і заможныя бізнесмены або валодаюць адразу некалькімі культурнымі ўстановамі ці арганізацыямі, або цалкам кантралююць іх дзейнасць, у выніку чаго ўтвараецца цэлая сістэма ўзаемазалежных, а часта і ўзаемазаменных дырэктаратаў. Многія буйныя бізнесмены з'яўляюцца не толькі прэзідэнтамі банкаў або карпарацый, а і рэгентамі буйных універсітэтаў, апекунамі цэнтраў мастацтваў, уваходзяць у саветы дырэктараў уплывовых газет і часопісаў, фондаў і тэлекампаній.

Звернемся да канкрэтных галін культуры. Сярод установ, якія неабгрунтавана лічацца «аўтаномнымі» і «дэмакратычнымі», часцей за ўсё называюць школы і універсітэты. Але, як паказваюць розныя абследаванні, у школах ЗША выкладаюць сістэму каштоўнасцей пануючага класа, забараняючы распаўсюджваюць інфармацыю і выказваць меркаванні, якія супярэчаць буржуазнай ідэалогіі. У старэйшых класах навучаюць «барацьбе з камунізмам» і выкладаюць спустошаны курс гісторыі Амерыкі і сусветнай гісторыі. Развіццё капіталізму паўплывала і на вышэйшыя навучальныя ўстановы. Мінуў час класічнай адукацыі, у якой цэнтральнае месца адводзілася закону божаму; сёння універсітэты і каледжы задавальняюць патрэбы прамысловасці, выконваючы яе заказы. Бізнес ажыццяўляе строгі кантроль за дзейнасцю гэтых адукацыйных установ, выкарыстоўваючы розныя асацыяцыі і ўрадавыя рэсурсы. Толькі адзін Пентагон фінансуе дзве трэці ўсіх фундаментальных навукова-даследчых і доследна-канструктарскіх распрацовак. Такая залежнасць універсітэтаў ад багатых асацыяцый, буйных карпарацый і ўрадавых заказаў не магла не паўплываць на змест праводзімых у іх тэарэтычных даследаванняў і на іх вучэбныя праграмы. Тым не менш большасць з тых, хто знаходзіцца на такім забеспячэнні, крычаць аб сваёй незалежнасці і непадкупнасці. І гэту іх дзіўную «незалежнасць» ад сваіх апекуноў можна параўнаць толькі з не менш дзіўнай «незалежнасцю» кангрэсменаў ад фінансавых колаў, якія ўкладваюць шчодрыя сродкі ў іх выбарчыя кампаніі.

«Свабодныя і незалежныя» каледжы і універсітэты Злучаных Штатаў пазбаўлены магчымасці распараджацца сваім лёсам. Як ужо адзначалася, імі кіруюць саветы апекуноў, амаль усе члены якіх належаць да дзелавых колаў. Апекунамі Калумбійскага універсітэта, напрыклад, з'яўляюцца фінансавыя магнаты, банкіры і дырэктары такіх карпарацый, як «Локхід», «Кон Эдзісон», «Ай Бі Эм» і «Сі Бі Эс».

Вельмі часта гаворыцца і пішацца аб «свабодзе» і «незалежнасці» прэсы ў Злучаных Штатах. Фактычна ж інфармацыйныя сродкі ўяўляюць сабой гіганцкія прыбытковыя кангламераты, якія належаць буйным банкам і даволі заможным кансерватарам і імі кантралююцца. Карэспандэнты і рэдактары, якія працуюць на іх, бачаць свет іх вачамі, вачамі ўладальнікаў рэкламных агенцтваў, галоўных асоб карпарацый і супрацоўнікаў Пентагона.

Сродкі інфармацыі, якія належаць «вялікаму бізнесу», паказваюць Злучаныя Штаты «набожнымі» і «праведнымі», гэтакім «бастыёнам дэмакратыі», які стаіць на шляху «камуністычнай агрэсіі». Пастаяннае паўтарэнне гэтых штампаў на працягу дзесяцігоддзяў, натуральна, аказвае свой уплыў. Супрацоўнікі сродкаў інфармацыі заяўляюць аб тым, што іх інфармацыя з'яўляецца «аб'ектыўнай» і «нейтральнай». На справе ж гэтая «аб'ектыўнасць» азначае, што інфармацыя, напрыклад, пра Індакітай, Блізкі Усход, Цэнтральную Амерыку, Усходнюю Еўропу даецца з пазіцыі Дзяржаўнага дэпартамента. Іх «аб'ектыўнасць» азначае замоўчванне або адмаўленне дасягненняў сацыялістычных краін. Такая «аб'ектыўнасць» азначае раздзьмуванне міфу аб «савецкай пагрозе» і характэрныя для часоў «халоднай вайны» рэпартажы пра Нікарагуа, Сальвадор, пра «ўціхамiранне» Грэнады. Гэтая «аб'ектыўнасць» азначае паведамленні аб забастоўках з пазіцый гаспадароў. Іншымі словамі, «аб'ектыўнасць» пастаўлена на службу інтарэсам капіталістычнай ідэалогіі.

Калі закрануць сферу забаў, то і тут карціна будзе такая ж самая. І ў гэтай сферы, як быццам зусім «незалежнай» і «свабоднай» ад палітыкі, свет паўстае ў патрэбным капіталізму абліччы. За некалькімі выключэннямі, фільмы прагрэсіўнага, дэмакратычнага, антыімперыялістычнага зместу, якія адстойваюць ідэалы міру, асуджаны на невядомасць, на па-

Дарэчы, райкомаўская бібліятэка падарыла музею і яшчэ адну кнігу з экслібрысам Сікоры. Гэта капітальная праца С. Ф. Чарненкі, вучня і паплечніка І. У. Мічурына. Яе назва: «Паўстагоддзя работы ў садзе» (Дзяржаўнае выдавецтва сельскагаспадарчай літаратуры, Масква, 1957 год).

І. Сікора вёў перапіску з многімі выдатнымі садаводамі, вучонымі краіны, навуковымі ўстановамі. Ён цёпла адгукаўся на кожны ліст пачынаючага садоўніка, аматара прыроды, кнігалюба. Маскоўскі інжынер-канструктар Мар'яна Туктусь даслала ў музей цэлую папку (50 штук) пісьмаў І. Сікоры да яе бацькі, таксама інжынера, В. П. Паляніна. Пісьмы гэтыя датычаць 1955—1964 гадоў. Пачалося з адказу на запытанне па садоўніцтву, а вырасла ў працяглую сяброўскую перапіску пра ахову прыроды, кнігі, мастацтва.

Сярод перапіскі з вучонымі (тры папкі іх даслала Л. Сікора) асаблівую цікавасць выклікаюць пісьмы акадэміка УАСГНІЛ Міхаіла Апанасавіча Лісавенкі. Гэта той Лісавенка, якога Мічурын назваў пачынальнікам сібірскага садоўніцтва. Сікора і Лісавенка ніколі не бачыліся, сустракаліся толькі ў перапісцы. Але ж якое гэта было сяброўства! Пра што яны толькі ні размаўлялі. І пра сібірскія яблыні, што, як гарбузы, па зямлі сцелюцца, і пра беларускі агрэст, пра кнігі і пісьменнікаў, і пра фіялкі (браткі), якія акадэмік, між справай, пяшчотна вырошчваў пад акном на ўласнай градцы...

Сёе-тое набыў Віцебскі краязнаўчы. Малавата. Але ж і яно мае сваю каштоўнасць. Матэрыялы пра Сікору вартыя ўвагі. Імі зацікавяцца даследчыкі, навуковыя супрацоўнікі, журналісты. Спадзяёмся, што супрацоўнікі музея праявяць актыўнасць, пашыраць куток таленавітага земляка-самародка. Так. Яны маглі б зрабіць куды больш. Маглі б... Каб тыя ўстановы, ад якіх залежыць справа, надалі болей увагі музею.

— Гэта ж ганьба, што наш музей колькі год цісне́цца ў зусім непрыстасаваным памяшканні,— гаворыць навуковы супрацоўнік Ала Букіна. — Мы нават не можам разгарнуць экспазіцыю. Колькі год экспанаты пыляцца ў запасніках! Так цесна і завалена, што не можам прыняць наведвальніка. Дзе ўжо там — экскурсію!

Скарга слушная. Кіраўнікам культуры варта было б зазірнуць у закуткі дома № 4 па вуліцы Льва Талстога, дзе туліцца абласны краязнаўчы. Варта зазірнуць. Каб зрабіць вывады.

Гэта датычыць музея наогул. Але два словы зноў пра Сікору. Сікора цікавіць нас не толькі як выдатны садоўнік, даследнік, селекцыянер. Ён быў Інтэлігентам з вялікай літары. Педагогам ад нараджэння. Кнігалюбам. Прапагандыстам. Яго імя і вопыт павінны адыграць сваю ролю ў выхаванні моладзі. Такую думку выказаў калектыў Слабодскай сярэдняй школы ў пісьме, якое надрукавана ў часопісе «Сельское хозяйство Белоруссии». Настаўнікі і вучні гэтай школы прапануюць стварыць на сядзібе Сікоры мемарыяльны музей, захаваць доследны сад умельца і, апроч таго, пасадзіць ля Слабодскай сярэдняй школы на грамадскіх пачатках сад-дэндрарый памяці Сікоры. Гэтую прапанову падтрымліваюць іншыя калектывы. Ці не пара Віцебскаму аблвыканкому і аблаграпрому разгледзець гэтае пытанне, каб надаць справе належны ход?

**Васіль МІНАЎ,**
**журналіст.**

г. Мінск.

---

каз перад нешматлікімі аўдыторыямі. І, наадварот, доўгія гады тэлебачанне і Галівуд нашпігоўваюць масавага гледача фільмамі аб «чырвонай пагрозе», шпіёнскімі баевікамі, якія багаты на сцэны насілля, расізму, сексу, цынізму, мілітарызму і іншых «маральных» каштоўнасцей.

За рэдкім выключэннем, тэатры ў ЗША існуюць на датацыі, у тым ліку і манаполій, прыватных мецэнатаў. Фінансавая залежнасць вядзе да страты творчай самастойнасці. Гэта прызнаецца і самімі дзеячамі тэатральнага мастацтва ў ЗША. «Тэатр ёсць і заўсёды будзе заставацца звязаным з палітыкай»,—заяўляе кіраўнік Амерыканскага нацыянальнага тэатра ў Вашынгтоне Пітэр Селарс, адзін з вядучых наватараў у амерыканскім тэатры. Да гэтай, увогуле правільнай ацэнкі, застаецца дадаць толькі тое, што П. Селарс апусціў у сваім артыкуле,—а іменна, што палітыку амерыканскаму тэатру дыктуюць грашовыя магнаты.

Манаполіі трымаюць сваю руку на сферы сацыяльнай і творчай дзейнасці, якія некалі былі неад'емнай часткай народнай культуры. Капіталізм пранікае ва ўсе галіны культурнага жыцця, ламаючы і перабудоўваючы іх адпаведна са сваімі патрэбамі, аказваючы ўплыў не толькі на работу, а і на творчасць людзей. Свет мастацтва неадлучны ад рынка мастацтва, на якім пануе невялікая групка фінансавых магнатаў, такіх, як Гардфорд, Геці, Ракфелер. Для іх мастацтва—не частка агульнай спадчыны чалавецтва, а прадмет выгаднага змяшчэння капіталу. Яны фінансуюць музеі і буйнейшыя выстаўкі, выдавецтвы, што выпускаюць кнігі і дарагія часопісы па мастацтве, школы і цэнтры мастацтваў. У свеце чыстагану той, хто плаціць грошы, той і заказвае музыку. З'яўляючыся апекунамі, выдаўцамі і патронамі, манаполіі ўплываюць на стварэнне і распаўсюджанне твораў мастацтва, устанаўліваюць палітычныя абмежаванні для творчага самавыяўлення. І калі мастак выходзіць за ўстаноўленыя імі межы, ён наўрад ці можа спадзявацца на ўдзел у выстаўках. Мастацтву, змест якога вылучаецца радыкалізмам, адразу ж навешваюць бірку — «прапаганда».

У апошні час мастацкія выстаўкі ўсё часцей фінансуюць не асобныя патроны, а цэлыя карпарацыі. За мінулыя дваццаць гадоў на арганізацыю розных вернісажаў карпарацыямі было выдаткавана больш за 3 мільёны долараў. Сродкі масавай інфармацыі падносяць усё гэта як буйнейшую з'яву, станоўчы зрух у свеце мастацтва. Сапраўды, выстаўкі наладжваюцца. Але паказальна, што творы мастацтва для іх адбіраюць не мастацтвазнаўцы, а прамыслоўцы і іх падручныя з «Мобіл Карпарэйшн» ці «Філіп Морыс Інкарпарэйтэд».

**А. САННІКАЎ,**
**супрацоўнік Сакратарыята ААН па квоце БССР.**

---

## НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

**У 1962 годзе Аляксандр Вампілаў наведаў Краснапольшчыну і разам з артыстамі краснапольскага народнага тэатра выязджаў у вёску Карма-Пайкі калгаса імя Жданава. Пасля гэтай паездкі пад уражаннем ад спектакля артыстаў-аматараў з'явілася апавяданне «Сонца ў буславым гняздзе», якое я прапаную чытачам «ЛіМа» ў сваім перакладзе.**

**Таварыскі гурток аматараў сцэны быў створаны ў Краснаполлі ў першыя гады Савецкай улады. Арганізатарамі, стваральнікамі яго былі настаўнікі браты Васіль і Андрэй Шашалевічы і Аляксандр Грубэ—пазней вядомы савецкі скульптар. Грубэ пісаў: «Ішоў 1918 год. З вясны давялося працаваць чорнарабочым на палях і ў садах. А восенню ў Краснаполлі была створана адзіная працоўная школа 2-й ступені. Мяне запрасілі ў гэтую школу настаўнікам прыродазнаўчых навук і графічных мастацтваў. Першыя гады Савецкай улады азнаменаваліся вялікай цягай народа да культуры. У Краснаполлі настаўнікі і вучні старэйшых класаў стварылі самадзейны тэатральны гурток. Уся арганізацыйная работа ў гэтым гуртку легла на мяне. Пісаў дэкарацыі, быў рэжысёрам і сам іграў. Мы паставілі каля трыццаці п'ес».**

**Па ўсяму відаць, што гэты час, час рэвалюцыйных змен у грамадстве, і сапраўды спрыяў развіццю творчых здольнасцей. Настаўнікі Шашалевічы былі аўтарамі першых п'ес, што ставіліся акцёрамі-аматарамі, Аляксандр Грубэ, акрамя заняткаў тэатральным мастацтвам, зрабіў у той час у Краснаполлі свае першыя скульптурныя работы— партрэты У. І. Леніна і К. Маркса.**

**А любоў да сцэны, да тэатра, як спадчына, перадавалася ў Краснаполлі ад аднаго пакалення да другога. З цягам часу гурткоўцы звярталіся да больш складаных твораў. У іх рэпертуары з'явіўся М. Горкі і — назаўсёды — беларускія драматургі: К. Крапіва, І. Мележ, І. Шамякін, І. Козел, В. Гарбацэвіч, А. Дудараў.**

**Дваццаць пяць гадоў калектыў тэатра носіць званне народнага. Свае спектаклі тэатр паказваў не толькі жыхарам Краснаполля, але, вандруючы на колах, выступаў у Чавусах і Шклове, Чэрыкаве і Крычаве, Касцюковічах і Клімавічах, калгасах і саўгасах Магілёўшчыны і суседняй Гомельскай вобласці.**

**Кіруе калектывам аматарскага тэатра В. Ермаловіч, не проста энтузіяст сваёй справы, але чалавек рэдкай душэўнай прыгажосці. Таму, відаць, сярод іншых выступленняў на з'ездзе Саюза тэатральных дзеячаў БССР, усхваляваная прамова Валянціна Іванавіча пра багацце і спадчыну беларускай драматургіі выклікала такі водгук у дэлегатаў і гасцей з'езда.**

**Ёсць у Краснапольскім тэатры і свой летапісец — Леанід Васільевіч Лабаноўскі, чалавек, вельмі паважаны землякамі, якога ведаюць усе — ад малога да вялікага. Леанід Васільевіч— настаўнік гісторыі, у свой час — рэжысёр, потым акцёр-аматар, палымяны прапагандыст тэатральнага мастацтва. У творчых планах Леаніда Васільевіча — кніга пра тэатр у Краснаполлі. Гэта і пра яго, пра Лабаноўскага, напісаў Аляксандр Вампілаў у сваім апавяданні, а таксама і пра Івана Рыгоравіча Вялюгу, у мінулым настаўніка, і пра іншых артыстаў-аматараў.**

**А ў той вечар у Карма-Пайках, пра які расказаў Аляксандр Вампілаў, быў выязны спектакль. Ігралі «Лявоніху на арбіце» Андрэя Макаёнка.**

**Вера САВІНА.**

---

**Аляксандр ВАМПІЛАЎ**

# СОНЦА Ў БУСЛАВЫМ ГНЯЗДЗЕ

*АПАВЯДАННЕ*

ПРА што думае чалавек, які ніколі ў жыцці не бачыў ніводнага сапраўднага слана, ніколі не ездзіў у цягніку, ні разу не быў у тэатры? Пра што думае ён, седзячы на ганку вясковага клуба цёплым майскім вечарам? Можа, ён адчувае сябе нешчаслівым? Ні ў якім разе.

Ён сядзіць на ганку даволі шчаслівы, поўны дапытлівасці і здзіўлення гэтым цудоўным светам. Ён быў гатовы паверыць чаму хочаце, гатовы што хочаце зразумець. Знаёмы свет заканчваецца за дальнімі вербамі, пыльная дарога праз поле вядзе да цудаў і адкрыццяў.

Ён падстаўляе цёплым праменням сваю бялявую галаву і чакае, ці не закоціцца сонца ў буслава гняздо.

Ён сядзеў тут учора. Учора ён чакаў гэтага дзіва. Але сонца пракацілася над полем і села недзе ў дальнім лесе. Можа, сёння яно сядзе ў гняздо?

Учора ён запытаў:

— У гняздзе сонцу будзе цесна?

Яму адказалі:

— Дурань! Ідзі памый рукі.

Яму адказалі:

— Сонца далёка. Яно ніколі не сядзе ў буслава гняздо.

Яму адказалі:

— Сонца само па сабе, зямля сама па сабе. Калі б сонца села на зямлю, дык яно б усё спаліла. Зразумеў?

Ён зразумеў, але яму вельмі хацелася верыць, што сонца можа сесці ў буслава гняздо. І ён спадзяваўся, што калі-небудзь гэта здарыцца.

Так сядзіць ён на ганку, чакаючы незвычайнага, непадобнага на ўсё тое, што ён бачыў.

Калі сонца «запаліла» буслава жыллё, да клуба падкаціла машына. Віцька кінуўся да яе. Мільгаючы жоўтымі пяткамі, прыбеглі такія самыя, як ён. Ціхім вечарам дзіва чакалі ўсе кармапайкаўскія хлапчукі: у вёску прыязджаў тэатр.

Машына падалася да ганка, адкінулі борт. З кузава з'явіўся дом з фанеры, потым складзены стог сена, лесвіца і шмат чаго іншага. І нарэшце на ганак шлёгнулася згорнутая ў рулон месячная ноч. Усё гэта панеслі на сцэну і закрылі заслону...

Праз паўгадзіны на пыльную дарогу выскачыў чырвоны аўтобус. Прыехалі артысты. Яны пакурылі, паглядзелі на руды захад і зніклі за сцэнай.

З поля пачалі прыходзіць гледачы. Прыйшлі дзяўчынкі з Наваельні, на машыне прыехалі з Драгатыні. На матацыкле прыкаціў з саўгаса механізатар Сашка.

Неба цямнела. Нябачныя, лёталі ў паветры жукі. За клубам на траве механізатары не маглі больш адрозніваць масці карт.

Гэта быў час смутку і крыўды ўсіх басаногіх гледачоў. Віцька даведаўся, што ў клуб яго не пусцяць, прымусяць спаць. Але скажыце, хіба ж можна спаць, калі праз дарогу адбываецца дзіва? У дзірку на заслоне Віцька ўбачыў намаляваны на сцяне месяц. Ён чуў на сцэне таямнічы, як крык начной птушкі, стук. Ці мог ён зараз не ўбачыць усяго астатняга?

Адчынілі дзверы. Увайшлі і селі ў першым радзе дзесяцікласніцы. У іх руках квітнелі чаромхавыя галіны. Артысты тым часам мітусіліся ў пакойчыку за сцяной: грыміраваліся, з перапалоханымі тварамі бубнілі ролі.

Калі ўсё было гатова, раптам пагасла святло. У зале было ціха, але артысты нерваваліся, з'явіўся матарыст і аб'явіў, што стрэлка амперметра адхіляецца не ў той бок. Пачалася праверка праводкі.

— Калі што, — разгладжваючы прыклееныя вусы, сказаў Лабаноўскі, рэжысёр і выканаўца галоўнай ролі, — пакажам пры газніцы.

— А месячная ноч? Яна ж будзе згублена! — спалохаўся загадчык пастановачнай часткі.

— А грым? А нюансы? — захваляваліся выканаўцы жаночых ролей.

Тады некалькі слоў сказаў Іван Рыгоравіч Вялюга, настаўнік і артыст народнага тэатра.

— У вашым узросце, — сказаў ён і пыхнуў люлькай, на імгненне ў цемры срэбранымі іскрамі бліснулі яго сівыя валасы, — у вашым узросце я іграў пераважна пры газавых лямпах.

А ў зале было ціха. У зале цярпліва чакалі пачатку. Гледачы прасядзелі ў цемры паўтары гадзіны. Ніхто не пайшоў спаць. Цікава было ў гэтым перапоўненым, з бярвенняў зробленым тэатры ўспомніць размовы пра тое, што тэатр аджывае свой век.

У той час, калі ў гарадах заканчваюцца канцэрты, у клубе ўспыхнула святло і пакамячаная паркалёвая заслона адсунулася.

У палове адзінаццатай Віцька ўцёк са свайго ложка і праз мінуту заняў месца ля акна, сярод такіх жа, як і ён, гатовых зараўсці ад цікаўнасці гледачоў. Віцька прытуліўся да сцяны клуба.

У зале было цёмна. І на сцэне ён убачыў незвычайны стог, незвычайнага чалавека, незвычайнае ружжо. Усё гэта было асвечана незвычайна ядавіта-сінім святлом. І Віцькава сэрца заскакала ад прадчування дзіва.

Сонца села ў буслава гняздо.

Ішла другая дзея. Віцька і яго сябры папалі ў залу. Зачараваныя, яны сядзелі на падлозе каля самой сцэны. Зала смяялася, зала сердавала. Што будзе з гэтым прайдзісветам Лявонам? Што зробіць Лушка? Лявон лаўчыцца, запіраецца, строчыць даносы. Лушка не ведае, што рабіць.

— Кідай ты яго! — нечакана раяць ёй з сярэдніх радоў. — Ну яго, толькі мучыцца з ім!

Лявону нічога не застаецца, як выпраўляцца.

У сярэдзіне апошняй дзеі ізноў пагасла святло. Тут нехта засвяціў на сцэну электрычным ліхтарыкам.

Потым з'явіўся другі ліхтарык. Потым трэці. Павучальную гэтую гісторыю пра невядомага калгасніка Лявона закончылі пры святле электрычных ліхтарыкаў.

Ноч захутала ў немату хаты і вербы над хатамі. У небе над чорнай зямлёй застыў месяц і засвяцілі чыстыя зоркі — самыя дакладныя дэкарацыі ў самым вялікім, самым цудоўным, самым праўдзівым тэатры. У клубе адчыніліся дзверы, рэзнуў гармонік у знадворную цішыню. Заспявалі, загаманілі, ударылі ў бубен.

— Зоркі нехта прыклеіў да неба? — запытаўся Віцька, ахвотнік да цудаў. Ён не спаў.




Мікола ТАТУР

## Лісіная перабудова

Дырэктар Ліс адразу
выраішыў пытанне:
«Перабудова—
адміністраванне;
Яно—аснова выхавання!
Не трэба ні вучобы,
ні абмеркавання...
Што ж, Зайца—зняць!
Трусу—вымова!..»

Такая вось лісіная
——— перабудова!
Вядома, што ў сваёй нары
І Ліс магутны, толькі...
да пары.

## Доля пасіўнага

Яму ўжо не да абнаўлення,
Бо няма ў душы гарэння;
Засмактала яго ціна—
Абыякавасць, руціна.

# ФРАЗЫ

Калі зубы крытыкаў будуць расці хутчэй, чым крылы Пегасаў?

●

Маладыя з бацькамі мірна ўжываліся толькі ў сямейным альбоме.

●

Увесь час быў у руху: каціўся ўніз па службовай лесвіцы.

Р. РУМКО.

# МІНІЯЦЮРЫ

## Не пазнаў

Ліса абновачку купіла.
— Ды не пазнаць цябе,—
Лісе заўважыў Кот.—
Даха так знешні выгляд твой
змяніла,
Што ты цяпер—ну, выліты
Янот.

## Змарыўся

Конь скардзіўся:
— Мне годам дзень здаваўся!
Палкан:
— І я заўзята працаваў.
— А што рабіў ты?
— За катом ганяўся!
І ўсё ж віншуй мяне:
нягодніка дагнаў.

Л. ШАПУРОЎ.

# ДЗІВАК-ЧАЛАВЕК...










Мал. А. ПАПОВА.

# ДЫЯЛОГІ

— Ну як мая работа? — пытаецца малады навуковы супрацоўнік у свайго шэфа.
— Лічыце, калега, сябе маім сааўтарам, — парадаваў шэф.

●

— Вы добра захаваліся.
— Няўжо ў маладосці я таксама быў старым?

●

— Я думаю, трэба было б запрасіць суседа ў госці. А то ўсё ён ды ён запрашае, — прапанаваў муж.
— Але ён сапраўды можа прыйсці,—парыравала жонка.

●

— Ты думаеш, што я дурнейшая за цябе?
— Зусім не, але я магу памыліцца.

●

— Ты з твару змяніўся.
— А як ты мяне пазнаў?

Д. НАХАМКЕС.

Аляксандр ЛУК'ЯНЕНКА

# ГРАК-ХОРМАЙСТАР

*(Байка ў прозе)*

Меў Грак чорны фрак — дык і прызначылі ў птушыны хор хормайстрам. Замест вось таго шэрага непрыкметнага Салаўя.

— Так,— сказаў Грак, пазнаёміўшыся з выканаўцамі, — іншыя бляюць, цвіркаюць, той квакае, той буркуе, а хто-небудзь нават дазваляе сабе высвістваць... Але—досыць! З сённяшняга дня будзем дружна, усе, як адзін, каркаць. І каркаць—аж да выключэння кожнага, хто не захоча павышаць сваё выканаўчае майстэрства!

Пагроза паўплывала. Пераўчваюцца. Ох і хор будзе, ох і хор!..

Пераклаў з украінскай
М. БАЗАРЭВІЧ.

Сцяпан СІНІЦА

# ЭПІГРАМЫ

## СПРЫТНАМУ

Шчэ лепшая песня не спета,
Ды выспела крэда ў жыцці:
Абходзячы сродкі, да мэты
Рашучай хадою ісці.

## ДОБРАЗЫЧЛІЎЦУ

Прапануе ён падтрымку,
Кліча ўгору за сабой.
Але ў класіка ў абдымках
Маладому — о-ё-ёй...

## ТАЛЕНТ

Вялікі талент у жанчыны
(І вам скажу я — не адзіны):
Яна адна умее гэтак
З сяброў рабіць марыянетак.

## «КЛЮЧ»

Калі ні ўзлётаў, ні надзей —
Дапамагае юбілей.
Гэты «ключ» без намагання
Адкрывае ўсе выданні,
Адмыкае сто дзвярэй!

## ДАГАНЯЮЧЫ

Марудна спеў ён.
Хто ў тым вінаваты?
Яго цягнік стаў хуткасць
набіраць.
Ды толькі даганяючы — не
варта
Штурхацца, абурацца і
злаваць.

Зоран БОЖАВІЧ

# РОДНЫ КРАЙ

Стоячы каля дошкі, настаўніца старанна тлумачыла, чаго яна склікала гэты пазачарговы бацькоўскі сход. Яна зыходзіла з найлепшых намераў, калі задавала сачыненне «Мой родны край».

Ёй здавалася, што ўсе павінны атрымаць добрыя адзнакі, аднак выйшла ўсё наадварот — сачыненні катастрафічна слабыя.

Большасць пісала суха і скупа, некаторыя абмежаваліся некалькімі агульнымі сказамі, а нямала і такіх, хто ўвогуле абмінуў сутнасць тэмы. І сярод апошніх, на жаль, пераважна дзеці высокай інтэлігенцыі, між іншым, выдатнікі.

Каб гэта датычылася іншай тэмы, яна б і не хвалявалася, аднак паколькі гаворка заводзіцца пра радзіму, варта задумацца ўсім.

Нейкую хвіліну панавала маўчанне, а потым адазвалася грамадзянка Перыч. Яна разумее, у якім становішчы апынулася настаўніца, і таму хоча прапанаваць, каб таварыш Міціч выступіў з папулярнай лекцыяй пра радзіму: ён займае высокую пасаду і добра ведае гэтую матэрыю.

Настаўніца не выказала асаблівага задавальнення. Таварыш Міціч, безумоўна, вялікі патрыёт, калі займае такую пасаду, аднак ягоны сын за гэтае сачыненне атрымаў адзінку. Найлепшую работу напісаў Славалюб Ёванавіч, які вырас у Швецыі, дзе яго бацькі знаходзяцца на часовай працы амаль дваццаць год.

Потым узяў слова адвакат Петравіч. Ён найперш звярнуў увагу на складаную міжнародную сітуацыю, а далей вывеў, што ў такі час нялёгка любіць свой край. Яшчэ цяжэй пісаць пра яго. Ну як пісаць пра ўсе цяжкасці, з якімі мы сутыкнуліся? Ці не лепей узяць іншую, лягчэйшую тэму?

Настаўніца адказала, што радзіму трэба любіць заўсёды, а найбольш тады, калі ёй найцяжэй. Толькі так можна памагчы ёй пераадолець цяжкасці і развівацца далей. Вядома, яна не будзе залічваць гэтую пісьмовую работу, але тэму пакідае на другі раз. Няхай бацькі дапамогуць сваім сынам і дочкам як мага лепей падрыхтавацца.

Калі выйшлі са школы, бацькі спантанна сабраліся вакол таварыша Міціча.

Улічваючы ўсё тое, што яны казалі пра цэны, пра падзеі ў Косаве, пра атамныя электрастанцыі, ды пра новага старшыню Саюза пісьменнікаў Югаславіі, цяжка паверыць, што паўторнае сачыненне дасць лепшыя вынікі.

Пераклаў з
сербскахарвацкай
Іван ЧАРОТА.




з 4 па 10 мая

5 мая, 18.45

**«СУГУЧЧА»**

Размова пойдзе аб праблемах мастацкага перакладу.

5 мая, 20.20

**М. РАВЕЛЬ. «БАЛЕРО»**

Спектакль Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР.

*6 мая, 20.10*

**КАНЦЭРТ АНСАМБЛЯ НАРОДНАЙ МУЗЫКІ «СВЯТА»**

8 мая, 23.30

**«НАКЦЮРН»**

Творы Аладава і Багатырова выконваюць народны артыст БССР скрыпач Л. Гарэлік і заслужаная артыстка БССР піяністка Т. Міянсарава.

9 мая, 11.10

**«АНКЕТА ВОГНЕННЫХ ГАДОЎ»**

Вершы Р. Барадуліна, А. Дракахруста, Д. Бічэль-Загнетавай, А. Пысіна, А. Грачанікава, А. Вольскага пра барацьбу і перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне чытаюць артысты мінскіх тэатраў.

9 мая, 12.00

**«ПРЫЗЫЎНІК»**

Прэм'ера мастацкага фільма Беларускага тэлебачання. Аўтар сцэнарыя —Б. Казанаў. Рэжысёр — Ю. Хашчавацкі.

9 мая, 13.20

**«КРЫЛЫ ПАМЯЦІ»**

Музычная кампазіцыя паводле аднайменнага балета У. Кандрусевіча ў пастаноўцы Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР.

Балетмайстар — народны артыст БССР Ю. Траян.

Мастацкі кіраўнік і дырыжор — народны артыст СССР Я. Вашчак. Танцуе народная артыстка рэспублікі Л. Бржазоўская.

9 мая, 14.55

**«САЮЗ МАСТАЦТВА І ПРАЦЫ»**

*Сустрэча ансамбля песні і танца* ЧБВА з працаўнікамі станкабудаўнічага вытворчага аб'яднання імя Кастрычніцкай рэвалюцыі.

9 мая, 17.30

**«ТЭАТРАЛЬНАЯ ГАСЦІНАЯ»**

У ёй сабраліся тыя, хто прайшоў дарогамі вайны, і акцёры, якім давялося на сцэне іграць радавых і генералаў, удзельнічаць у франтавых канцэртных брыгадах. Аб тых незабыўных днях успаміналі Героі Савецкага Саюза А. А. Антонаў і А. І. Барданаў.

Вы пачуеце песні ваенных гадоў, убачыце ўрыўкі са спектакля «Радавыя».

У перадачы прымаюць удзел народныя артысты БССР Г. Гарбук, Ю. Ступакоў, З. Браварская, артысты В. Манаеў, Н. Руднева, В. Мазур і іншыя.

Вядучая — народная артыстка БССР *Л. Давідовіч.*

9 мая, 20.00

**«ДЗЕЛЯ ШЧАСЦЯ НА ЗЯМЛІ»**

Музычная праграма для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. У ёй выступяць Я. Еўдакімаў, Л. Гурчанка, ансамбль «Свята», С. Ратару, А. Градскі, В. Талкунова, А. Пугачова.

10 мая, 10.15

**«У ІМЯ ЖЫЦЦЯ»**

Інсцэніроўка вершаваных і празаічных твораў У. Караткевіча.

Выканаўцы: А. Каляда, удзельнікі тэатра «Жывое слова» Мінскага педагагічнага інстытута.

10 мая, 13.55

**«НОВЫ ЧАС—НОВЫЯ ЛЮДЗІ»**

У Доме літаратара адбудзецца сустрэча з пісьменнікам-публіцыстам А. Казловічам, які раскажа пра работу над нарысамі аб калгасе «Рассвет» імя Арлоўскага.

Урыўкі з нарысаў чытае народная артыстка БССР С. Станюта.

10 мая, 16.05

**«ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ»**

У тэлекіназале рэжысёр - аператар дакументальнага кіно М. Галдоўская.

10 мая, 20.15

**«ПРЫДЗВІНСКІЯ ЗАБАВЫ»**

Прэм'ера фільма-канцэрта Беларускага тэлебачання.

У ім здымаўся адзін з вядучых калектываў самадзейнага мастацтва лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, народны ансамбль песні і танца Палаца культуры бытавога абслугоўвання г. Віцебска.

Сцэнарый — А. Закіравай. Пастаноўка — В. Скорабагатчанкі.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02141 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі—33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў —33-24-62, аддзела інфармацыі —33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.